Алесь Корнеў

# ЯК ПЕСНЯ, ГОД МІНАЕ

Сентыментальная паэма

Брэст
“Альтернатива“
2010

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
К67

**Корнеў, А. К.**

К67 Як песня, год мінае : сентыментальная паэма / Алесь Корнеў. – Брэст : Альтернатива, 2010. – 288 с.

ISBN 978-985-521-172-4.

У паэме "Як песня, год мінае" паэт Алесь Корнеў паказаў шматфарбны вобраз роднай прыроды і жыццё лірычнага героя на працягу народнага каляндарнага года, яго адносіны да наваколля, да бацькоў і сяброў, да жанчын і, наогул, да ўсяго, чым жыве краіна.

**УДК 821.161.3-1**
**ББК 84(4Беи)-5**

**ISBN 978-985-521-172-4**



*Родная мова, ты, як маці, заўсёды ў маёй душы, ты нарадзіла ўва мне свядомасць, адданасць і любоў да Айчыны, даеш мне сілы жыць, працаваць і марыць, усяляеш веру ў будучае, надзяляеш мужнасцю і гонарам беларусам звацца. У рэшце рэшт ты яднаеш наша грамадства. Нездарма пра цябе так горача гаварыў беларускі класік Францішак Багушэвіч (1840–1900): "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмерлі!"*

*Вельмі трапна наконт мовы выказаўся і знакаміты рускі пісьменнік Канстанцін Паустоўскі (1892–1968): "По отношению каждого человека к своему языку можно совершенно точно судить не только о его культурном уровне, но и о его гражданской ценности. Истинная любовь к своей стране немыслима без любви к своему языку. Человек, равнодушный к своему языку, – дикарь. Он вредоносен по самой своей сути, потому что его безразличие к языку объясняется полнейшим безразличием к прошлому, настоящему и будущему своего народа".*

*Як можна быць абыякавым да цябе, мая родная мова, калі ты, як мілагучны ручай, цячэш у маім жыцці, падымаеш настрой, наталяеш лірычнымі хвалямі, якія міжволі выліваюцца ў хвалюючыя строфы, а часам у шырокую затоку паэмы, па якой хочацца плыць і плыць у нашу зорную прышласць.*

*Жыві, развівайся і бясконца квітней, мая родная мова!*

***Алесь Корнеў***



# ЯГО ТРЭБА І НЕАБХОДНА ЧЫТАЦЬ

У прадмове да адной з паэтычных кніг Алеся Корнева (а іх у яго ўжо 13 і выдадзены яны ў асноўным уласным коштам аўтара) адзін з яго рэцэнзентаў Віктар Сырыца сцвярджае, што “Алесь Корнеў – адзін з самых таленавітых і стваральных паэтаў найноўшай гісторыі баранавіцкай зямлі”. З гэтым нельга не пагадзіцца, але шчыльней знаёмячыся з творамі паэта, міжвольна пашыраеш геаграфію, якая ўжо даўно павінна належыць Алесю Корневу як паэту. Ён паэт не толькі баранавіцкай зямлі, а і ўсёй Берасцейшчыны; больш таго – усёй Беларусі. Сведчаннем гэтаму могуць служыць многія радкі і строфы ўсіх яго кніжак, асабліва рукапіс апошняй “Як песня, год мінае”. Кніга гэта просіцца, вядома, з пэўнымі агаворкамі (у яе свая тэма, свой ідэйны змест, свае героі, свая мэта, свае мастацкія сродкі і г. д.) у шэраг такіх выдатных твораў айчыннай і сусветнай класікі, як “Тарас на Парнасе” К. Вераніцына, “Новая зямля” Я. Коласа, “Сказ пра Лысую гару” (аўтар невядомы), “Залаты асёл” Апулея, “Спеў аб Гаяваце” Г. Лангфела, “Кала Бруньён” (паэтычная проза) Р. Ралана, “Васіль Цёркін” А. Твардоўскага і інш.

Як і ў аўтараў пералічаных твораў, талент аўтара паэмы “Як песня, год мінае” мае народную аснову: ён прыродаадпаведны, маштабны, удумлівы, жыццялюбівы, жыццясцвярджальны, іскрысты і плюс да ўсяго – далікатны. Чытаеш гэты твор – і ствараецца ўражанне, што аўтар нібыта не напісаў яго, а лёгка, нязмушана, больш таго – як бы гуляючы – выдыхнуў. Не будучы блізка знаёмым з А. Корневым, асмелюся

меркаваць, што ён лёгка складае імправізацыі на любую тэму, што пяро яго лётае. Падставы так меркаваць дае мне тое, што паэт – шырока адукаваны чалавек, вялікі знаўца беларускай душы, побыту і мовы, што ён здольны праз тонкі лірызм і гумар стварыць у чытача сонечны настрой. Пра ўсё гэта сведчыць і апошняя яго паэтычная рэч. Яго паэзію не толькі хочацца чытаць, але і паказваць іншым.

Што тычыцца тэхнікі вершаскладання, ён валодае ёю дасканала, на лініі вышэйшага пілатажу. Ён лёгка і свабодна, свядома і мэтазгодна пераходзіць ад аднаго вершаванага размера да другога (ямб, харэй, амфібрахій, анапест і г. д.). А колькі тут свежых нечаканых рыфмаў! А. Корнеў у гэтай справе – вялікі вынаходнік.

Паэма “Як песня, год мінае” – сентыментальная, яна – своеасаблівая анталогія, дакладней, энцыклапедыя светлых чалавечых пачуццяў, імя якім – любоў на тле гадавога прыроднага цыклу. Гэта, калі хочаце, чытанка на кожнае народнае каляндарнае свята цягам цэлага году. Адпаведна тут прысутнічаюць не толькі сентыментальнага, як вызначыўся ў падзагалоўку сам аўтар, а і рэалістычнага, рамантычнага і нават мадэрнісцкага і постмадэрнісцкага кшталту рухі беларускай душы. Дзе, як не тут, прасочваецца і псіхалагізм твора? Вось жа на гэтых парадыгмах мацуецца любоўны змест паэмы. У любові, як і ў прыроды, вядома, з’явы і праявы самыя розныя, часам самыя нечаканыя, непрадказальныя, але заўсёды законамі быцця матываваныя. Ці не таму аўтар ніколі не прамінае, так бы мовіць, блаславіць і эратычныя моманты? Але робіць ён гэта заўсёды згарманізавана, цнатліва, тактоўна.



Можа, у каго з’явіцца папрок-нараканне, што ў паэме амаль адсутнічае грамадзянскасць, трыбуннасць, але гэта далёка не так, бо героі А. Корнева ў гармоніі з прыродай, яны паслухмяныя дзеці прыроды, а не тыя “грамадзяне”, што імкнуцца вырваць з яе міласці. Што тычыцца развязвання палітычных і сацыяльных праблем у нашай краіне, дык аўтар такі вектар не планаваў і не закладваў у свой твор.

Хацелася б вось яшчэ на што звярнуць увагу: А. Корнеў павінен і абавязаны выдаць кніжку сваіх выбраных вершаў – лепшых месцаў з усіх сваіх паэм і вершаў. А то вунь розныя выдзьмухайлы рыфмаваных мыльных пухіроў засмецілі ўсе літаратурныя далягляды нашай краіны. І імя ім – легіён. А сапраўдных паэтаў у нас нібы і няма.

Па адукацыі, па прафесіі А. Корнеў – урач. Больш трох дзесяткаў гадоў ён адпрацаваў загадчыкам дыспансэрнага аддзялення Баранавіцкага скурна-венералагічнага дыспансэра. Бяру на сябе смеласць заявіць, што, зыходзячы з гэтага інфармацыйнага дыскурсу, яго паэзія мае здольнасць лячыць і такую хваробу чалавечай душы, як шкурніцтва.

Адносна таго, што аўтар гэтай прадмовы ні разу не працытаваў паэта, – яго, гэтага паэта, трэба, фігуральна кажучы, смакаваць не кавалачкамі, а ўсяго цалкам, яго проста трэба і неабходна чытаць.

***Яўген Гучок***



Я так любіў каханай жонкі бровы
І вочкі, дзе купаліся аблокі!..
А зараз, быццам слуп кіламетровы
На ўскрайку шляху, — сумны, адзінокі.

Яна даўно ўжо на палянках рая
З анёлам чуйным кветачкі збірае.
А дзеці — ім турбот не прычыню —
Няхай асвойваюць далечыню.

Пражытыя дзянькі калісьці неслі
Мяне ў бязмежнасць маладога шчасця.
І ўсе здаваліся вясёлай песняй,
Ды растварыліся ў бяздонным часе.

А я пры той жа лёсавай дарозе
Лаўлю хвіліны, што ў жыццёвай прозе
Ка мне і ўдзень імкнуцца, і ўначы
І раптам паспяваюць уцячы.

Дык дзе ж, уцекачы, цяпер? Дык дзе ж вы?
Ды вунь: услед за сонцам адлятаюць!
Збягае час, аднак яго падэшвы
Сляды жыцця на сэрцы пакідаюць.

І сэрцайка друкуе, піша строфы
Не пра пакуты змрочнае Галгофы,
А пра сягонняшні цудоўны дзень,
Пра ноч бадзёрую і зорны цень,



*Пра збожжа, кветкі, парасткі і суччы,*
*Пра вёску, возера і луг мурожны…*
*Друкуе сэрцайка пра год бягучы,*
*Пра смелы крок мой і пра асцярожны.*

*Пра тое, што ў любоў заўсёды веру,*
*Паспрабавай пакласці на паперу,*
*Бо радуюся шчыра, як дзіця,*
*Кругаваротам бурнага жыцця.*

*Яно заўсёды яркім быць павінна.*
*Хоць і нялёгкая часамі пуцявіна*
*Сярод нягод, разладу і прыгод,*
*Ды зноў, як песня, пралятае год.*

**Алесь Корнеў**



* * *

Лёс не горкі, не цяжкі –
Падбадзёрваю сябе.
Каташкі! Каташкі,
Як бы мышкі на вярбе.
Дзьме свяжак. Яго павеў
Весялосці паддае.
З радасці асалавеў –
Жылка кожнае пяе.
Кожная, нібы ручай
Нечаканай навізны...
Дык, вятрыска, прабачай,
Што і я – пяюн вясны.

* * *

Заўважыў: на зямной талерцы
Знаходжуся я ў самым сэрцы;
Узняўся перпендыкулярам
К сучаснаму жыццю і марам,
Хоць небасхіл – не тая брама,
Каб крочыць, плечы ўзняўшы прама.
Ён, пэўна, для таго ствараўся,
Каб і малы пад ім схіляўся.
А я дык думаю палярна
І крочу перпендыкулярна,
Бо жыць не ўмею ў паняверцы,
Ды ў цэнтры на зямной талерцы.



# МАСЛЕНІЦА

## (МАСЛЕНКА, МАСНІЦА)

Як здалася ўсё-такі зіма!
Рупнасці і творчасці няма.
Снег апошні ў гурбы скучыла,
А рассейваць надакучыла.

Бачу, просіць ласкавых праводзін.
А хто супраць будзе? Кожны згодзен.
Вось на масле – блінчыкі, аладкі,
Каб на поўнач бегла без агляднкі.

Адыходзіла каб не задзірай
У далёкі ледавіты вырай –
Справім провады-гулянкі!
Асядлаю напаследак санкі.

А пасля лядзяш яшчэ займець бы
І ў настроі пакатацца з дзецьмі!
Завітаў туды, дзе ў гурце моладзь,
Дзе смяюцца гучна і сваволяць.

Запрасілі і мяне хлапцы
Пасядзець крыху на жарабцы.
А той конь, як гаспадар прастораў,
Тут жа паказаў нясцерпны нораў:

То падкіне зад, то сцёбне грывай –
Не ўсядзець ні прама і ні крыва.



А як раптам паімчыцца ў лес?
Анямелы, ледзь з каня я злез.

Дзякуй, дзякуй, хлопцы-малайцы!
Запрашаю ўсіх вас на блінцы:
І на мёдзе вось вам, і на масле,
Каб усмешкі добрыя не гаслі.

Раптам вешаюць калодкі
Мне на шыю маладзіцы,
Бо мужчына я салодкі
І магу яшчэ жаніцца.

Разгуляўся жарт між намі:
“Сходзься з дзеўкай-пераспелкай!..”
Адкупляўся і блінамі,
І сырамі, і гарэлкай.

З’елі ўсё. Бліноў няма.
Дык бывай, бывай, зіма!
Не, хутчэй мо, да сустрэчы!
Забяры з сабой, дарэчы,

Ледзяшы і снег свой жухлы,
А валёнкі і панёвы,
Світэр, світку і кажух мы
Разам з пудрай тытунёвай,

(А насыплецца даволі
Ад усюдыіснай молі)
Зложым да зімы наступнай
У куфэрак мамкі рупнай.



* * *

Жыву ў серыялах натхняючых сноў:
То ўбачу былое, што прыйдзе прыблудай,
То будучае праяўляецца зноў –
Плыве па начах з мазгавых кінастудый.

А кожная з іх, што глыбокая студня.
Адна з іх калісь праглынула мяне,
І я ўсё адшукваю ў бездані будняў
Мяцежныя дні, а яны ўжо – дне.

Ідуць серыялы: то явы, то сны...
Што толькі ў мазгі не ўваб'ецца, не ўлезе?
Ды ўсё-ткі нямала плыве навізны
Патрэбнай так прагнучай долі-гарэзе.

* * *

Натхненне, з бяздоння касмічнага выняўшы,
На нашы абшары світанак прынёс:
Узлёты і старты, падзенні і фінішы –
Для кожнага загадзя вызначыў лёс.

То ззяючую прапануе навацыю,
То кансерватызма занудлівы цень,
Ды ўсё-такі працай, натхнёнаю працаю
Зямельку ўпрыгожвае сонечны дзень.

І вось – надвячорак. З апошнімі промнямі
Згарае заходні аблочны эцюд.



І вечару, раз ён зусім шчэ не стомлены,
Перадае сваю зморанасць люд.

Крыху ж пачакаўшы, сузор'і – карункамі,
І ночка зноў дзень прыняла на начлег.
А людзі не спяць яшчэ і пацалункамі
Агольваюць радасць, а можа, і... грэх.

## МІЖНАРОДНЫ ЖАНОЧЫ ДЗЕНЬ

08 03

Жанчыны і вёсны, дзяўчаты і вёсны –
З'ядналі паняцці вось гэтыя мы.
Між імі не гэтулькі звязак ускосны,
Наколькі жыццёвы, тугі і прамы.

Нямала жанчын ёсць у кожным напрамку,
Прыгожая нават у цемры відна.
Але з імі не параўнаю я мамку:
Матулька ў мяне ва ўсім свеце адна.

Яе і віншую сардэчна са святам,
Са светлым жаночым, расквечаным днём.
Мяне нарадзіла душэўна-крылатым,
Таму і спяваю з юнацкім агнём:

Жыццё экзаменуе строга,
Не ўсіх аднолькава вітае.
Хаця радзіла і не Бога,
Мамулечка ў мяне святая.



О, колькі чуласці ў матулі!
Яна прылашчыць і прытуліць.
Яе суцешлівыя словы
Ўпрыгожваюць мой шлях жыццёвы.

Праблемы лёс мой расхісталі,
А я ўяўляю вобраз мамы
На кветканосным п’едэстале:
Такі ласкавы! Самы-самы!
Я не забуду рук матулі:
Яны прылашчаць і прытуляць.
Яе суцешлівыя словы
Ўпрыгожваюць мой шлях жыццёвы.

Хоць я, вядома, і не сокал,
Але яна дала мне крылы,
І ўсё, што існуе навокал,
Яна, яна мне падарыла.
Таму і ўдзячны я матулі.
Яна прылашчыць і прытуліць,
Яе спагадлівыя словы
Ўпрыгожваюць мой шлях жыццёвы.

* * *

Гляджу то ўвысь, то зноўку ўніз.
Там Дух, а тут людская коснасць.
Ці вывучаць ідэалізм,
Ці зорны, натуральны космас?..



Узведзен Дух у абсалют,
Нікім нябачны і няўлоўны.
Хрышчуся, як даю салют,
І думкі – феерверкам слоўным!

Пустэча – месца для ідэй,
Якія на зямлі ў пракаце?
Але ж чамусьці ўсіх людзей
Пакуль што нараджаюць маці,

Як першаснасць жывых матэрый
І як наземны ўзор жыцця,
І радуюцца, што ў кватэры –
Іх даражэнькае дзіця;

Якое ў часе і прасторы
Гаворыць, плача і пяе;
Якое ў радасці і горы
Ідэі вынайдзе свае;

Якое нешта ўжо стварае
З тканіны мёртвай і жывой,
А што датычыцца да раю –
На гэта мае погляд свой:

Душы людской не жыць у высях,
Бо псіхіка ўсё ж – не прадмет...
Дзіця зямлі, дык сам узвіся
Туды, дзе рай другіх планет.



* * *

У скрусе, мамка, не марней,
Бо ад цябе і я залежны.
Глянь у акно: ужо спарней
Ручай пабег з-пад гурбы снежнай.

Крыляе птушкай сакавік,
А быў у выраі далёкім,
Яго вясенні рухавік
Рух надае раслінным сокам.

І я натхненнем набрыняў
І аддаю яго сусвету,
Шчаслівы тым, што пераняў
Вясны імклівай эстафету.

І да цябе лячу, імчу,
Нясу пучок галінак вербных.
Мо ўбачу радасць уваччу
Ад каташкоў пушыста-срэбных.

* * *

Мамулечка, з ранняй пары я
Адкрыў у сябе перамену:
Спяваецца "Ave Maria",
Калі цябе раптам сустрэну.

Душа аж у неба ўзлятае,
Да воблакаў срэбна-ліловых,



Бо ты ў нас – Марыя Святая!
Ці чуеш ты гэтыя словы?

Наўрад ці, бо ў святы і ў будні
Займае людская аблога.
Вакол цябе так мнагалюдна,
Хаця нарадзіла не Бога,

А толькі анёлаў любові
З уцешна-спагадлівым клёкам!..
Прашу: мне малітву прамові,
Каб шчасце было недалёкім.

Пакорлівым быць? Хай бог крые!
Замовіла матчыным словам.
Спяваючы "Ave Maria",
Я сам узлятаю анёлам.

* * *

Сям-там ад снегу толькі рэшта,
І тую цёплы ветрык сцяў
І праціскае ўглыб праз рэшата
Вільготна-прэлага лісця.

Бывай, сняжок, бывай, апалены!
Калісьці вернешся сюды.
А сёння, бачыш, на праталіне –
Твой сын, падснежнік малады,



Што з лахманоў мінулагодніх
Падняўся. Любы, не спяшай!
А ён, смяшлівы і лагодны,
Глядзіцца ў люстраны ручай.

Такі бялюткі! Квет-сняжынка!
Так асвятляе дол лясны!
Аж расплываецца смяшынка
Прамокла-ўзбуджанай вясны!

* * *

Расталі ўжо снягі глухія
І след зімы двухпалазны.
Усемагутная стыхія –
Прарыў напорыстай вясны.

Настрой вясёлы, гулкі, весні
Душу на музыку завёў,
І я вітаю светлай песняй
Журлівы гоман ручаёў.

Вітаю ціхія лугі я
І шматгалосны спеў лясны.
Зусім расчуліла стыхія
Бадзёрай сонечнай вясны.

Цвіце падснежнік яркі, весні,
Схіляюся над мілым ніц.
А ў наваколлі – песні, песні
Шпакоў і дробненькіх сініц!



Шляхі птушыныя – даўгія.
Вітаю вас, гракі, буслы!
Вы ўсе – прыродная стыхія!
Вы – крылы сейбіткі-вясны.

Жытнёвы колас уваскрэсне!
Па полі – рыхлы след скразны:
Трымціць і грае сказы-песні
Струна ўраджайнай баразны.

## САРАКІ

*(СОРАКІ, САРАКА,*
*СОРАК МУЧАНІКАЎ,*
*ПАКУТНІКАЎ)*

22 03

Саракі ўжо! Саракі!
Дзівяць госцейкі-гракі:
Дачарна ўсе загарэлі,
На галіначкі-арэлі
Прама з лёту пасядалі,
Разглядаюць пільна далі.

Саракі ўжо! Саракі!
Літаркамі жаўрукі
Селі на сухія дзялкі.
Там і чайкі, там і галкі,
Там чаканыя сустрэчы
І каханне там, дарэчы.
Саракі! Эх, Саракі!



Я чакаю ля ракі.
Не ідзе мая жанчына,
І не ўцямлю ў чым прычына…
То святло ў вачах, то морак…
Мучанікаў божых сорак
Налічылася ў паданні…
Прада мною вунь іх зданні!...
Эх ты, долечка мая,
Сорак першым буду я.

* * *

Жыццё-быццё! А што гэта такое?
Відаць, магічны і стваральны дух,
Калі ў цішы зялёнай, у спакоі
З’яўляецца самаадвольны рух,

Калі вакол бары шумяць і травы,
Дарогі ўюцца і растуць дамы,
Калі сярод вось гэтай цуднай явы
Шумім, гудзім і корпаемся мы.

Хтось праявіўся мудрым, а хтось хвацкім…
І старасць бачыцца, і маладосць.
Яшчэ, як з’ява, у жыцці грамадскім
Каханне захапляючае ёсць,

Якое то ўзгарыцца, то канае.
Здаецца ад яго даўно адвык,



Ды вось раптоўна зноў душу сцінае
І цягне ўвысь, як вечны рухавік.

Як аддзяліць яго нам ад грамадства?
І што ўзамен пакінем грамадзе?
Яно ж так страсна ўсіх яднае ў брацтва
І светлым шляхам па жыцці вядзе!

* * *

Плыве па небе хмарны табар
За небакрай, у звабны тыл.
Вісіць другія суткі запар
Імжа – драбнейшы водны пыл.

Раз-пораз дожджык нудна, коса
Пераліноўвае прасцяг.
І раптам… быццам любай косы!
Нібы яна ў мяне ў гасцях.

Абмытая, з дарогі маркай,
Зайшла пагрэцца ў мой пакой,
Зайшла бадзяжнай, лёгкай хмаркай,
Плыве паветранай такой!

Гляджу, баюся дакрануцца,
Замілаваўшыся гляджу.
Сядай жа, не спяшай вярнуцца
Па тонкіх нітачках дажджу



Туды, у табар гэты хмарны,
Што над імжой і не прамок.
Хачу ўтрымаць міраж, ды марна,
Яна ў кватэры, бы дымок

Блакітнавокі, папяросны…
Імгненне і ўжо – за акном,
Ідзе, плыве імжою млоснай,
Плыве між яваю і сном.

* * *

Вядома ж, я амаль староннi,
Яна сказала б: “Не трывож!”
Таму цярплю і жылку ў скроні,
Што так пячэ, тушу. Ды ўсё ж

Жанчына – мой настрой і жывасць,
Яна – натхняльніца мая,
Хоць навакол – хлусня, ліслівасць,
Свавольства featureознага хам’я.

О! Неба ўжо мяняе колер!
Святлее хмарная сям’я.
І раптам… лёс маланка коле!
Красуня – злева, справа – я.



* * *

Расцалоўваеш мяне!
Бачу: не да жарту.
Можа, тлум такі ў віне?
А каб цалкам кварту?

Мо такі рэфлекс умоўны
Ці наследны ген?
Божа! Подых твой любоўны –
Страсны аўтаген:

І разрэжа, і раздзене,
Знойдзе талісман...
Гэта ж – прывід, летуценне,
Фантастычны зман!

Паваліўся і ляжу.
Сэрца не трапеча.
Стаў падобны муляжу:
Унутры – пустэча.

* * *

Чакала: мо герой былінны,
Альбо царэвіч я, напэўна.
Хацелася кахаць Паўліна,
А доля падарыла Пеўня.



Табе рыхтую чабурэкі,
Падношу каву з пірагамі,
Адно забыў пра шлях у "грэкі",
Тым больш, на Кіпр і на Багамы.

І мо таму ты ў вечнай драме
Ва ўтульнай гарадской кватэрцы.
Душа застыла ў чорнай раме,
І стужка чорная на сэрцы.

Глядзіш падоўгу серыялы,
Адмовіўшыся ад сябрыны...
Чаму анёлы не спрыялі
І лёс удачлівы адрынуў?

А можа ўсё-такі абдымеш
І ўспыхне ясачка* ўваччу?
Я заўтра ж памяняю імідж
І нават крышку ўзбагачу...

* * *

Пагляд з павевам холада
Застыў, у неба ўросшы.
Маўчанне, кажуць, – золата,
Тваё таксама – грошы.

---

*Яска – іскарка (В. Ластоўскі).



Не ўсё пакуль што ўзважана,
Яшчэ шукаем гіры.
І я замоўк, уражаны.
Дык дзе ж адказ твой шчыры?

Чаго не дагаворана?
Скажы, праблема ў чым?
Жыццём душа не зморана…
Аб чым тады маўчым?

Адказ у горле булькнуў даўкі.
Не стынеш, не гарыш.
Дзе шчэбет мілай ластаўкі?
Я ж побач. Я ж – твой стрыж.

* * *

І рукі, што мармур,
І вочы са шкла.
Ніякага шарму:
Ні ўсмешкі, ні зла.

І погляд без ласкі,
Без воблачных мар…
Музейная маска
Ці любенькай твар?



* * *

Мне шчасце прыпала (ці выпала?),
Ды так нечакана! Знянацку!
Аж ты заварожана лыпала,
Адчуўшы мой подых юнацкі.

Заўсёды імкнуліся ўдосталь мы
Ўзаемнасцю насаладзіцца,
А сёння з яе ўжо на ростані –
Адно ў каляінах вадзіца.

Не станеш маёю ты зоркаю…
У небе – скрозь толькі чарноцце.
Таму і тугу сваю горкую,
Напэўна, замкну ў адзіноце.

Не будзе ўжо шчасця апетага,
З таго ад адчаю сваволю…
Рагамі халоднага ветаха
Ўпрыгожваеш ты маю долю.

* * *

Абое мы заложнікі самоты.
Яна памалу ў зрэнках тлее, курная.
І гэткі сум, што на душы – сумёты
Сумненняў з пылу сумятні сумбурнае.



Свой сум і супярэчнасці сумірую,
Мо сумесь іх ды не сумнеў сумесны.
І ўпэўненасць мо вернецца, як з выраю
Натомленыя птушкі на прадвесні.

## Громы! Дык, нарэшце, мае сумненні ўсе адрэжце!

Сумненні – сёння, заўтра – вусціш,
А я, што на аркане.
Ты, можа, хоць у думкі ўпусціш
Мяне без наракання?

Абдумаем з табой усё мы
З жыццёвага бязмежжа.
І раз адмераем, і… сёмы,
І хай анёл адрэжа

Кавалак вызначанай долі,
Няўмольнай, немінучай,
Такой ружовай, як вуголле,
Такой жа і пякучай.

Пакуль жа мы – сырыя дровы,
Што сохнуць пад павеццю.
А час хоць новы, ды суровы –
Душу ўздымае вецер.



Дык можа з ім і я раздзьмую
Вуголле ў пачуццёвай печы?
За думку гэту, за прамую,
Ты не крыўдуй, дарэчы.

* * *

Я красой тваёй наўздзіў
Хвалі рэўнасці адужаў
І на градках пасадзіў
Толькі ружы, мноства ружаў.

Паліваў іх не слязой,
А ружоваю надзеяй.
Ты ж лятала страказой,
У мой бок і не глядзела.

Выпускаў па страказе
Стрэлы з кветкамі маімі.
Не вязе ды не вязе!
Стрэлы праляталі міма.

І тады кусты скасіў,
І калючыя ў ахапку
Ўсе табе переанасіў
Да галінкі, без астатку.

Ты ж працягвала маўчаць.
Вусны – сцятыя ліпучкі.
А на мне дасюль тырчаць
Невыносныя калючкі.



Змучыў боль? Ды не... Які?
Бо далоні ўжо, як дошкі.
Лепей, мабыць, гваздзікі
Развяду, альбо валошкі.

* * *

Навошта, скажы, нараканні
На твой паўсядзённы спакой?
Ты хочаш экстрыма ў каханні
І будучыні не такой?

Таму і рванулася ў пошук,
За шчасцем пайшла, а яно
Рассеялася праз твой кошык,
Глядзіш – анідзе не відно.

Тады ты – назад, загукала:
Мо знойдзецца зноў, ды дарма!
Пакуль дзесьці шчасця шукала,
Не стала ўжо шчасцем сама.

* * *

Ці помніш ты, гарэза,
Як мы з табой ля бэза
На лавачцы сядзелі
І нюхалі, як дзеці,
Крыжастыя суквецці
І ў радасці ірдзелі.



Кружыліся галовы,
Секунды білі ў скроні.
Блакітненька-ліловы
Бэз водарам палоніў.

П'яніў настрой узняты.
Шукалі ў кветках пяты
Пялёстачак шчаслівы
І з ласкай бралі ў вусны,
Глыталі, каб не хруснуў
Ад пацалункаў хцівых.

Пайшла. Заціхлі словы,
А з імі і – надзея.
Блакітненька-ліловы
Чабор ужо квітнее.

Гляджу, гляджу на ростань,
Надзею думкі росцяць,
А слёзы вочы засцяць...
Мо там, дзе сонца сядзе,
Угледжу ў далягля дзе
Я бэзавае шчасце.

Напоўніў сум нанова
Душу і льецца цераз...
Блакітненька-ліловы
Ўжо не чабор, а верас.



* * *

Стаць бы мне хоць на дзень Геркулесам,
Альбо гэтакім стаць, як Ахіл!
Я пабег бы хутчэй і за лесам
Ускараскаўся б на небасхіл

І завіс бы высока-высока
Там, дзе хмары нядаўна былі,
І агледзеў бы зоркавым вокам
Кожны кусцік на нашай зямлі,

І травінкі на полі і ў рэчцы,
І мурашачак, і гадаўё,
І цябе адшукаў бы, дарэчы,
Як жывільнае шчасце маё,
Як жэнь-шэнь і маё мумiё.

* * *

То бляск вады, а то слата,
То ветрык, сонцам падагрэты…
Звырода ёсць і пекната
На твары веснавой планеты.

Па каляіне наразной,
Што выкатана коннай цягай,
Шыбую за красой-вясной,
За кругасветнаю бадзягай.

Блукаю, быццам Адысей,
Па мураве і глебе чорнай.



Вясна спыняе, кажа: “Сей
Па ўласнай долі шчасця зёрны”.

І засяваю ніз і груд,
І радуюся з той нагоды,
Што ўбачу хутка ізумруд –
Адметна-буйныя ўзыходы.

## ДАБРАВЕШЧАННЕ

*(ДАБРАВЕСТ,*
*ЗВЕСТАВАННЕ,*
*ДЗЕНЬ ВЯСЕННЯЙ БАГАМАЦЕРЫ,*
*БАГАРОДЗІЦЫ)*

07 04

Дабравешчанне святое
Сонца ўзнесла залатое.
Вунь убачыў на папары
Першы раз буслоў у пары.
Дзеўка косы не пляце,
Птушачак няма ў гняздзе –
На галіначках паселі,
Разважаюць аб вяселлі,
Аб сваім і... аб маім.
Божачка, удачы ім!



* * *

Дык вось яно, шчасце! Мінае…
Прытомлена…
Хапаю, хапаю, а гэта – саломіна,
І гэта – праменні і ўсе саламяныя,
І раптам шарэюць, становяцца цьмяныя.

І дзень, як жыццё, уцякае натруджаны.
І месяц з-за хмар паглядае напружана:
Прыжмураны тварык здаецца ільдзінаю,
Ды ўпала сляза раптам зоркай адзінаю

І прама… у вока мне і расплываецца,
І хмарка ў нябеснай слязе калываецца…
І што, і каго я сабраўся аплакваць?
Вядома ж, не стомленую абыякавасць.

* * *

Каханая, зірні на месяц,
Зірні, але не з поснай мінай,
Бо ён у бляску столькі месціць
Маіх найлепшых успамінаў!

Зімой сачыў за намі зрэдку,
Суправаджаў усюды ўлетку.
Цяпер табе натхняльнік наш,
Як абыякавы лядзяш.



Аслаб даўно нагляд матулі
Над самастойнасцю бязмернай.
Але ж не гэткі ўжо і ўтульны
Твой лёс ва ўтульнасці кватэрнай.

А месячык, хоць і высока,
Усё ж не закрывае вока,
За намі моўчкі зірк ды зірк –
Нераўнадушны маладзік.

Начамі мне паведамляе,
Як, любая, табе жывецца,
Хто весяліць і наталяе
Тваё няўрымслівае сэрца.

Дык пацікаўся ўсё ж блакітам,
Разгледзь уважліва, які там
Стары нябесны сябра наш:
Ці вугалёчак, ці лядзяш?

* * *

У якім цяпер віры ты?
Помню, як на развітанне
Погляд кінула адкрыты
І маўклівае пытанне:

“Што ўва мне ты запрыкмеціў?
Ці ўплываю на цябе я?”
А сама – як лёгкі вецер,
Што прывабліва так вее.



Кроў, бы з малаком… ад маку,
І душа – бяздумны опій.
Ды наўрад ці ў моры смаку
Мары трапяткія ўтопім.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Адляцелі леты ў вырай,
Зніклі ў Запаляр’і зімы.
Без цябе, не надта шчырай,
Я гаротны, нелюдзімы.

* * *

Якою дзейнай
І чарадзейнай
ты мне прыйшлася.
У рытме скерца
Скакала сэрца.
Спяваў ад шчасця.

Вось бы – крылы! Меў бы крылы –
Узляцеў бы да аблок!
Можа, мне яны адкрылі б
Нашай долі іншы бок.

Чакаў бяспечна,
Што страсці стрэчнай
Нясеш нямала,
Што мы з табою
Гарым абое
Адным запалам.



Вось бы – крылы! Меў бы крылы –
Да аблок бы я ўзляцеў!
Мо яны і падарылі б
Столькі шчасця, як хацеў.

Але ж аблокі,
Нібы сарокі,
Сурокі неслі:
Бяду-разлуку,
Журбу і муку,
І боль у песню.

Вось бы – крылы! Меў бы крылы,
Мо якраз яны тады
Беражліва нас прыкрылі б
Ад разладу, ад бяды.

* * *

Чарка аднавокая,
Чарка з хрусталю.
Сохне адзінокая,
Нат калі налью.

З ёй, нібы на хутары –
Нудна без людзей! –
То маўчым, то гутарым,
Скардзімся радзей.

Рэха слабай чутнасці
Дзесьці там на дне.



Там і зерне сутнасці,
Падалося мне.

Грані граюць промнямі
І штораз – ярчэй.
Мне яны напомнілі
Любы бляск вачэй,

Блузачку празрыстую,
Вабную нагу…
Кінуць грамаў трыста мо?
Не! Так не магу.

Проста мне не хочацца.
Думаю аб Ёй.
Думкі ледзь валочацца,
Вяжуцца пятлёй…

Любая ўяўляецца,
Толькі ж не злаўлю…
Пальцы забаўляюцца
Ножкай з хрусталю.

* * *

Памяць – гэта паэтычны сшытак,
Што ў шуфлядзе роздуму старэе.
Колькі жарсці! Колькі дзён пражытых!
Разгарну, дык проста – эпапея!

То ўяўлю пушчанскія шыроты,
То павольных рэк мерыдыяны.



Вунь Дняпро, а там за паваротам –
Ліпа каля хатачкі драўлянай.

Безбярэжная ў зямлі Няміга...
Неабсяжны бераг нарачанскі.
Па-братэрску сустракаў Чарнігаў,
Сваяком крывіцкім быў у Бранску.

Узыходзіў на хрыбет Урала,
Разважаў пра лёс ля Маўзалея,
Ды раптоўна кветку шчасця ўкрала
Белая жанчына, як лілея.

Белая жанчына з ночы белай...
А цяпер вось ночка-негрыцянка
Да мяне на ложак ціха села,
І мы з ёю зладжана да ранку

Перагортваем цішком старонкі
Памяці маёй, бы пыльны сшытак...
То мігцяць рабінавыя гронкі,
То за рэчкай – залатое жыта.

* * *

Ад успамінаў – шмат аскомін
І ад патуг жыццёвых, марных.
Усмоктвае ў пакой мой комін
Трывогі ад баталій хмарных.

Скубуцца хмары. Вунь іх пасмы...
Прэ лысая да кучаравай.



Крыху вышэй каптур атласны
Павіс над галавой дзіравай.

Маршчынку ссунуўшы крывую,
Лаўлю каханку ў думцы вірнай,
Ды не злавіў і зноў… кайфую,
Адзін… з бутэлькаю кефірнай.

* * *

Багіня навук і мастацтваў,
Уздыму душы і лагоды…
Удзячны я Музе: застацца
Рашыла са мной назаўсёды.

А ў іншых штодня – перамены,
Аб гэтым шчэ змалку я ведаў…
Дарыла камусь Мельпамена
Бясконцыя мукі трагедый.

У скокі вяла Тэрпсіхора
І трэслася, бы ў ліхаманцы,
І ўсё растлумачвала: гора
Лягчэй забываецца ў танцы.

І я танцаваў апантана,
Браў рытм з рытуальнаю млосцю,
Ажно экстрасэнсы-шаманы
Яшчэ і сягоння зайздросцяць…

Багіні ў нябёсы зляцелі.
Ні драм, ні трагедый, ні блюза.



Знямоглы. Адзін у пасцелі…
Ды ўсё-ткі наведвае Муза.

* * *

Сэрца маю ці ўзрыўчатку?
У любы час узарвецца.
І таму душа спачатку
Распачаць жыццё імкнецца,

Глебу памяці скародзіць,
Слёзы, як зярняткі, сее.
Што ўзрасце на агародзе,
Як сяўба – пустая дзея?

“Стой, шлях думак не харошы, –
З неба чую голас чыйсьці, –
Сей і сей, людзям вырошчвай,
Як дзяды твае калісьці.

І таму жывуць нашчадкі,
Ды і ты жывеш, хлапеча.
Сей не слёзы, а зярняткі,
Сэрца ж не дарма трапеча!”

Слушна як! На сэрцы – свята:
Гулкі барабанны дробат.
Працай шчыраю, заўзятай,
Мабыць, упрыгожу побыт.



* * *

То справа вятрыска мне шэпча, то злева,
То засуха зводзіць, то раптам – залева,

То бура раве, і рагоча, і свішча,
То зноў у лянотным надвор’і – зацішша,

То снежная баба прынесла завею…
То ўлетку з кабеткай ажно салавею.

Мой лёс то сур’ёзны, то зноўку камічны,
Але, як заўважыў, заўсёды цыклічны.

То раптам цямнее, то раптам світае…
Разгледзеў – жахнуўся: кабета не тая,

А можа, і тая, але не такая,
Бо нешта не лашчыць, а спрытна брыкае;

У ложку сцвярдзела цукровым брыкетам,
Ніякага такту з адданым паэтам,

Ні тактаў музычных, ні смачнае рыфмы,
Адно падбірае рублям лагарыфмы.

Я ўсё разумею: жаночыя цыклы,
Ды з імі чамусьці дагэтуль нязвыклы.

Але прывыкаю, хаця не адразу,
Бо месяц і той мае розную фазу,



Бо вецер і той неаднолькавай моцы,
І, пэўна, нікога няма без эмоцый.

То ціск кравяны, а то антыцыклоны,
Адзін захварэў, а за ім – міліёны.

Растуць на альпійскіх лугах цыкламены,
І ў нас вырастаюць, бывае, джэнтльмэны,

І недзе ў кунсткамеры знойдзем цыклопа,
І знойдзецца геній сярод асталопаў…

Адно пазаўчора маркоціўся ў горы.
А сёння ўжо – дзейны і ўзнёсла-бадзёры.

## ВЕРБНІЦА

*(ВЕРБІЦА,
ВЕРБІЧ,
ВЯРБА,
ВЕРБНЫ ТЫДЗЕНЬ)*

Надышла, нарэшце, Вербніца.
Прэч, усякая журба!
Зноў імпэт жыццёвы вернецца!
Я жывучы, як вярба.

У руцэ – галінкі вербныя.
Раптам чую іх смяшкі –
Шэпчуцца, смяюцца срэбныя
Ўзбуджаныя каташкі:



“Як зямля яшчэ прамерзлая,
І не пахне шчэ жыццём, –
Мы ўжо не такія чэзлыя:
Ажываем і цвіцём!”

Запрасіў у хату Вербніцу.
Выклаўшы галінкі верб,
Упрыгожыў імі хлебніцу –
Сатварыў сямейны герб.

* * *

Маці з храма дамоў ледзь датупала,
На партрэт дарагі паглядзела.
Божа мой! З-пад царкоўнага купала
Мужыкова душа прыляцела!

Во! Фіранка нібы скалыхнулася.
Быццам рыпнула злёгку масніца.
Гаспадыня ажно схамянулася,
Стала ў спешцы шаптаць і маліцца.

Захапілася прывіднай з’яваю:
Родны вобраз ажылы і яркі!
Хутка стол упрыгожыла страваю
І напоўніла моўчкі дзве чаркі;

Ды адна з іх стаіць некранутая,
А ў другой – вечных бед павалока:
У спагадзе трымціць і пакутуе,
Бы шкляное слязістае вока.



Як узяць яе пальцамі кволымі?
Лекі там і вадзіца святая...
Свечка выйсце знайшла ў зыркім полымі,
Праз яго ў іншы свет адлятае.

* * *

Час вясенні гэткі плённы!
Дзе ні глянеш: і на ўлонні
Ўжо засеянага поля,
І ў балоце, і, тым болей,
На вільготным шэрым лузе,
І ў лагчыне, і на пузе
Падсыхаючага ўзвышша –
Насцярожаная ціша:
Скрозь, як тонкія ланцэты,
Парасткі з зямлі сагрэтай
У вільготнай абалонцы
Павылазілі на сонца.
Не цярпіцца і пупышкам:
Напампушыліся з лішкам,
У становішчы цяжарным –
Самы форс і самы шарм ім!
Нараджаюцца лісточкі –
Іх сыны, а мо і дочкі;
Нараджаюцца сцяблінкі,
Уздымаюцца былінкі
Незлічонага наймення...
І дзятва вясны праменні

Ўсхвалявана, прагна ловіць.
Веснавей прымае споведзь
І шматтысячныя роды
Ў маці жыццяў, у прыроды.
Сонейка свет абуджае
І зямелька адраджае
Ўсё, што страціў край калісьці:
Новыя надзеі-лісці,
Новыя набыткі-кветкі…
Родны край мой! Дзіўны гэткі!
Ты жывучы ад прыроды.
Гэтакім і будзь заўсёды!

* * *

Не вырве плуга з баразны
Кабыла ў вупражцы напятай.
Праз поле лёг равок скразны,
Пасля другі і… дваццаць пяты.

А ў галаве – гнятлівы тлум
Ад несупыннае патугі.
На скуры – пара, пенны шум,
І нат не ўздрыгвае ад пугі;

Ды ўдзячна долечцы сваёй,
Бо сёння выпаў добры шанец:
Ідзе ў пастронках разам з ёй
Грудасты конік-пакладанец.



Ён галаву сваю схіліў
Да любай кабылінай пыскі.
Пяшчота! Гэтакі прыліў!
Яна, каханая, так блізка!

Таму і рвецца, цягне плуг:
Мо любенькай аблегчыць ворыва.
У такт і кожны ўздых, і рух!
Яны ж удвох! І гэтак здорава!

## ВЯЛІКДЗЕНЬ

*(ВЯЛІКАННЕ,
ВЯЛІЧКА,
ВЯЛІГДЗЕНЬ,
ПАСХА)*

Вялікдзень настаў. І мамулька расчулена.
Курыныя яйкі – нібыта цыбуліны.
Абрус упрыгожвае пасха тварожная,
Куліч і бутэлька яшчэ не парожняя.

Матуля суседу: "Хрыстос уваскрос!
Хвала! Алілуя! Хвала! Алілуя!"
І ён пасвятлеў (крыж на шыі – наўскос!)
І тройчы матулю цалуе, цалуе!

Сняжынкі вярнуліся белымі чайкамі,
Якія таксама з пасхальнымі яйкамі.
Ляціць верабей, утрапёна чырыкае:
"Салоўка, зацёхкай, бо свята вялікае!"



І птушка запела: “Хрыстос уваскрос!
Хвала! Алілуя! Хвала! Алілуя!”
І песня драбнюткія лісці бяроз
Цяплом напаўняе і ўмольна мілуе.

Пралескі Вялікдзень вітаюць пялёсткамі:
З’явіліся з нетраў стварэннямі боскімі.
Іх тварыкі прагна да сонца ўздымаюцца,
І кветкі ўваскрэслымі сёння ўспрымаюцца.

Кажу, паўтараю: “Хрыстос уваскрос!
Хвала! Алілуя! Хвала! Алілуя!”
Схапіў развядзёнку – тут і жарт, і сур’ёз –
Яе абдымаю і шчыра цалую!

* * *

Казыча пах саладкаваты
Ўваскрэслых кветкі і ліста.
Такі настрой, такое свята –
Дзень уваскрэсення Хрыста!

Дарога ў храм для ўсіх адкрыта.
Туды і я шлях скіраваў.
А ў яйку столькі каларыту!
Учора сам размаляваў.

Яно, бы сонейка ў далоні, –
Краса зямлі, краса нябёс!
Яго ў сваім жыццёвым лоне
Вялікдзень велічны прынёс.



Аднак і Радаўніца хутка,
і Перамогі слаўны дзень.
Таму і ўваскрасае ў смутку
Смяротнасці нябачны цень,

Такі халодны, жорсткі, хвосткі!
Такі бязлітасны ў жыцці!
І гінуць людзі, як пялёсткі,
І ўваскрашэння не знайсці…

А сёння ачуняў балесны
Ад жыццядайнага агню!
І справядлівасць уваскрэсне
З удзячнасцю Вялікадню.

* * *

Вясна! І лужы – што азёры,
і праменьчык на траве!
І я – вясёлы і бадзёры!
Край ажыў! Мой край жыве!
Няхай праз пень і праз калоду
шмат струменіцца вады –
Нясе прырода асалоду
ў вёсачкі, і ў гарады.

Вясною коснасці
Ўжо не сцярпець.
Бо столькі ўзнёсласці!
Ахвота пець!



Упэўніўся: калі не ў духу
ці агортвае адчай,
То ўсю нязладжанасць і скруху
забярэ з сабой ручай.
Вясною гэтакі я ўзнёслы!
Гэткі дужы, малады!
Калі б не вёсны, каб не вёсны,
што са мной было б тады?

Вясною коснасці
Ўжо не сцярпець.
Бо столькі ўзнёсласці!
Ахвота пець!

## І РАПТАМ...

І раптам – гора! Гора! Гора!
На сэрцы – страшнае таўро!
Жалоба вострым рогам пора,
Пераварочвае нутро.

І сонейка сурова, строга
Глядзіць, хмурыначкі адсоўвае.
Мой родны ганак... Ад парога –
Дарожкай лапачкі яловыя.

Трывожны пах зялёнай хвоі.
Яе лапчастыя сляды –
Туды, дзе знікла ўсё жывое,
І дзе ніякае бяды,



Ні нашай думкі трывіяльнай,
Ні клопатаў, ні радасці,
Дзе толькі стан неадчувальны,
Адкуль і кветцы не ўзрасці…

Сляды маўклівасці суровай…
Хваінкам доўга не завяць.
Ля хаты ў варце ганаровай
Тужліва елачкі стаяць.

* * *

Мамуля ў кветках, ды маўчыць…
Ля дамавіны – вечка…
"Прыйшоў і ёй час адпачыць", –
Шапнула кветкам свечка.

І след гарачае слязы
Застыў зусім без руху.
Маўчаць у скрусе абразы.
У хаце нудна, глуха.

* * *

Я ж казаў табе, мамка, не вохкай
І не біся ў сцяну існавання:
Посуд розуму тонкі, і крохкі –
Можа ўраз разляцецца дазвання.



І вось думкі навек адляцелі.
Ты застыла спакойна і нема.
Ад жыцця ў абыякавым целе
Засталася адна толькі схема.

Зараз ты – і прастора, і форма,
Паслядоўны працэс і здарэнне.
Ты – і час, і жыццёвая норма,
І матэрыі пераўтварэнне.

Я таксама з такіх жа малекул:
Твае клетачкі іх нараджалі.
Ком у горле з'явіўся аднекуль
І спякаецца ў вогнішчы жалю...

* * *

Ну вось і ўсё. Радня… клады…
Іду, як ачмурэла-п'яны.
Душа гудзе, нібы лады
Ў даўно аджылага баяна.

Уздых напружвае мяхі,
У выдыху – адна знямога…
Мамулька! Святасць, і грахі,
І споведзь быў, а ўжо – нічога.

Знікаеш ты… О, не! Яшчэ
Твайго вакол нямала ўсё-ткі…
Таксама сонейка пячэ,
І грае ветрык тыя ж ноткі.



У спеху сонечнага дня
Бутоны раскрываюць ружы.
І ловіць радасць дзіцяня,
Унук твой, у глыбінях лужын.

І хочацца з магілкі сыр
Украсці хітранькай вароне…
Такая плынь жыцця і вір
Зямных трагедый і іроній.

* * *

Ці помніш, Барбос, гаспадыню,
Якая цябе адкарміла?
Не стала яе, а ля тыну
Ты свет сузіраеш так міла.

Жыццё не ўкладзеш у аповесць,
Ход часу табе невядомы.
Не думаеш. Пыса пад поўсцю
Здаецца без думак і стомы.

Маршчынак ніякіх не бачу:
І ў старасці не завяліся.
Здзіўляеш чупрынай сабачай,
Густой, без ніякіх залысін.

Ад гневу чамусь не бялееш.
Не ўспыхвае чырванню сорам.
Адно толькі гаўкнуць умееш
Ды глянуць на дурня з дакорам.



Затое разважлівасць маеш
І розум халодны, як носік.
Заўсёды мяне падтрымаеш,
Мой добры, старэнькі Барбосік.

## РАДАЎНІЦА

*(РАДУНІЦА,*
*ПРОВАДЫ,*
*МЁРТВЫ ДЗЕНЬ,*
*ПРАВАДНЫ ДЗЕНЬ)*

Сягоння сэрца рада біцца,
Таму ў грудзях маіх – цымбалы.
Экзаменуе Радуніца!
Якія ж нам паставіць балы?

Мы ўсе – сярод жывое зелені
Пад мёртвым небасхілам сінім.
Мы ў часе доляю паселены
І ў часе неадменна згінем,

Як тыя, што хадою мернай
Паходжвалі такім жа днём.
Мінулае ніяк не вернем,
Але давайце памянём!

Былое мераем стагоддзямі,
Адно ў закончаным трыванні.
Шукаем шчасця, а знаходзім мы
Яго ў звычайным існаванні.



Ды і яно няўмольна меркне
І ноччу, і пагожым днём.
Мы ў плыні часу – на паверхні,
А тых… давайце памянём.

* * *

Мне вобраз родны не параніць бы,
Бо дні мае, бы шкельцы ў звязцы.
На цягніку бягучай памяці
Мамулька ўжо ў далёкай казцы.

А цягнікі ўсе сталі скорымі,
Праз вокны – сны альбо ўспаміны.
Мільгне рабіна святлафорам і
Ў мінулым назаўсёды згіне.

Смяецца фота ў простай рамачцы –
Былое з памяці не сцерці.
Вось колішні лісток ад мамачкі
Ў пажоўклым злежаным канверце.

Салодкія там словы рояцца,
Нібыта меданосы-пчолы:
“Сыночак любы, як здароўіца?
Ці па-ранейшаму вясёлы?”

Радкамі літары. Усе яны,
Бы каліўцы рукамі мамкі…
І раптам… васількі пасеяны –
Перад вачыма – кроплі-плямкі.



Адтуль, адтуль з вачэй матуліных –
Расплывістыя акварэлі.
Чытаю і такі расчулены!
Павекі нават узмакрэлі.

Мне вобраз маці не параніць бы,
Бо дні мае, бы шкельцаў вязка.
Са мной ад вечара да раніцы –
Любоў матуліна і ласка.

* * *

У вазе – кветка-незабудка.
Ну як жыццё мне не любіць?
Мой добры сябра зможа хутка
Ў мой лёс… апошні цвік забіць.

І, можа, эпілог напіша
Да кніжачкі майго жыцця,
На жаль, з-пад насыпнога ўзвышша
Сяброў не ўбачыць мне, хаця

Яшчэ пачую – і нямала! –
Лагоднасці і дабрыні,
І словы любай, што ўздымала
Мяне да светлай вышыні

Ўлюбёнасці і асалоды,
Напэўна, тысячы разоў.
І мо з надземнае свабоды
Кране душэўны перазоў.



Уздрыгнуць мазгавыя жылкі,
Шапнуўшы: “Родненькі, маўчы!
Усе замкнёныя магілкі:
Крыжы – надзейныя ключы”.

## ЮР´Е

*(ЮРЫЙ,*
*ЯГОРЫЙ,*
*ЯГОР´Е)*

06 05

І мяцеліцы, і буры
Адплылі ажно на полюс.
Усур’ёз плануе Юрый
Вырасціць вялікі колас.

Усур’ёз і маладзіцы
Ўсходы жыта і пшаніцы
Пакрываюць палатном,
Каб змаглося перад сном
Ім нарэшце зацяжарыць,
А не толькі трызніць-марыць.

Адганю тугу і дур я,
І не мець бы іх ніколі.
На двары – бадзёры Юр’е.
Дзед, гані кароўку ў поле!



* * *

Які сёння захад барвовы!
Які сёння захад крывавы!
Ці гэта мо гнеў Іеговы?
Ці Божай патугі
праявы?

Мне тое ўжо не перанесці,
Што неба зноў адлюстравала.
Праклятым хай будзе нашэсце!
Праклятай
хай будзе навала!

Няўжо дзесьці ў нейкай краіне
Рыхтуецца збройнік драпежны?
Няўжо вераломна ён рыне
На родны мой край
незалежны?

Няўжо па-ранейшаму злосны,
Прасякнуты мэтай былою?
Няўжо абгарэлыя сосны
Заплачуць
крывавай смалою?

Дык дзе ж тыя Боскія вагі,
Што ўзважылі б долечку з горам,
Што ўзважылі б сілу адвагі,
Людское сумленне
і сорам?



Адсвечвае захад барвовы
Запал светлавога абраду:
Сабраліся да Іеговы
Намеснікі ўсе
на нараду.

## ДЗЕНЬ ПЕРАМОГІ

09 05

Ахвяры… Многіх ведаў асабіста.
У памяць іх лампадку запалю.
Як зверы, наваліліся фашысты
На нашу шматпакутную зямлю.

Здаецца, безвыходнасці навала
Ніякіх не пакінула надзей.
Здаецца, назаўсёды ўжо скавала
Жыццё і дух пакораных людзей.

Пакораных? Ды не! Бандыт, пралікі –
Навідавоку! Усявышні не з табой!*
Мой родны край паўстаў на бой вялікі,
На гераічны, на свяшчэнны бой!

І ўзвыў фашызм і на пачатку мая
Ў баі склаў зброю разам… з галавой.
Таму настрой мой сённячы ўздымае
Дзень Перамогі песняй агнявой:

*На спражках фашысцкіх салдат былі словы: “З намі Бог”.



Пажыраў агонь калоссе,
І людзей, і хаты…
Гэтулькі крыві лілося!
Азвярэлі каты!

Дамагаўся вораг люты
Нашае знямогі.
Нам жа сніўся праз пакуты
Прывід Перамогі.

Там, дзе трактар сёння ў полі
Снойдаецца ў гуле,
Воін паміраў ад болю –
Ад варожай кулі.

Як заўсёды, бой быў стратны:
Забіваў жывога.
Паміраў сваяк мой ратны…
Дзе ж ты, Перамога?

І нарэшце – сорак пяты!
Мір! Такі патрэбны!
Дух фашызму быў распяты
На крыжы ганебным!

Наляцелі зноў трывогі.
Кожны ўцяміць мусіў:
Мы дайшлі да Перамогі,
Бо былі ў Саюзе.



Гора дзесьці! Войны недзе!
І ашчэр звярыны!
Дык яднаймася, суседзі,
Мірныя краіны!

Узаемадапамога –
Як ружжо ў запасе.
Помніце, што Перамога
Проста не далася.

Дзякуй богу, дзякуй богу,
Што жывецца з песняй.
Апяваю Перамогу
Я штовесну.

* * *

Узяў фотакарткі, узважыў калоду:
Мінулае як бы не мае вагі.
І тут жа адчуў, як душы асалоду
Спавілі гаротныя стужкі тугі.

На здымак гляджу буравата-зжаўцелы.
А ён – быццам сцень парыжэлай крыві.
Савецкі баец. Яго вочы хацелі
Сказаць сваёй маці: “Трывайся! Жыві!”

А на адвароце ў кароценькім змесце:
“Служу, не сумую. З усімі ў ладу.
Здымаўся ў маі сорак першага ў Брэсце,
А ў чэрвені, мамка, дадому прыйду”.



А ў чэрвені раптам у громе расколаў
Памерклі нябёсы бязвоблачным днём.
І бомбы, і танкі, і процьма жаролаў
Грымелі і ўсё руйнавалі агнём…

Няма ўжо старое зняможанай маці,
Што фота сынка больш сябе берагла…
Глядзіць запытальна, як прывід, салдацік.
Маўчыць крываяніста-рудая імгла….

* * *

А вось другі баец на фота –
Мой бацька. У вачах – самота.
Апавядае вінавата
З мінулага пагляд салдата:

“Я не пачуў чамусьці стрэла
І не ўлавіў чужынскай мовы…
Не жонка любая сустрэла,
А куля ў гэты дзень зімовы.

Мігнула сонейка ўгары,
Хіснулася і ў хмарку лезе.
Бясклопатныя снегіры
Замітусіліся на снезе.

Пячэ агнём нястрымным куля,
Тугой падзьмула з пералеску…
Ніхто не прынясе, матуля,
Табе пакутлівую вестку.



Паблякла сонейка ўгары,
І збег прамень са снежнай пусткі.
Бліжэй, малечы-снегіры!
Дзяўбіце крывяныя згусткі!

Пакінулі лясок фашысты.
У снезе засынаю ў зморы.
Ля твару – камячок пушысты,
Нібы ў крыві на грудцы пёры.

Счарнела сонейка ўгары,
І рана ўжо зусім не смаліць...
Ляціце ў вёску, снегіры, –
Як памяць пра мяне, як памяць”.

* * *

Няўжо, снегіры, вас бяда чалавечая
Зусім не кранула той страшнай зімой?
Чаму ж мне трызнілася, хоць быў малеча я,
Як дзесьці пакутаваў татачка мой?

Бацькоўскае сэрца гарэла, як полымя,
Згараў і няздзейснены лёс...
Агонь той, схапіўшы рукамі шчэ кволымі,
Я ў сэрца сваё перанёс.

Таму і дасюль яно надта пякучае –
Расплавіць любую руду,
І можа таму над жыццёваю кручаю
Амаль неаглядна іду.



І хай сустракаецца ўсё працідзейнае –
За сонцам бягу наўздагон...
Узяў я ад татачкі ўсё праметэйнае:
І волю, і жарсць, і агонь.

* * *

Сузор'і сягоння, нібы кандэлябры,
Якія ўскалыхвае з вогнішча дым.
Давай, калі выпала, добры мой сябра,
З бутэлькай спагаднай крыху пасядзім.

У ёй адлюстроўваюцца і праменні,
І радасць сустрэчы, і іншае штосьці,
Якое спрыяе, каб сёння джэнтльмэны
Прыпомнілі разам сваю маладосць.

Ніякай увагі мітральнаму шуму,
Бо сэрца аж просіцца на кракавяк.
Мазгі аж гудуць ад вясёлага тлуму...
Бутэлька пыхлівая – фірменны гляк!

На шыі адзнакі – зіхціць аж маніста, –
Як быццам у дзеда майго медалі.
Дык вып'ем за дзеда, былога танкіста,
За тых, што нас ворагу не аддалі.

Асоба шкляная – паненка настрою,
Якая ўлівае запальны пагляд
І ўраз пераводзіць даўнейшую мрою
На новы, шчасліва-гарэзлівы лад...



На небе сузор’і, нібы кандэлябры,
І міралюбівы ад вогнішча дым.
З табою сягоння, даўнейшы мой сябра,
Сябе адчуваю амаль маладым.

* * *

Згарацъ хай ворагаў разлікі
І іх адвечная мана!
Айчыне трэба Мір вялікі,
А не вялікая Вайна!

Навошта бомбы і снарады,
І траекторыі наўпрост?
Я кожнаму дзянёчку рады,
Што сёння крочу ў поўны рост.

Нястрымнасць пачуцця і ласкі
Нясуць вясеннія дзянькі.
Вакол мяне – жывыя краскі
Ажно сплятаюцца ў вянкі.

І яблынькі ўсе – самацветы:
Пялёсткаў звон, гудзенне пчол.
І вішні – белыя букеты…
Само жыццё цвіце наўкол.

* * *

Вайна – бяда людская, факт!
Пасля яе – мір непазбежны.
Давай жа загадзя кантакт
З табой наладзім, сябр замежны.

І з прыязнасцю паглядзім
У вочы без маны пампезнай,
Руку сяброўства пададзім,
Ды толькі не кулак жалезны.

## СВЯТЫ МІКОЛА

*(ВЕСНАВЫ,*
*ВЕШНІ,*
*ЛЕТНІ,*
*ЦЁПЛЫ,*
*МІКОЛЬШЧЫНА)*

22 05

Ходзіць апякун зямлі Мікола,
Аглядае нівы ўсе наўкола,
Рассыпае кветкі над лугамі
І пасе скаціну з пастухамі.

Хто прыпасся сенам да Міколы,
Той не будзе бедаваць ніколі.
Толькі ўсё-ткі папракну Міколу,
Што натрос нам камароў з прыполу!



* * *

Заціхлі, задрамалі скрозь абшары
Пад растрапанай пухкай коўдрай хмар.
І толькі мне на скрыпцы Stradivari
Назойліва пілікае камар.

А побач шэпчуцца ўлюбёна пары.
То там, то тут мільгне шчаслівы твар.
І толькі мне на скрыпцы Stradivari
Назойліва пілікае камар.

Каханая сказала мне: “Ты – скнара!” –
І паімчала з іншым да Канар.
Аб тым цяпер на скрыпцы Stradivari
Назойліва пілікае камар.

За што – о богі! – мне такая кара?
Навошта талент камару?.. Удар!
І на далоні – скрыпка Stradivari,
І… каецца, што назаляў, камар.

А я маўчу ды ў думках абстрагую…
Каханай, мабыць, не прад’явіш іск.
Сышла-сплыла, а ці знайду другую?
Затое зноўку – камарыны піск!



* * *

На полі жытнім, каля верб,
Ручай мясцовасцю валодаў.
Стаміўся я... Рукой – зачэрп!
І твар абдаў свой прахалодай.

І смагу наталіў глыток
З празрыстай стужкі, з гладзі мелкай.
Бяжы, ручай! Спявай, браток,
Срабрысты абярог зямелькі!

Калоссі, стужка – вось і герб!
Перажывём усякі голад.
А дзе той серп? У небе серп!
І ў хмарах – перуновы молат.

Крычу яму: “О, не карай!
І, серп, не жні ўсіх нас паспешна!
Не стаў адноўлены мой край
Адвечным котлішчам для грэшных”.

Жыццё мо й даражэе ў нас,
Ды болей даражэем самі.
Бяжы, ручай, у добры час!
Мо сябра знойдзеш за лясамі.

Спяшайся, жвавы, як няўцерп,
Цалуйся з рэчкай шырачэзнай,
А так патрэбны тут, ля верб,
Для кожнае былінкі чэзлай!



* * *

Вышэй бярозак і ракіт,
Што ўзлезлі на пагорак, –
Нябесны, сонечны блакіт
Без воблакаў і зорак.

Затое сонца пасланцы
Вакол мяне – агнямі:
Гараць, як зоркі, дзьмухаўцы
Ў траве і нат у яме.

Яны – і першы вітамін,
Прычым для ўсіх дарэмны,
І наплываючы ўспамін
Пра лёс і перамены:

То дбайны сейбіт я, то жнец,
То меў няясныя абрысы,
А зараз – проста дзьмухавец,
Але пазнейшы, лысы,

І ўжо зусім не вітамін,
Для смаку не дабаўка.
Сяджу на лавачцы адзін:
Жанчын не вабіць лаўка.

Але ж глядзяць! Ды часам так!
І я, бы чую думкі:
“Напэўна, меў дзівак той смак...”
І добры, бабкі-кумкі!



І ўскоквае сам па сабе
Імпэт юнацкі, даўні,
І скроні ўжо знутры дзяўбе…
О! Як цудоўна ў траўні!

* * *

Падаўся ў край, дзе белыя азёры.
Іду зялёнай даланёй раўніны.
“Пастой! – мне шэпча клён у горы, –
Наўрад ці ўжо паспееш ты да Ніны*”.

А я іду між хат і гарадоў,
Шукаючы жаночыя сляды,
Ды толькі – кветачкі замест слядоў
Ля каменя, ля багны, ля вады.

І да чаго ж мой родны край прыгожы!
Спыніцца б і насаладзіцца! Я ж
Прасёлкі мераю, я ў падарожжы,
Каб стрэцца зноў з паэткаю Мацяш.

Спяшаюся праз карагод мяцеліц
Пялёсткаў белых, ластавак і пчол…
Хацелася ў страфу паэткі цэліць,
Але шкада: я не яе анёл.

*Ніна Мацяш (1943 г. – 2008 г.) – беларуская паэтэса, жыла ў Белаазёрску.



А сцежка – праз лугі і праз балотцы.
Замест слядоў – то люцікі, то лотаць.
Які ўжо след!? Яна такое моцы!
Як ластаўцы, у небе толькі лётаць!

І вось дабраўся да Белаазёрска,
А белакрылае няма ў гняздзе.
Адно будынкі пазіраюць жорстка,
Адно туга на провадзе гудзе.

Сляза застыла на шыпшыне колкай,
Панікла рунь жытнёвая наўсцяж.
Але чаму жаўрук спявае над вясёлкай?
Відаць, там свеціцца душа Мацяш.

Дадому еду. Не застаў паэткі.
А паўз акно плывуць журба і кпіны..
Бягуць назад кусты, сцяблінкі, кветкі,
Цярністай сцежкаю бягуць да Ніны.



* * *

Паклаў галаву я на рукі,
А мо на чыгунныя рэйкі?
Гучней і бліжэй перастукі…
Жыццё ўжо не варта капейкі.

Бывай, любы край мой дзівосны!
Застанься вясёлым і светлым!
Цягнік прагрукоча шматвосны –
І кропку паставім на гэтым.

Апошнія думкі і мукі…
Вось-вось белы свет абарвецца.
Мацней і гучней перастукі
І… з рэек саскочыла сэрца.

Падняў галаву рэфлектыўна.
О! Сонца ў гары, а не фара!
А збоку, цяжарная ліўнем, –
Шматвосная, чорная хмара.

* * *

Праменні глынае пачвара
І сонейка ў пашчу ўзяла –
Вялізная грузная хмара
Зацьміла ўсе фарбы сяла,



Спусціўшы залеўныя шторы.
Трагедыя там ці гратэск?
Нябачна. У хмарах – заторы,
І раптам – успышка і – трэск!

Знаёмы хаос, ды нязвыкла
Глядзець на жывыя клубы.
Што будзе з віхурнага цыкла?
Што будзе з такой барацьбы?

І ў рэшце рэшт неразбярыху
Закончыў дажджом Вадалей.
І хмарышча хмарку пакрыху
На громах тралюе далей.

І барвы ўжо іншыя ў высі:
То золата ззяе, то медзь.
І травы, і кветкі ўзняліся,
Каб сонейку ў твар паглядзець.

* * *

Жыць аднастайна – надакучыць хата,
А разнастайна – значыць марнатраўна.
І сумна жыць, калі галаднавата,
І цяжка, як перанагружан страўнік.

Жыве ў журбе, хто ад усіх залежны,
І не бадзёры бедны-раўнапраўны.
Трывожна жыць, калі ўладар жалезны,
І жах, калі ён мармытун бясслаўны.



Нуда, калі цячэ кроў манатонна.
І як віруе то не ўсякі шчасны…
Жылі вось гэтак і ў часы Платона,
І так марнуемся ў жыцці сучасным.

* * *

З хаты выбег. Дзе салоўка шэры?
Вунь жа ў кроне! Цохкае ў прагале!
Ззаду – плач: двухстворкавыя дзверы
Ў роспачы крыламі так махалі,

Што вось-вось маглі ў нябёсы ўзняцца
І ляцець за хмаркаю брухатай,
Ды ніяк не могуць развітацца
З апусцелай састарэлай хатай.

Сёння век мой – на краёчку кручы,
Добра хоць не на мясціне лобнай!
А ў душы дасюль плыве рыпучы
Плач дзвярэй… Такі жалобны!

* * *

Сэрца, не шчымі ўжо так, не ёкай
І ў напрузе не дрыжы!
Загартоўвайся і летняй спёкай,
І калі ідуць дажджы.
Каня-птах і ты не мітусіся,
І не плач, і не скуголь.



Жаўручок у небнай высі
Не пяе пра сум і боль.

Але каня кліча зрання,
Кліча й на працягу дня.
Мне не трэба крылы, каня,
Мне б – імклівага каня!

Я б адразу ў бойку рынуў,
Зняўшы дзедаўскі бізун,
Бо ля Нёмна, чуў, і ля Гарыні
Змей-Гарыныч, змей-гізун
І дасюль яшчэ не разумее,
Што патрэбны перамены...
Мой пагляд шукае змея,
Прагне і бізун раменны.

Толькі каня плача зрання,
Плача й на працягу дня...
Кінь жа, каня, нараканне,
Рушу я і без каня.

* * *

О сонейка! Воляй сваёй прымусовай
Трывожныя думкі мае парассоўвай
Па днях і гадах мне прызначанай долі,
А ўсякую крыўду, і мукі, і болі
Закінь у бясконцую ночку нябыту,
Нібы былы дождж ык ці знічку нібыта.



О сонейка! Воляй сваёй прымусовай
Памкненні, лятункі не вератасоўвай,
Не зманьвай навінкай фарсова-папсовай,
А лепей надзеяй сагрэй, хоць часовай,
А лепей хоць крышку палашчы, парадуй,
Калі не любоўю, дык хоць бы спагадай.

О сонейка! Воляй сваёй прымусовай
Усё, што стварыў я, не надта скасоўвай:
І вершы, і песні, і пробныя стылі,
Якія, заззяўшы, павольна застылі
Звычайнай абрадавай формаю… з дошак,
Дзе і… застанецца жыццёвы мой пошук.

* * *

Пяючы мой гай! Незабыўная засень!
Сустрэцца з табою нястрымна карціць.
Вунь там, за ялінамі, схілены ясень
Мяне ўжо заўважыў, тужліва глядзіць.

Калісьці за ім я пад вогненным вязам
Распальваў дзяўчыну і сам аж гарэў,
А потым з каханай заўважылі разам,
Што жар нашай жарсці крануўся і дрэў:

Разгалісты ясень вісеў на яліне,
З бярозкай кісейнай лагоднічаў вяз.
Спляліся ў абдымках тугія галіны –
Прыродны, лагодны, расчулены звяз…



Сапрэлі даўно ўжо апалыя лісці.
Гляджу на расу, што згадала слязу.
Здаецца, што локці і днём буду грызці,
Хаця па начах іх даўно ўжо грызу.

Так рад, што наведаў дрыготкую засень!
Дарэмна шуміце, дажджы і вятры!
Мы з вамі былое зусім не пагасім –
Яно грэе нас, як вугольчык, знутры.

## СЁМУХА

*(ТРОЇЦА,*
*СЯМІК,*
*КЛЕЧАННЕ)*

Сузор'і нябесныя – сіла няўцямная,
Якая скарыла прастору і час.
А дзе для нас чысцец і пекла няўяўнае?
Дык тут, на зямлі ўсе паслугі для нас.

І тут, на зямлі людзі ўсе сартыруюцца:
Не кожны пяройдзе памежны парог.
Надзеяй жывём, што грахі нам даруюцца,
А ўпэўніцца ў гэтым ніхто шчэ не змог.

Аднак прад іконай так хараша мроіцца:
Мо ўсё ж адарвецца душа ад зямлі?
І можа даруе грахі мае Троіца,
Бо каяўся ўсё-ткі калі-нікалі?



Я чуў: у яе што хвіліна – працоўная,
Аднак я прыхільнасці небнай малю:
Калі хтосьці долю там пераніцоўвае,
То хай пераробіць наноў і маю.

Жыву, трапячу пад нябеснай вачніцаю,
Сябе і надзеяй, і верай кармлю...
Прыцягвае дол. Я ракітаю ніцай,
Як мамку, цалую і лашчу зямлю.

* * *

Зялёныя святы! Спявае ваколіца!
Кватэру аздоблю аерам, трысцём!
Сягоння душа можа ўволю натоліцца
Шматколерным і захапляльным жыццём.

Здзіўляюць кранальнай пяшчотаю далі.
У кожнай быліначчы столькі лагоды!
Дзяўчаты галінкі бяроз паспляталі
І водзяць пад імі свае карагоды.

У свята выконвае нешта сваё муха,
А з ёю спявае і таньчыць камар.
І птушку ўзбудзіла ўрачыстая Сёмуха,
І ў твар мой пяшчотна ўдыхнула свой жар.

І я адчуваю, што шчасцем узняты,
Што свет успрымаю цяпер, як ніколі.
Зялёныя святы! Зялёныя святы
Сягоння ўпрыгожылі ўсё наваколле.



* * *

Нараджаецца сонейка яркае,
Хоць і быў адваротны прагноз.
Шоўк блакіту з адзінаю хмаркаю –
З перламутравай брошкай нябёс.

Пырснуў промень анёльскім пражэктарам,
Шыбы сонныя мякка працёр
І натхніў мяне тут жа пражэктамі –
Пазайздросціць любы пражэкцёр.

Захапляюся дзённай праграмаю,
Ды кватэра заціснута ў гмах.
Толькі там, за аконнаю рамаю,
Плынь жыцця набывае размах.

Салавейка здзіўляе руладамі,
Творчы прыклад і мне падае,
Асыпае сваімі парадамі,
Карэктуе задумкі мае.

Ну і птушачка! З выгляду шэрая,
Але ж гэткі жыццёвы імпэт!
У натхняльны праменьчык уверую,
Як і ўзнёслы салоўка-сусед.



* * *

Дзе ж ты, час мінулы мой, былы?
Дзе юнацкі лёс пластычна-коўкі?
Рвуся, прыкаваны да скалы –
Да абжылае шматпавярхоўкі.

Долечка – нібыта кайданы
Ці гадзіннік веку на запясці.
Крочу ад сцяны і да сцяны…
Хіба тут усё зямное шчасце?

Мо збяру ўсе сілы і змагу?..
У натузе ўзрыўнай чырванею…
Вырваў… бок сцяны на ланцугу!
Вось яна – ідэя Праметэя!

Вір жыцця! Кручуся ў тым віры.
Здавальненне вырасла з пакуты.
Сэрца, біся! І душа твары!
Я на строме шчасця! Я – раскуты!

* * *

Задума сцежкай манатоннай
У далягляд ужо пракладзена.
Далей! Далей ад многатоннай,
Застылай гарадской грамадзіны!

Туды, дзе вецер душы чысціць,
Дзе ў неба сосны – дзіўнай готыкай,



Дзе маюць голас травы, лісці,
Дзе кісларод адчую дотыкам,

Дзе злакі мірна каласуюць
Свабоднымі і нечапанымі,
І кветкі паміж іх красуюць
То каралевамі, то паннамі.

Хай фанабэрацца газоны,
Што ў іх прычоскі новыя.
Мо для каго і гранд-персоны,
А для мяне – брытагаловыя.

Імкнуся ў поле. Чэрвень кліча
Скупнуцца ў прамянёвым золаце.
Якое ў чэрвеня аблічча?
Не гэткае, як тут, у горадзе.

* * *

І, нарэшце, на поплаў я цэліў.
Так прыемна і хораша ў целе.
Туфлі скінуў, ды ўскрыкнуў: "Вой! Дзе ж вы?..
Вельмі ж траўка казыча падэшвы!"
Прыхаваў у цянёчку і шмоцце:
Хай падсохне жывоцік, бо ў поце.
Прыдрамнуць бы на посцілцы трошкі,
Ды палезлі настырныя мошкі,
І прыліп, і пасунуўся ўздоўж



Левай лыткі рагаценькі смоўж.
І куды ж яго шлях па назе?
А калі не туды запаўзе?
Закрываю павекі ў патолі.
Сон шчаслівы на лузе адолеў.
Але што гэта? Ляпнуў па вуху:
Аглушыў крыху сінюю муху.
Разваліўся санлівы, знямоглы.
Зноў мурашкі апырскалі сцёгны!
І лісток апякае крапіўны,
І асот натапырвае біўні!
Не крануць бы яго мне, асоту...
Вочы плюшчу, паплыў у дрымоту.
Раптам... Бахнуў па строме чала!
Саладосць там шукала пчала,
Ды ўжо помпу сваю валачэ,
А далоня так моцна пячэ!
Давялося крыху і насу:
Ледзь вычыхваю з ноздры асу.
І чаго ж туды лезуць гарэзы?
Мо кватэрныя ў іх інтарэсы?
Сверб ля пупа – пухір, нібы гузік...
Эх, і шыр навакол, а на лузе
Няма месца пяшчотнаму цельцу,
Няма праў гарадскому прышэльцу.



* * *

Конікі на скрыпках тонка
Граюць у траве густой.
А шыпшына-недаткнёнка
Мне ківае: “Гэй, пастой!”

Рад я пагляду такому,
Падыду і мо аддам
І запыленасць, і стому
Густавеерным лістам.

Дакрануўся да галіны,
І яна мне – да шчакі.
Зараз жа назад адрынуў:
Колкі дотык! Ды такі!..

Ну і я яе, напэўна,
Ледзьве не давёў да слёз:
Пагаліцца не паспеў я,
Шчэццю колкаю аброс.

А шыпшына ўсё ж красуе,
Кветачкі ўпляла ў касу.
Развітаўся і... нясу я
Ў сэрцы колкую красу.



* * *

Бываюць усё-такі радасці ўсплёскі,
Якіх у душы немагчыма ўтрымаці,

Калі дабяруся да роднае вёскі,
Калі апынуся ў матулінай хаце.

У раме аконнай – пейзаж, нібы фотка.
Здзіўляюцца шыбы, аж вочы працерлі:

За полем – гаёк, што зялёная шчотка,
І лужы на лузе, што яркія перлы.

За шэрымі хаткамі — сонныя гумны,
Ля іх — сценкі дроў і цурбалкаў галовы,

Далей на лужку — новы прывід, разумны:
Электрапастух запыняе каровы.

А там па-за вёскай бягуць каляіны,
Каб дзесьці дабіцца сяброўства шашы.

І думкі мае над абсягам краіны –
Няўтолены пошук натхнення душы.



## НЕ ЧАСТА БАЧУ Я САРОКУ, ЗАТОЕ БАБ – НА КОЖНЫМ КРОКУ!

Шыбую з оперы ў настроі.
Душа аж арыі пяе.
Пяюць і трапяткія мроі,
І нават жылкі ўсе мае.

Танцуе сэрца хабанеру,
Захрас матыў яе ў грудзях.
І мне, старому кавалеру,
Аж не стрымацца пры людзях,

Бо дух кахання зноў кіруе
Ў душу маю, нібыта ў сне…
О, лёс! Красунечка вандруе
І гэтак блізка паўз мяне?

"Пастой! – крычу я ёй умольна –
Глядзі: ва ўтоме аж аслаб…
І ўжо – няшчасны твой нявольнік,
Між тым, і самы шчасны раб!"

І вось нібы трапляю ў казку,
Дзе столькі нечаканых змен.
І дзе любоў маю і ласку
Ўспрымае з радасцю Кармэн.

Падумаў, што мая ўжо пташка,
Што можна ўзяць і – пад замок.

Але ўтрымаць лятуху цяжка:
Зналёту адпіхнула ўбок.

І зноў жыццё маё бы тлен,
І зноў ніякіх перамен.
Кармэн! Кармэн! Дзе ж ты, Кармэн?
Няма Кармэн. А хто ўзамен?

Між чатырох панурых сцен
Застыў, нібыта манекен.
А пад акном ідуць паненкі,
Але зусім не манекенкі.

І сэрца таньчыць хабанеру,
Бо ўсё-такі ў каханне веру.

* * *

Дзеўку сустрэў я ну проста – газэль!
Гэтулькі фарбаў! І гэтакі стыль!
Самая лепшая фотамадэль!
Ледзь не вальсуе, не таньчыць кадрыль.

Туфелькі, бачу, з адкрытымі плюснамі...
Як толькі могуць па сэрцы прайсці?
Мне б дакрануцца хаця б толькі вуснамі,
Мне б ахілесаву пятку знайсці...

Проста і лёгка прамацаць вачам
Выпукласць ног і стракатасць крыла.



Мо… расшпілю свой падраны калчан?
Там засталася, здаецца, страла.

Хіба што з гэтай стралой ненадзейнаю
Можна смялей да яе падыйсці…
Толькі ці ўдасца за кофтай кісейнаю
Добразычлівае сэрца знайсці?

Стройная, лёгкая, як бы газэль…
Гэта рэклама, ці будняя быль?
Надта ўжо дзіўная фотамадэль…
Во!.. Гэта хто? Гэта ж – фотаматыль!

* * *

Наш горад – чысценькі, утульны.
Казыча пах і ад цырульні,
І пах ад бара, і ад бліннай,
І ад закусачнай быліннай,
І ад малюскаў у таверне.
Але… з машын газ выхлапны
Стаў гэтакім, што нос аж верне
Амаль да ўласнае спіны.
А тут, вачам сваім не веру:
Размаляванае няўмеру,
Ідзе прыгожае дзяўчо,
Ад сумкі – лейцы праз плячо.
І ножка схована ў платформе,
І зрэзана спаднічка коса,



І іншае па новай форме…
Але чаму дымок з-пад носа?
Ці мода прапануе позу?
Ці смог раз’еў ёй слабы розум?
Дзяўчо дыміць, нутро згарае…
Няўжо вось так нас Бог карае?
Тады чаму? Тады за што?
Дзяўчына ў дыме, як аўто…

* * *

Настрой вышэй узносіцца.
Дзянёк выдатны выдаўся.
Іду. Над пераносіцай
Пагляд вачэй заблытаўся.

Гляджу, спавіты словамі…
Уражанні стрыножваюць:
Ліловымі галовамі
Жанчыны заварожваюць.

Вунь – макаўка махровая,
Вось – бульбінаю брытаю
І гэтак зачароўвае!
Заманьвае ў адкрытую!

То пасмачка прытулена,
То ўзлётвае, паблісквае.
Прычоска то цыбулінай,
То пурпурнай радыскаю.



То колер фіялетавы,
То бліскаўка ўзгараецца…
Дзяўчаты! Ох, як летам вы
Мяне заўжды здзіўляеце!

Мільгае колер попельны,
За ім ідзе каштанавы.
А там – сняжком аздоблены…
Ох, як жа ўсе жаданы вы!

Галоўкі сталі кветкамі,
Падвесачкі – званочкамі.
Дзіўлюся днём кабеткамі,
А сніцца будуць ночкамі.

І галава аж кружыцца!
І сэрца ў смутку топчацца,
І ўжо… на старце тужыцца!..
Так ірвануцца хочацца

На гэты россып кветкавы
Праменьчыкам у золаце…
Гэй, “кветкі”, што так рэдка вы
Мне ўдумны позірк дорыце?

* * *

Пазіраюць пільна зоркі-гледачы,
Як між ціхіх дрэў бадзяюся ўначы,
Як адшукваю ажно да рання
Мройныя сляды свайго кахання.



І не раз у цемры мне здавалася,
Што яно ў лістоце дрэў схавалася.

Прыглядаюся: дык дзе ж яна, любоў?
На бярозе толькі купка галубоў.
На асіне з кожнае галінкі
Ветрык сціпла здзьмухвае пылінкі.
А каханне там і не хавалася,
Ды шчаслівы тым быў, што здавалася.

## УСМІХНУЛАСЯ СЦІПЛА І МІЛА – І МОЙ ГОНАР МУЖЧЫНСКІ ЗЛАМІЛА

Даганяю красуню-лілею.
Стан яе ўзняў душэўны мой стан.
Пунсавею прад ёй і бляднею,
І... рвануў з вуснаў слоўны фантан:

“Хай без крыл, ды ўзмахнуўшы брывамі,
Вы лунаеце ўжо ля аблок.
А я рыфмы свае шлю за Вамі,
Ды дарма: не Купала, не Блок.

Вы так ззяеце ў сонечным спектры,
Вас трымае прамень залаты!
Я ж не ў сілах трымацца ў паветры,
Ля аблочнае Вашай фаты.

Мо пачуеце ўсё-ткі здаля Вы,
Як вярнуцца назад я малю?



Апускайцеся з мроі да явы,
На прыгожую нашу зямлю.

А пасля мы пакорым сумесна
Вышыню і зямны далягляд,
І за Вамі, за вашаю песняй
Я, шчаслівы, лятаць буду рад”.

* * *

Вам спадабаюцца і нівы,
І бору хвойны фіміям.
А я й да ветрыка раўнівы,
Што расплятае косы Вам.

Вас, бачу, хмаркі запрасілі
На свята ў ясную зару.
А я гляджу, маўчу ў бяссіллі,
І сам – у барве! Аж гару

Ад шэпту Вашае спаднічкі:
Вось-вось пагляд мой прыгарне,
Ды ножкі – вострыя нажнічкі,
Абрэзалі аж вейкі мне…

І ветрык сарамліва вее.
А Вам пакуль яшчэ няўцям,
Што і духі, і крэм “Nivea” –
Ваш ап’яняльны фіміям.



* * *

Сябры мае даўно жанатыя,
Але чамусьці пры сустрэчы
Глядзяць, нібыта вінаватыя:
Відаць, што пахваліцца нечым.

А я, пакуль што, – халасцяк
І крочу ўсюды напрасцяк.
І, ведаеце, не пустое
Жыццё такое, халастое.

У байках соль ёсць і іронія:
Баяцца страказлоў стракозы.
Але ж у халастым патроне я
Нікому не нясу пагрозы.

Заўжды знаходзіў, халасцяк,
У гэтакім жыцці свой смак,
Бо верыў: проста завядзёнка,
Калі ў цябе пад бокам жонка.

Давайце ж долю халасцяцкую,
Абое кінем, незнаёмка.
Раней лічыў жанчыну цацкаю,
А перад Вамі так няёмка!

Паверце мне, што халасцяк –
Найлепшы для сям'і касцяк.
І сёння цалкам я за тое,
Каб існаванне халастое,



Забыўшы, ва ўспамін адправіць
І ў хуткім часе шлюб уславіць.
Дык дайце, дзіўная, руку
Заўзятаму халасцяку!

* * *

Жанчына смела паглядзела:
Пагляд, што промень залаты.
*– Смущать меня совсем не дело,*
*Давайте перейдём на ты.*

– Ну што ж, больш не пайду на Вы,
Як аб'яўляў калісьці княжа;
Хай лепей дыялог жывы
Нас назаўжды даверам звяжа.

* * *

Зара ў залаціста-чырвонай сукенцы,
Пашытай, відаць, без прымеркі,
Красуецца і заглядае ў акенцы,
Нібыта глядзіцца ў люстэркі.

Ні ценю маркоты, ні нават адценку –
Вясёлая ў сонца дачушка.
Нясцерпна казыча грудную мне сценку
Шчаслівае сэрцайка-птушка.

Дастану, агледжу, высока падкіну:
Няхай сабе ў неба злятае.
Мо прыме, палашчыць яго хоць хвіліну
Красуня – зара залатая.

* * *

Глянуў месяц з-за гардзін,
Жмурыцца, смяецца.
Бо я сёння не адзін:
Побач песня льецца.

Дык пяём, пяём, чароўная,
Як “Сябры”, ці як “Любэ”*.
Створым гурт свой, бо раптоўна я
Ўбачыў талент у цябе.

Што замоўкла? Не маўчы!
Нешта дзіўнае здалося?
Без няўдач, без немачы
Будзе наша двухгалоссе.

Не ўцякай, мая чароўная!
Ты куды? Куды? Пастой!
Хіба ноты не ўсе роўныя?
Дык прабач, што ўзяў не з той…

Сядзь і распусці касу.
Вось і тэпці, і панчохі.

---

* Эстрадныя гурты.



Кавы зараз прынясу,
Паспяваем трохі...

Раптам любая, чароўная,
Кажа моваю прамой:
– Што мне сказы многаслоўныя?
Лепш цябе абняць самой!

І як сцісне, рызыкоўная!
Мне б самому трэба так...
Вой, каханая, чароўная!
Песню сцяў гарачы смак!

* * *

Шыпшына цвіце, і цвіце цвінтарэй;
Бязмежнае неба, ды думкі – шырэй?
А ты – як сукупнасць такіх велічынь,
Жаноцкасць усіх прыгажэйшых жанчын.
Не толькі жывеш ты, а проста гарыш:
Раскінуўшы рукі, душэўны свой крыж,
То ўкленчыш на ўзлессі, то кінешся ніц,
Каб моўчкі паслухаць размовы суніц.
І постаць напоўніцца водарам хвой,
І ў неба ўзнясецца дух радасны твой...
Не дзіва, што аптымістычны салоўка
Табе падарыў паэтычнасць алоўка,
Не дзіва, што цецеруковым пяром ты,
Як выйдзеш на ток, то і строчыш экспромты.
Ляціш і пяеш, як нястомная пташка.



Ніколі не скардзішся як там ні цяжка.
На фабрыцы ёсць разнастайныя цэхі
Для працы кіпучае і для пацехі:
Цэх словачасальны цябе спаланіў,
Цэх вершапрадзільны любоўю натхніў,
Цэх ткацка-мастацкі тчэ оду, адно
Бяры і раскройвай яе палатно.
Жанчына-шыпшына, спявай, гавары,
Я слухаць гатоў аж да самай зары!
Гаворку тваю, што ярчэй усіх моў,
Я разам з табою забраў бы дамоў.

## Дзень збавення, Дзень вызвалення, Дзень незалежнасці

03 07

Напэўна валошкі нябёсы так сіняць –
Маланкай здагадка пранеслася ў мыслях,
І тут жа ўзляцела на Млечны гасцінец
І з зоркамі продкаў з'ядналася ў высях.

Там зоркі Айчыны, а іх – мірыяды!
Там сэрцы герояў яшчэ не патухлі.
Там кліча Мядзведзіца іх да нарады,
Разносячы мёд у залочаным куфлі.

Так хочацца з імі пабыць хоць бы трошкі,
Тым больш урачыстым сягонняшнім святам.

Да іх несучы каласкі і валошкі,
Узлёт уяўляю... Імгненне, і я – там!
Настрой чалавечы –
у зорнай сінечы.

* * *

Пенсіянеркі ўселіся на лаўках
І нетаропка дзеляцца былым.
Маленькі мопсік тоненька загаўкаў,
Але не здольны паказацца злым.

А маладзіцы з дзеткамі каляскі
Ўрачыста вывезлі на тратуар,
І ў кожнай у вачах – жывыя яскі,
І ўсмешкай свеціцца шчаслівы твар.

Хаця магло ўсё скласціся іначай,
Што разумеецца само сабой…
Паблізу, за спартшколаю дзіцячай
Калісь ішоў кровапралітны бой.

За родны край змагаліся славяне.
Часцей, сябры, успамінайма тых,
Хто кроў і гнеў свой заціскаў у ране,
Каго прабіла куля альбо штых.

Бо з тых часоў па змучанай старонцы –
Крыжы, магілы, абеліскі спрэс.
Ляглі навекі нашы абаронцы,
А вольны дух іх ува мне ўваскрэс.



Хай супакоіцца хітрэц замежны,
Хай прагнасць утаймоўвае сваю.
За любы край мой незалежны,
Як і дзяды, адважна пастаю!

Пад сонцам ярка расквітнела лета.
Шчабеча верабей, пчала гудзе.
Прыгожы лебедзь, балерун балета,
Па возеры свой карагод вядзе.

* * *

Хай кардыяграму, энцэфалаграму
Не ўсе прачытаюць – загадкавы ліст,
А хто прачытае маю душаграму?
Дзе той чуйна-ўважлівы спецыяліст?

Ажыў асцылограф: праменем ківае,
І сонечны зайчык трымціць і бяжыць,
І побач на стужцы пяро ажывае –
Да цішы, спакою душа не ляжыць.

Яна – то пяючай, нацягнутай гумкай,
То – грозна напружанаю цецівой,
То раптам зліваецца з любаю ў думках,
То ў вершах і песнях – з матуляй сівой,

То ў шчасці смяецца, то падае ў драму,
А то замірае ад рэха вайны...
Дае асцылограф маю душаграму
І лепш, чым замежны дэтэктар маны.



* * *

**Р**адзіма, ты бацькаўшчына мне і маці,
**А**дзіная, любая і неўміручая.
**Д**удахкае сэрца, і ў гэтым набаце
**З**ноў думка аб лёсавай прыйшласці мучае.
**І**мчыцца жыццё, а я ўжо на расстанні.
**М**інуўшчына ўсмоктвае сквапна сучаснае,
**А**дно пакідаючы згадкі, пытанні.
**Л**агодзячы думы, часамі няясныя,
**Ю**родзівыя напаўзаюць аднекуль,
**Б**адзёра банкруцтва, развал наракаючы.
**А** ты не здавайся напору і здзеку,
**Я**днай нас упарта, свой гонар трымаючы.
**М**ужайся, Радзіма! Не дай сябе дзерці
**А**блудам на часткі ў журбе-паняверцы.
**Я** духам з табой буду нават па смерці!

* * *

Сена скошана ў пракосы
Акуратна, рад у рад,
А праменьчык лёгкі, босы
Збег таропка ў далягляд.

Забурлілі ў небе хмары!
Пыл – віхурай, па крывой!
Хлешча колкі дождж па твары,
Хлешча, быццам крапівой.

Сонейка, расплюшчы вока!
Не, захуталася ў цень.
А вакол так мокра! Мокра!
За струменьчыкам – струмень!

Раптам град – густой шрапнеллю
Па валках, што – рад у рад,
Бы па змоглых, у шынелях,
Леглых ланцугах салдат...

Сонца! Нельга ўжо марудзіць!
Выкінь пераможны сцяг!
Надта просяць луг і людзі...
Праца будзе мець працяг!

* * *

Дождж уцёк, мільгнулі пяты,
Толькі ручаёк цурчыць?
У мяне настрой – напяты!
Аж пяе! Амаль крычыць!

І вятрыска ў тым жа рытме
Шэпча ў цішыні нямой:
“Вечна жыцьме! Вечна жыцьме
Любы край, радзімы мой!”

Да жыцця любоў і смагу
Мае вецер-дабравей.
Перад ім дае прысягу
Вольналюбы салавей



І ў гулліва-лёгкім рытме
Песні звонкія пяе:
“Край мой светлы жыцьме, жыцьме,
Як і песенькі мае”.

Устае палеглы колас,
Узнялася канюшына –
Заспявалі ў поўны голас,
Гэтак велічна і чынна!

Песня – у вясёлым рытме:
Хутка будзе абмалот.
Край наш любы жыцьме, жыцьме,
Раз так рупіцца народ!

* * *

Травы пахкія ў пракосе –
Клопат асаблівы мой.
Мілы кося, любы кося,
Сыты будзеш і зімой.

А яшчэ пакос асенні!
Не благі дастаўся клін.
Будзе сена! Будзе ў сене
Казытлівы пах далін.

А калі самоту ў стойле
Не суцешаць і харчы –
Вылятай, скакун, у поле,
Жыццерадасны скачы!



І друкуй па снежным пуху,
Што бялюткай коўдрай лёг.
Мо абгоніш завіруху,
Праімчаўшыся праз лог.

Можа, грыўка лёгкай пасмай
Хмарку нізкую кране...
Ой, ляці, ляці, “Пегас” мой,
Па радзімай старане!..

Гэта потым, любы кося,
А пакуль касой пішу.
Закілзаў цябе двухкоссем,
Скончу верш і адпушчу.

## КУПАЛА

### (КУПАЛЛЕ)

06 07

Сёння з любай рана ўсталі,
Бо натхніць хацеў яе
Тым, як грае на Купалле
Сонейка, калі ўстае:

“Мілая, на шчасце шанцы
Сонца б нам дарыць магло,
Толькі ўгледзь пратуберанцы
Праз абдымленае шкло.



Сам глядзеў і ясна бачыў
Хвалі золата ў агні,
І ўсплывалі там, няйначай,
Дыяменты з глыбіні.

Пералівы сонца гралі
Ў покрыве шкляной смугі.
Вось бы той вянок з караляў
Даў мне Божа дарагі!

Венчык, сонцам азароны,
Я табе прынёс бы ў дар,
Каб зіхоткаю каронай
Асвятліць удумны твар…"

Дзень пачаўся так нязвыкла!
Любай пекнасць прыдае!
Грае сонейка-музыка
Ў небе і ў вачах яе.

* * *

Летняе сонцастаянне –
Знак для нядзейсненай долі.
Сённячы з самага рання
Песні ўпрыгожылі поле.

Дзеўкі, жанчыны спявалі,
Гуртам у неба прасілі,
Каб зёлкі ўсе, што збіралі,
Даліся ў лекавай сіле;



Каб сонцакветы, валошкі,
Каб казяльцы, валер’яны
Бедных падлечвалі трошкі;
Каб ім загойвалі раны.

Зёлкі кладуць пад парогі,
А пад вароты – асіну,
Каб ведзьмяры ад знямогі
Страцілі чорную сілу.

А на акенцы ад чараў
Кінуць крапіўную жычку,
Каб абміналі пачвары
І мужыка, і мужычку.

* * *

Купалле! Купалле! Купалле!
Акрыленых сэрцаў узлёт!
Узнёсла ў святочным запале
Гудзе клапатлівы народ.

Дух вогнішча – гэткі вітальны! –
Усіх асвятляе і ўсё.
Ляціць у агонь ачышчальны
Аджылае – хлам і рыззё.

А полымя неба лагодзіць,
Шле яскі свае ў вышыню.
Адтуль душы продкаў сыходзяць,
Збіраюцца ў гурт ля агню.



Касцёр языкамі ляпеча,
Гарэзлівы, быццам дзіця.
Вакол яго – душы ў сустрэчы,
Вакол – абнаўленне жыцця.

* * *

Агні і вянкі ўжо на рэчцы.
Між імі – нябачная ніць.
Анёлы хвалююцца ў спрэчцы:
Каго трэба першым жаніць?

Вітаю купальскія гульні!
Агеньчык пусціў на ваду.
І я ў сумятні, у агульнай,
Мо папараць кветку знайду.

Вядома ж, такой не бывае,
Ды сёння не ў тым інтарэс.
Зазоўка* цішком зазывае
Мяне за сунічкамі ў лес.

Не зманьвай мяне ты, Зазоўка,
Я не паважаю блудніц.
Глядзі: са мной побач сяброўка.
Я з ёй назбіраю суніц.

*Зазоўка – міфічная прыгажуня лесу.



* * *

Сучкі ў пацёмках вока выцялі –
Жартуе ўзлесак верасовы.
І раптам – гучнагаварыцелі!
О Божа! Аблажылі совы!
А я – з чупрынаю мышынаю...
І тут – за шыю хтось кіпцюрны!
Сава?! Ці схоплены шыпшынаю?
Бо ўсё ж кіпцюр мініяцюрны.
Зарагатаў ад страху, з роспачы.
Галінкі колкія адсоўваў...
Во! Спускаецца пяро з начы –
Зазоўку пацягнулі совы!

## ІВАН КУПАЛА

*(ІВАН, ЯН, ЯН КУПАЛЬНЫ, ЯНАЎ ДЗЕНЬ,
ІВАН ЛЕТНІ, ІВАН ВЯЛІКІ, ІВАН ПОСНЫ,
ІВАН ЗЛОСНЫ, ІВАН ВЕДЗЬМІН)*

07 07

Хвіліны шчасця на Купаллі
Ў душу ўлівалі шчодра зоры.
Хай з любай ноч мы і не спалі,
Ды сну не даў і дзень бадзёры.

Учора перайшло ў Сягоння,
І свята ў свята пераходзіць;
Бо сонца ў небе, на адхоне,
Заспаны месячык лагодзіць;



Бо ноч і дзень – у раўнапраўі,
І дуб, і клён, і рознатраўе;
І ў раўнапраўі, бачу, людзі…
Няхай хоць сёння гэта будзе.

* * *

Ля рачулкі ходзіць рэй –
Беларускі карагод.
Пацікавіўся яўрэй:
Чым займаецца народ?

Карагод плыве, цячэ,
Што сярэбраны ручай.
Хлопец халасты яшчэ?
Дык дзяўчыну прыкмячай!

На лужочку ходзіць рэй,
Грэецца ў руцэ рука.
Дзеўчына, схапі, сагрэй
Шустранькага дзівака.

За вітком – яшчэ віток,
Гусак-беларусак цуг.
Па руках – электраток.
І замкнуўся ўраз ланцуг.

Пасярод яго – яўрэй:
Увапхнулі назнарок.
Гэй, красуня, падабрэй
І надзень яму вянок,



Ды бяры на абардаж
Дзеля жарту і забаў,
Бо відаць, што звычай наш
Ён адкрыта ўпадабаў.

* * *

Анжэлікі, Веранікі,
І Анфісы, і Марылі
Паскідалі чаравікі
Ды – у польку, у кадрылі!

Дзяўчаты так заўзята пелі
То паасобку, а то хорам!
Туман вільготны,
празрыста-белы
Ў замглёны вечар
здаваўся морам.

Карагод гудзеў на лузе.
Мо стаміўся? Анікольк!
Крышачку яго я звузіў,
Вытанцоўваючы польку.

Імкнуўся спадабацца Ані
На зайздрасць, можа, некаторым.
З ёй разам зніклі
ў густым тумане,
Які далёка
расплыўся морам.



Быццам залатыя рыбкі,
Плавалі мы ў дымцы прэснай,
І дарма гармонік сіпкі
Клікаў нас далёкай песняй.

Нарэшце тухнуць адгалоскі
Ў начной асмужанай прасторы.
Сябры, напэўна,
ужо ля вёскі…
А мы з Анютай –
у тым жа моры…

* * *

О вецер! Замры! Не вагай
Сукі, і ствалы, і карэнні!
Няхай супакоіцца гай,
Найлепшае ў свеце стварэнне.

Шуміць дрэвастойнае селішча,
Трывогі на розным узроўні:
Ад елачкі дробнай да елішчы,
Што макаўкай піша па поўні.

Турботы разгалістых дрэў
Такія ж, як сёння людскія:
Хто ўзносіцца, хто закарэў,
А хто падпіраецца кіем.

Цясноты не менш, чым у горадзе.
Ільготнікаў гэтулькі ж – трэць.



І столькі ж зялёнае моладзі,
І тых, хто не хоча старэць.

Квітнейце ж сабе, гарады,
Без гаю, з гайнёй чалавечай,
А я ля лясной грамады
Распраўлю і грудзі, і плечы.

* * *

Ззянне заранку так ночку напудзіла!
Так раскудлаціла хмарную зграю,
Што аўцахмары і воблачкі-пудзелі
Моўчкі памчаліся да небакраю!

Промнямі сонная вуліца ўспората,
І паплылі чалавечкі, што зерне.
Колькі ж сабралася ў сховішчах горада
Гэтых істот не благіх, ды мізэрных?!

Вуліцы-рэкі – прамымі палосамі.
На плыні часу застылі будынкі
Дзе роўным цугам, а дзе і таросамі.
Там і каханне, там і паядынкі…

Каб у багацці жыць, – трэба ліцэнзія.
Горад не ўсім яе дасць, а – канкрэтна.
Шчасця па Цэльсію дасць і па цэзію –
І спажывайце яго непрыкметна.



Сонца, сагрэй нас, крыху папячы,
Душы ачысці ад хлюпы ўчарашняй!
Горад заззяў і – ніякае роспачы.
Працалюбівы вялікі мурашнік…

## ПЯТРОЎ ДЗЕНЬ

*(ПЯТРО І ПАВЕЛ,*
*ПЯТРО)*

12 07

Адно што быў Іван Купала –
Іван Вялікі, Летні, Посны,
А сёння дзень Пятра і Паўла,
Таксама ганарова-ўзнёслы!

Звініць і грае аж калоссе,
І гладзіць бараду Пятро:
Як добра жыта налілося!
Зярнятка – цвёрдае ядро!

Хто на работу, хто на гулі,
Бо ўсё-ткі імянінны дзень.
Шанцуе ўсім, ды не зязюлі…
Зляцела пасвіцца ў ячмень

І захапілася заняткам:
Забава – лепш усіх забаў,
Ды… падавілася зярняткам,
І голас назусім прапаў.



А хто ж мае гады падліча,
А хто пра долю намякне?
Пятро ўсміхнуўся і аблічча
Схаваў у жыце. Смешна мне.

* * *

Разарвала ўспышка ночку,
Знікла ў дажджавой кудзелі.
Рвецца хмарная сарочка,
Аж рабрыны загудзелі.

Узляцець бы ў гушчу буры!
Асвяці шлях, бліскавіца!
Зубы сцяў, пагляд прыжмурыў:
За маланку б ухапіцца!

Заарканю ёю чорта
Ў завірусе хмарнай гонкі.
Закручу ў пятлі намёртва
Пудзіла маёй старонкі.

І спіхну з нябеснай стромы
На ўстрывожаныя далі…
Пырснулі са смеху громы,
Беглі прэч і рагаталі.

Гэй, Пярун! Куды? У прочкі?
Зіркнуў зноў бяльмом чырвоным…
Сэрца – вогненным камочкам
І гудзе шалёным звонам.



А ручай – збор каламуці –
Хоць і быў агнём крануты,
Хоць і страшыў бляскам ртуці, –
Нікаму не нёс атруты.

* * *

Жаўручок адспяваў і заціх.
Потым драч надарваў свае звязкі.
Мо сустрэлі каханак сваіх
І ў траве вар'яцеюць ад ласкі?

Ты прыбегла з бяссоннай начы,
Ты – праменьчык мой светлавалосы.
Цалавалі цябе касачы,
На нагах вунь – палосы-засосы.

Затрымаю цябе, спаланю,
Мая мроя, мая асалода.
Ад пачуццяў маіх, ад агню
І раса знікне, і прахалода.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Басанож прыляцела наўскач,
Бы аблочна-заранкавы мяч,
Бы клубок непачатых удач.
Дык не охкай, не ахкай, не плач,
Што сцяў ножкі твае, бы касач.
Я ж цалунчык твой, а не кусач.
Вусны ў вусны... Прабач, што вусач.



Хай палашчыць мой вус-казытач:
Ён ратуе ад розных няўдач –
Я ж твой лекар, твой выбраны ўрач...
   Слоў – паток, сэрца, як малаток.
Думак – зблытаны, збіты маток.
За гарачнасць і жарты прабач...
І заўваж: я – жаўрук, а не драч.

* * *

Прысніў: іду паветранай хадой,
Зусім не адчуваючы зямелькі;
І раптам з кудзеркаю залатой
З акенца як бы ты зірнула мелькам.

Зашапацеў і зашаптаў мне бэз,
Міргнуў з усмешкай спачувальна-горкай,
Каб я рашыўся і ў акно палез,
Бо нездарма адчыненыя створкі.

І ты руку нібыта падаеш,
Як быццам бы нязграбнаму ласёнку...
Я ў хаце ўжо, але дзе ж ты? Ну дзе ж?
Цап-лап і не найду... спрасонку.

Напэўна цяжка спаў я на баку
Ля бэза, наваліўшыся на сэрца.
Шчаслівы сон прысніў на кулаку,
Ды не чакаў, што раптам абарвецца.



* * *

То роўны строй,
То думак рой,
То спатыкаецца настрой,
А то ўзнялі душу лятункі…
Яны – у свет,
І я – услед,
У край трыумфаў альбо бед,
Дзе новыя ў жыцці стасункі.
Што ж, лёс такі,
Такі-сякі,
Адно крыло замест рукі,
Ды так адчайна ім махаю!
Рукой другой,
Яшчэ тугой,
То рэдкім стрэлам, то чаргой,
То кулаком перамагаю
Свае няшчасці, бо… кахаю.

* * *

Узлятаў суадносна хаценням
І зрываўся міжвольна ў абрыў.
На аскепках сваіх летуценняў
Рэчку вірную ўсё ж пераплыў.

Майстраваў неўзмацнелай рукою,
То карпеў, то насіўся наўскач…
І нарэшце – бывае ж такое! –
Поспех мой збудаваўся з няўдач.

Але зноў – пажаданні, хаценні…
То змяніў бы жытло, то аўто.
Відавочна, што без летуценняў
Існаванне было б… абы што.

* * *

Можа, жыць каму і нудна,
Мо, падаўся хто ў тугу,
Я ж такога абсалютна
Не хачу і не магу.

Бо наўкол – зямля жывая.
Колькі ясных, звонкіх раніц?
Кліча кожная, ззывае
Ўсіх на сонечны свой танец.

Сэрца стукае ў рабрыны:
Чую лёгкі перазвон.
Грае для цябе, жанчына,
Рэбравы мой ксілафон.

Бо ты ў нас – душа сябрыны,
Залатая кветка лета,
Быццам прыма-балерына
З лебядзінага балета.

Дык жыві, цвіці, валодай
І далей красой сваёй,
Будзь агульнай асалодай,
Але больш за ўсё – маёй.



І табе хай, сінявокай,
Будзе ўсё жыццё да ладу.
А пакуль усіх навокал
Прыгажосцю шчодра радуй!

* * *

Спёка топіць і п'яніць.
Туфель выдыхнуў пылінкі.
Думкі цягнуцца, як ніць
Наляцелай павуцінкі.

У траве – і звон, і строкат,
Кісларод жывы і чары.
Хочацца зваліцца ўпокат
Прама тут жа, на бульвары.

Раптам бачу: вальс віхурны –
Ветрык выдаў танец сольны
І заціх затым ля вурны,
Астываючы павольна.

Але пыльны асяродак
Склаў у вурну. Во сумленне!
Мабыць гэта лепшы сродак
Быў для самавыяўлення.



* * *

Бела-чорная сарока,
Бела-чорная бяроза –
Адзін і той жа выгляд, міміка!
Здагадаўся я імгненна,
Што стандартныя ў іх гены –
Са скарбу небнага алхіміка.

## ІЛЛЯ

*(ІЛЛЯ,*
*ГАЛЛЯШ)*

02 08

А сёння Ілля, Галляш.
Яшчэ з начы замарасіла.
Вітаю, абаронца наш
Ад ведзьмаў і нячыстай сілы!

Дык апякай жа земляроба
Ад ціску долі і ад зла.
І каб ніякая хвароба
Яго да смерці не ўзяла.

Даўно знаёмы ўсім Ілля,
Стары бажок-пенсіянер,
Ды ўсё жартуе і з галля
Кідае кроплі за каўнер.



Я не люблю такія святы,
Дзе шмат абложнага дажджу:
Баюся за ўраджай багаты,
Зярняткам кожным даражу.

* * *

Думкі між сабою раяцца,
Нават спрэчкі разгараюцца;
І памкненні разумовыя
Скачуць на вяршыні новыя,
Ды зніжае зноў іх здобная
Зацікаўленасць вантробная.
Вось чаму арыгінальнасці
Ў жнівеньскім дажджы мне не знайсці.

* * *

За ракой – туман. І сонца
Ў моры млечным ледзь не згасла:
Плавае, нібы ў маслёнцы
Збітая камлыга масла.

Збоку – залатая ніва,
Падалася скрылем жытнім;
Лёг праменьчык і ляніва
Мажа маслам апетытным.

Невыказнай асалодай
Цешуся ўраджайным летам,

Зліўшыся ў адно з прыродай…
І паэзія – у гэтым!

* * *

Сяброўчка, туман калматы
Паўсюль пасцельку сцеле з ваты,
А можа – лебядзіны пух.
Трава ў тумане і карэнні,
А можа – і твае калені,
І ўжо вышэй імкнецца зух…

Але ж чаго трымцець жанчыне?
Ён дзверы ў хату не адчыніць,
Тым болей, я вось-вось прыйду.
Каб над табой не віс ён крукам,
Я наматаў ужо на рукі
Яго сівую бараду.

* * *

Ты зоркай нязгаслай,
Агністай і яснай –
Адна на маім небасхіле!
І ў шчасці, і ў скрусе
Гляджу і малюся
На вобраз ласкавы і мілы.

Свяціся ж так вечна
І ў край зорна-млечны

Пакажаш і мне мо дарогу,
Бо ты, як здаецца, –
У зорным суквецці,
Людзям да спадобы і Богу.

На свеце, на волі
Жанчынак даволі,
Ды гэткай, як ты – аніводнай.
Дык будзь жа, дарэчы,
Хаця б у сінечы
Ты зоркай маёй пуцяводнай.

* * *

Не лёгка ўзняцца да тваёй галактыкі,
Бо хоць і ўрач, ды без анёльскай практыкі
(Тут ні пры чым любая катэгорыя),
А прад жыццём – адказнасці двайныя.
І хоць не млеў, не чах ні ў якім горы я,
Ды ад сумневу сэрца часам ные.

## МАКАВЕЙ

*(ПЕРШЫ СПАС,*
*СПАС МЯДОВІК,*
*МЕДЗЯНЫ СПАС)*

14 08

Свята маку! Свята мёду!
Нельга смаку ў асалоду
Больш дадаць нікому з нас,

Як для нашае карысці
Гэта вырабляў калісьці
Макавей ці Першы Спас.

Ды шкада, што сёння з маку
Не магу адчуць я смаку –
Макавей аддаў карону.
Як жа мак цяпер пасеяць,
Як расціць яго і веяць,
Абышоўшы забарону?

Мо яго ў суседа купіш?
Хіба толькі з макам кукіш...
Макавінку б хоць з ахвоты!..
Ад уявы аж нямею!
Як шкада, што Макавею
Перакрылі шлях наркоты!

А затое мёд салодкі!
Ем і ем яго з ахвоткі!
Ліпавы ёсць і грачнёвы,
Лугавы і рапсавы –
Зараз болей масавы –
І не кепскі, хоць і новы.

* * *

Першы Спас і тым вядомы,
Што чысцеюць вадаёмы,
І становіцца вадзіца
Абнаўляльнаю, святою,



І ахвота хваляй тою
Кожнаму амаладзіцца.

І таму свой нораў сцішым
І адправімся пад крыжам
Да вады, да першаспаскай –
Хай нам будзе ачышчэнне,
І паўторнае хрышчэнне
Душы нам напоўніць ласкай.

Я чытаў – дый сам прыкмеціў, –
Што жыццё на белым свеце
Іменна вада радзіла.
А зямля, што гранд-арэна,
І вада на ёй нязменна –
Творчая жывая сіла.

* * *

Давайце ж мудрасць продкаў зберажом:
Калі адорыць Макавей дажджом –
Імжа, залева, хай любы, –
То хутка пойдуць раннія грыбы.

* * *

І вось мы з любаю пад елкамі,
І пад асінамі, і вязамі,
Ды павуціначкі кудзелькамі
Мне ногі неўпрыкмет пазвязвалі,



Каб не раскідваўся пачуццямі,
Каб кіраваў сваімі крокамі,
Хоць елкі думкі ўскаламуцілі,
І сэрца неўгамонна ёкае.

А мілка то махне касічкаю,
То лёгкай летняю адзежкаю.
Я думаў: цешуся лісічкаю,
А спакусіўся сыраежкаю,

Зусім не яркай – простай, шызаю,
Але непрадказальна смачнаю.
Лізнуў… і вусны аж аблізваю
З усмешкай цёплаю, удзячнаю.

* * *

Не заўсёды мары-думкі
Пераходзяць у падзею.
Толькі ж, мілыя лятункі,
Я ад вас аж маладзею.

Вы, мае першапраходцы
Па зямлі, вадзе і ў небе,
Усплывалі ў думцы-лодцы
На жыццёвы пенны грэбень

І цягнулі баразённа
Па палях зямныя хвалі.
Засяваў я іх штодзённа,
Сеяў сам сябе ў запале.



Сам сябе? Мо так нягожа?
Лепш сказаць: “Душу я сеяў...”
Жнівень. Каласіцца збожжа.
Мара перайшла ў падзею.

* * *

Бяссонніцы, бы на харчы,
Аддаў развагі, летуценні.
Заснуць бы, але ўжо з начы
Апошнія пабеглі цені.

І ўслед уцёк вільготны змрок.
Замест яго спусціўся золак
З усходніх срэбраных аблок,
Спярша абмацаўшы прыгорак.

І не адзін ідзе – я рад! –
А з раніцай ружовашчокай.
Санліва-мілы іх пагляд
Здзівіў пяшчотнай павалокай.

Жыццю гармонію нясе
Праменьчык з бездані нябеснай,
Трымціць, ярчэе пакрысе
І робіцца бязгучнай песняй.

Узмах павек – узмах крыла.
Насустрач – ветрык і праменні...
Ах, раніца, ты дзе была?
“Прабач, паэт, было зацьменне”.



# ЯБЛЫЧНЫ СПАС

*(СПАС,*
*ДРУГІ СПАС,*
*ВЯЛІКІ СПАС,*
*ІСПАС)*

19 08

Успомніў я здарэнне з Еваю.
Такой зычліваю была!
Прынесла садавіну спелую,
Свайму каханаму дала.

Учынак ветлівы, узвышаны,
Але мужчына ледзь не згас,
Бо яблык быў шчэ не ахрышчаны,
Бо быў яшчэ далёка Спас.

Эх, яблыкі! Эх, дзіва-яблыкі!
Прыйшлі ў сады к нам праз вякі.
А ў іх прытойваюцца д'яблікі,
Хоць і завуцца "чарвякі".

Калісь былі плады стракатымі
І з дзіркамі, нібы ад куль.
Чарвей пабілі хімікатамі,
А я жыву! Жыву пакуль!

І ад нішчымніцы не згас.
Таму ўраджай садовы радуе
І Яблычны, Вялікі Спас,
Бо па жыцці іду да ладу я.



* * *

Яшчэ прыпомнілася Спасам,
Як некалі, даўнейшым часам,
У небным закутку зацішным
Сум авалодаў Усявышнім:

Шкада зрабілася Адама,
Які з маркоты высах прама,
Бо ўноч і ў сонечнай ясноце
Нялёгка жыць у адзіноце.

Адолеў Бога добры одум.
А ён жа здольнасцю валодаў,
І ў хлопца доля больш прыгожай
Раптоўна стала з волі Божай.

Зірнуў Адам, а там… з-за дрэва
Глядзіць аголеная Ева!
Выдатнейшы імпэт быў Боскі!
Яго жывыя адгалоскі

Пасля ў мастацкім асяроддзі
Жылі ўжо, як даніна модзе.
Глядзім на Маху – хвалім Гою,
Што ўклаў раздзетаю (нагою)...

І скульптары – о, свет усмешак! –
Далі венерам свой дамешак,
А напрыдумвалі аж досыць!
Жанчыны з гонарам іх носяць.

А я, на жаль, не мерыў німбы.
Але прызнаюся: якім бы
Не быў мне выбар капялюшаў –
Красы б жаночай не парушыў.

Красуню пешчу і мілую,
Няма, дык вобразна малюю
І зіркам, і крывёй, і лімфай,
Алоўкам, пэнзлікам і рыфмай,

Нібыта голую зару…
І тую, што я сам ствару,
Мацней за ўсіх багатвару!

## АПОВЕД МОЙ ГУЧАЎ БЫ СУХА, КАЛІ Б НЕ НАША БЫТАВУХА

Крычаць азартна на базары
Азербайджанцы і татары.
Між іх кручуся, як вавёрка,
І раптам – родная гаворка!

З машын пачуўся крык цацаркі,
Рыпіць паўлін страката-яркі,
Пасвіствае чырвонапёрка,
І во – сялянская гаворка!

Сядзяць мужчыны з куфлем піва,
Настрой – прыўзняты і гуллівы:
Піўко заводзіць і махорка,
А болей – мілая гаворка.



Настаўнік так старанна окаў
Штодзённа і ўсе пяць урокаў…
Ды раптам хтосьці якнуў горка.
Няўжо тутэйшая гаворка?

Пяюць і лепш, чым канарэйкі,
То англічанкі, то яўрэйкі.
О, цуд! Між песенек з Нью-Ёрку
Пачуў матуліну гаворку.

Хтось цісне моўчкі іншаземку:
Француженку ці, можа, немку,
Але ж апушчаная шторка…
І раптам – братава гаворка!

Гляджу TV свой з надвячорка –
Зноў запусцілі трылер свежы.
А там – то гвалт, а то разборка,
Ды абражальная гаворка.
Чаго ім не стае ў замежжы?
Ці долараў, ці проста ежы?..

А ў нас – паўнюткая каморка,
Яшчэ і за мяжу вязецца.
І толькі родная гаворка,
Як скарб, удома застаецца.

* * *

Усё яшчэ імкнуць ка мне амуры.
Як супыніць іх дружную кагорту?



Хіба што ўзяць урокі фізкультуры,
Альбо – бяру вышэй! – урокі спорту?
Бо людзі простыя, зусім не лорды –
А гэткае ў жыцці не нова! –
У розных сферах ставілі рэкорды…
Займуся трэніроўкай тэрмінова!
Цуд гэткі ці стваралі ў нас калі так?
Шмат мар было, а хто мог стаць гарантам,
Што будзе ў горадзе такі набытак?
Палац лядовы зіхаціць брыльянтам!
І вось, узяўшы ёмкую кульбаку,
Якою часам адганяў сабаку,
Якая б клюшкай стала пры нагодзе,
Я апынуўся з дзеткамі на лёдзе.
Адно ступіў – успамінаю ў жалі –
Здранцвелі ногі ўраз і задрыжалі;
І я ўзляцеў – як не шанцуе хіжым! –
І гэтак грохнуўся касцістым крыжам!
Адчуў, як гучна хруснула касцяшка…
Як потым падымаўся з лёду цяжка!
На кульбачку ледзь-ледзь апёрся ў жаху
І… раптам тварам зноў аб лёд як жахну!
Чаму мне сёння столькі давялося?
Знямела і заказытала ў носе,
І… палілася цёпленькая юшка.
Эх, ненадзейная кульбака-клюшка!
Збянтэжаны, з грымасаю на твары –
Няшчасная ахвяра дзвюх аварый –
Рашыў я канчаткова: “Досыць! Годзе
Эксперыменты мне рабіць на лёдзе!”
Юнацкія забавы трэба кінуць,



Бо можна і наогул тут загінуць.
Убачыўшы мяне, замерлі ўдовы:
Да ўсіх аварый – шчэ палац лядовы!
Так, так, не для мяне такія гульбы...
Мне больш цікава з неразлучнай кульбай
Туляцца нетаропка па прыродзе
Ў настроі радасным і ў асалодзе.
А шайба, клюшка, бег і развароты
Прызначаны найболей для блазноты.
Няхай на лёдзе весяляцца дзеткі,
Ганяюць шайбу смела хай і ўмела,
Бо, відавочна, ім палац вось гэткі –
І рух, і радасць для душы і цела.

* * *

А мне так трэба на спатканне!
Дык ты ж, каханая, чакай!
Адно не трэба наракання...
Шыбую полем і праз гай.

Бывае ж у жыцці такое!
Спазняюся... Дык ты прабач.
Бягу з пашкоджанай нагою,
І, сапраўды, бягу наўскач.

Ці ўявіш, любая сяброўка,
Што сёння ўвесь мой доўгі шлях –
Амаль музычная вандроўка:
Што крок, то – ох! Што два, то – ах!

Паўзу то бітай, кволай клячай,
А то сягаю, што скакун,
Па клавішах душы гарачай,
Па кладачках нярвовых струн.

Бо лета – проста фартэп’яна
Натхняючых музычных дзіў.
Яго акорд салодка-п’яны
І боль нагі падсаладзіў.

Дык уяві сабе, сяброўка,
Што ўвесь мой гулкі, хісткі шлях –
Амаль музычная вандроўка:
Што крок, то – ох! Што два, то – ах!

Заслухаліся кветкі ў полі,
Як я ўмаляю з болем Бога,
Каб ты, сябровачка, ніколі
Не мела выпадку такога.

* * *

Што там пад хмарай, у імгле?
Дык гэта ж птушка ў небе рдзее:
Ні сіл у раненым крыле,
Ні пруткасці – адна надзея.

Калісь лятала між маланак…
А стрэл так б’е, хоць і не слепіць!
Але ляціць, ляціць падранак:
Да любае імкнецца лебедзь!



Кулік у багне, за смугой,
Кульгае… Кроў аж халадзее.
Адна апора, а другой
У бедака – пакуль надзея.

Чаму такі пунцовы ранак?
Хто раны небныя вярэдзіць?
Спяшаецца кулік-падранак…
Спяшаецца да любай лебедзь.

І я – праз ельнік і лазу…
Здаецца, хмыз ужо радзее.
Як не дайду, то дапаўзу,
Бо любая – мая надзея.

І можа запаветны ганак
Пераадолею як-небудзь.
А не – тады крывёю з ранак
Пакіну надпіс: “Быў твой лебедзь”.

* * *

Яшчэ здаўна паэты Ўсходу
Ўлівалі ў вершы асалоду.
А я ж, вядома, не такі,
Як быў Хафіз ці Рудакі.

Але ў іх думку запазычу,
Бо, любая, табе я зычу,
Каб з яркай зорачкай калье
Насіла ты ўначы, але



Зеніт закрыўся хмарнай шторкай,
І ты сваёй не бачыш зоркі,
Стаіш у цемры і ў журбе…
А я што значу для цябе?

Табе ісці, ісці далёка,
Але не зробіш нат і крока,
Бо цемра шчыльная вакол,
А ў цемры – камяністы дол.

Аднак не бойся цёмнай ночы:
“Свае параскідаю вочы”
Я, прад табою бегучы,
Каб сцежку бачыла ўначы.

Як друз прыпыніць вострабокі, –
Таропка ўсмешлівыя шчокі
Я прад табою рассцялю,
Накрыўшы колкую зямлю.

А стрэнеш ты прасцяг балотны,
Я гаць табе змашчу ахвотна
І, каб абцасік твой не груз,
Сам рассцялюся, бы абрус.

Ідзі па мне спакойна, смела,
Пакуль заранка не зардзела.
Хоць я не зорачка з нябёс,
Ды сам цябе да зоркі ўзнёс.



* * *

Які бадзёры, дзіўны
Ў мяне настрой у жніўні!
Другога й быць не можа,
Бо ўжо паспела збожжа.

Расло яно пад засухай
І пад віхурным ветрам.
Таму насіў за пазухай
Няўпэўненасць я летам.

І ўсё-такі калоссе,
Як трэба налілося:
Асцісты чуб узняты,
Надзьмутыя зярняты.

Сцяблінкі – ніткі золата
Ці сонечныя промні.
Ідуць камбайны-волаты
Ў напружанні нястомным.

Гляджу на колас жытні:
Які ж ён старажытны!
О, жыта! Жыць! Два словы,
А сэнс адзін – жыццёвы.

У злаку моц затоена.
І наліўное зерне
Ўсім стомленым падвоена
І дух, і сілу верне.



Ліецца зерне ў кузаў.
А вецер аж патузаў
За хмарку: “Дзе твой лівень?
Бо вельмі ж рупны жнівень”.

* * *

Ускраек вёсачкі Хацежына…
Дык вось ён, сілуэт сядзібы!
Усё дыхтоўна і дагледжана,
Без недарэчнасцяў і хібаў.

Штыкетнік шэры за шыпшынаю,
За ім і хата выглядае.
Дварняк панёсся за машынаю,
Ажно ўзлятае поўсць рудая.

І пеўнік, збэшчаны амурамі,
Адскочыў прэч з адкрытым ротам,
Услед за спуджанымі курамі
Пабег к расчыненым варотам.

Цялятка на вяроўцы мыкае.
А вунь і ён, мой любы дзядзька!
Насустрач тупае з матыкаю,
Ідзе дваюрадны мой бацька.

Ён з дрэва моцнага, караньскага –
Старэйшая яго галіна.
І пыха, бачу, не дваранская,
А – сталы гонар селяніна.



Ідзе-плыве хадой няшпаркаю,
Жыццём-быццём яшчэ не змяты,
Зачараваны гаспадаркаю,
Хаця і – восемдзесят пяты.

Такі ж і сад яго з дзівосамі:
Расліны мо з усёй планеты.
Сябруе дуля з абрыкосамі,
А ружа дрэмле пад ранетам.

Дзіўлюся дзядзькаваму звычаю:
Наколькі доляй авалодаў!
І ў райскім садзе, я разлічваю,
Ён будзе добрым садаводам.

* * *

Дзірван – дыван, зыбучы ў меру.
Здзіўляюць колерамі краскі.
А там, за грывамі аеру –
Затока і карункі з раскі.

Хтось у чароце міла кракаў,
І шорхат чуўся ў лісцях шэрых.
Хлапчук лавіў рукамі ракаў,
Цішком абмацваючы бераг.

Шмыгнула ў сполаху маляўка,
Расплюшчыў кветачку гарлачык.
Спусціўшы ногі, хваляй мляўкай
Ракіта мыла кожны пальчык.



Ніжэй – шчупак, і не лядашчы,
Залёг на дне і затаіўся.
Закрыў замок-маланку ў пашчы,
Каб і чарвяк не зачапіўся.

Глядзіць рыбак, прышчурыў вока,
Глядзіць, маўчання не парушыў;
А думкі рыбіны – высока:
Ля чалавечых ног, на сушы;

Бо для яе ён – не афішны,
Калі ўмясціўся ў міжаблочча.
Бо для яе ён – Усявышні,
Што можа ўсё, калі захоча.

Наверсе, там – свае законы,
Там кожны хітры і здаровы.
Вунь у ваду заходзяць коні,
І цэдзяць прэсную каровы.

Дык во ў іх морды! Во ў іх губы!
І добра, што ўсё там, наверсе.
А каб… Эх, давялі б да згубы!
Шчупак, на ўцёкі хоць не мерся.

А ён адчуў чужую сілу
І, плачучы, кляў лёс бядачы,
Хаця ў вадзе на фоне ілу
Рыбак чамусь тых слёз не бачыў.



* * *

Як шкада, што рэчка
Быту не паглыблена.
Бойся чалавечка!
І... баіцца рыбіна;

І жыве ў пакоры.
Эх, не даць бы маху
Ў неспакойным створы
Ўгоднiцтва і страху!

Бо рыбак і храбры
І без жалю ў чэрапе...
Каб не ўзяў за жабры,
Сцяла рот і шчэлепы.

За слязінкай прэснай
Згас пратэст маўклівы...
Мрояцца гарэзнай
Ціхія разлівы.

* * *

Рыбак рыбака, як убачыў, пытае:
– Здарылася, можа, хвароба якая?
Бо з намі чамусьці даўно не рыбачыш.
Прычына мо важкая? Нам невядома.
– Здарылася, так. Але з жонкай. Ты бачыш,
Сказала: “Як хочацца – пі, але ўдома!”
– А я ад піцця адыходжу, жалезна!



Мо ў месяц адзін раз і то ўжо не вельмі...
– І я ад гарэлкі не вельмі залежны:
Адзін дзень на месяц магу без пахмелля, –
І смяецца ўсё гучней
Дзядзька Ваня, дзіўны гэткі,
З пляшачнае этыкеткі
Не адводзячы вачэй.
На адной назе, бы спіць,
Бусел там з чырвоным носам;
Раптам рэзка так патрос ім:
“А вось я пакінуў піць!”

* * *

Меркаваў сябрук – абрыдла! –
Што пры ўдзеле вабнай чаркі
Наш народ прыгожы, яркі,
Ператворыцца... у быдла,

Бо ў адных – ссінелы шнобель,
У другіх – жывот цырозны...
Больш трагізму тут, чым грозны
Натварыў у нас Чарнобыль.

Веру! Стане край цвярозым!
Стань і ты, сябрук мой, гожым.
Мы ўсе беды пераможам,
Як займеем светлы розум.



* * *

– Чаго ж ты, сябра мой, счарнеў?
Чаму з’ядае сум і гнеў?
Наперад іншых ты ж не лез,
Бо грошай у цябе ў абрэз.
– Ды ёсць адзін васпан вядомы,
З ім парӑўнацца, дык мы – гномы!
Таму і адсякае спробы
Мне ўзняцца да яго асобы.
Ва ўзлёце ілюзорным
Ён стаў даўно ўжо “зорным”,
Сабе прымерваў німбы,
І стаць яму такім бы,
Ды захапіўся так! Уга!
Нібы сарваўся з ланцуга!
Не проста крытык, а як леў...
Так наваліўся! Ледзь не з’еў!
Прылашчыць бы яго цяпер,
Але ж такі ў яго ашчэр!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

– Ды не тужы так, супакойся, сябра,
І не звяртай на задаваку ўвагі.
Не зорка ён, а шкельца кандэлябра,
Дый галава – цабэрак пеннай брагі.
Сумлення, браце, не прышчэпіш юду,
І нат электразваркай не прыварыш.
Дык не здзіўляйся вельмі ўжо, як бруду
Табе яшчэ дадасць такі “таварыш”,



Які то поспехам тваім зайздросціць,
То над няўдачамі ажно рагоча,
Які і жылкі ўсе твае, і косці
Ператрасці і пераблытаць хоча.
Адчаяўшыся, ты сябе раздзерці
На часткі ўласнаручна ўжо гатовы.
Не ный, не зачыняй душу. На сэрцы
Не замыкай пакуль замок пудовы.
Хай не баліць замкнёнае, не плача,
Хай набярэцца новага запалу.
А ты павер мне: поспех дый удача
Часцей з'яўляюцца пасля правалу.

* * *

Па дарозе ходзіць важка
Чалавек. На ім – фуражка.
Шыю выцягнуў як можа –
Вывучае раздарожжа;
Шыю цягне, як жырафа:
Хто яшчэ саспеў для штрафа?
Ля мяне аўтааматар
Крые ўслых службоўца матам,
Толькі ціха, асцярожна,
Каб не чуў яснавяльможны.
І смялей ля скрыжавання
Разышоўся дзядзька Ваня:
"Хто цяпер у нас бадзёры? –
Злодзеі і шкурадзёры!
У мяне ўжо тры разы
Правяраў ён тармазы



І ўсе лічбы на маторы, –
Шумны дзядзька тараторыў. –
Гэтакім – ні мараторый,
Ні дэкрэты і ні ўказы –
Вельмі ж хітрыя, заразы!
На сваёй адчуў я скуры:
Іх натхняе смак хаўтуры.
І вунь той, што пры дарозе
Ў надта ганарлівай позе,
Гэтак любіць дый умее
Скуру зняць з любога змея!
Нат змяіны цар Удаў
Ад такога б зарыдаў...
Хай бы шэф які ці бос
Ды кішэні ператрос
Спрытненькаму ў крымінале!
Не! Усе яго міналі.
А хто ж выкарчуе зло?..”
        Тут узнятае жазло
Дзядзька ўбачыў у даіста
І сарваным з дрэва лістам
Пакаціў да пераходу,
Дзе найбольш было народу.
Бачыў я, як даў ён дзёру,
Каб не дацца шкурадзёру.

* * *

Жнівень. Каласкі дрыжаць.
Дзеўка ціха пела:
“Трэба ўжо каханне жаць,

Каб не пераспела.
Дзе ж хлапчына мой? Ну дзе
Камбайнёр бязвусы?
Што марудзіць, не ідзе?
Дзе спыніцца мусіў?”
Не шукай, дзяўчына, тайн,
Кроч у поле шпарка.
Мабыць не дапіў камбайн
Кварты дзве салярки.
Што ж рабіць, калі цяпер
Гэткія маторы?
Вунь хлапцы! Хто ж кавалер?
Трэці ці каторы?
Той? Не той? А іх аж тры?
Быў бы кожны згодзен...
Вочкі, мілая, пратры,
Хто з іх твой?.. Ніводзін?
Хай іх там хоць батальён –
Твой не гэткі геглы.
Вунь камбайн ! А там і ён!
І яна пабегла!

* * *

Чаго спяшацца ў вёску?
Юнак разважны, дбайны
Апошнюю палоску
На полі зжаў камбайнам.
І, як акорд заключны,
Змятае важна ў жменю
З усіх куткоў паштучна



Пярліначкі ячменю.
І стаў маліцца збожжу,
Прыпаўшы на калені.
Яно – жыццё, дар Божы,
Яно – яго натхненне!
Павісне дождж абложны,
І прыляцяць сняжынкі…
Але ў нядзелю можна
Спраўляць ужо дажынкі.
Вясёлым караваем
Адкрыецца застолле.
І дружна заспяваем
Пра залатое поле.
Сноп займе кут пачэсны,
Бы ў генеральскім званні.
Яму – і нашы песні,
І наша шанаванне!

## ПРАЧЫСТАЯ

*(УСПЕННЕ, БАГАРОДЗІЦА,
ВЯЛІКАЯ ПРАЧЫСТАЯ, ГАСПАЖА,
ВЯЛІКАЯ СПАЖА, ЗЯЛЁНАЯ,
ЗЕЛЬНАЯ)*

28 08

На чым карысна засяродзіцца,
Падкажа мне вярба вячыстая.
Сягоння Ўспенне! Багародзіца,
Альбо Вялікая Прачыстая!

А звычай продкаў я захоўваю,
Бо ён даўно з жыццём узгоднены.
Свянчу і “бараду” жытнёвую,
Свянчу і зёлкі, і гародніну.

Управіліся людзі з грэчкаю
І з градкамі, што за дварамі.
Вяскоўцы ў дом зайшлі са свечкаю,
Цалуюцца з гаспадарамі.

Саспелыя палі агалены –
Надвор’е хоць бы што імжыстае.
Вясковец працай задаволены –
Дастаткам радуе Прачыстая.

* * *

Жаўручок у небе трэлі
Булькатлівыя не ўе,
А крынічка з падзямелля
Выбягае і пяе.

Блісне, пырсне пад пагоркам
І ў лагчыну – покатам.
Родная мая гаворка
Чуецца ў вытоку тым.

Дзіўнае рознагалоссе
Ў гарадах, бо столькі моў!
Вывучаць іх давялося,
Толькі цягне ўсё ж дамоў,



Каб убачыць на падворку
Клён з бусліным клёкатам.
Родную маю гаворку
Любяць і высока там.

Грошыкаў раней не мелі,
Ну а зараз крышку е.
Праўда, часам іх з пахмелля
Мы ўяўляем, як УЕ.

– Е руб?
– Ё руб! – надвячоркам
Часта ў вёсцы чуецца.
Родная мая гаворка
Шчэ жыве, красуецца.

* * *

Ты не сядзіш – о сэрцайка! – на месцы.
Ты, як і час, кудысь ідзеш, ідзеш,
Спяшаешся насустрач новай вестцы...
Дык дзе ж яна, таемная? Ну дзе ж?

Ці мо з усходу шлюць Алах і Крышна?
Ці з захаду яе прышле Хрыстос?
Хутчэй, што весткі прынясе нам прышласць
І зноў схавае ўсе ў аджылы стос

Гадоў мінулых і вякоў адмерлых.
А стос той згубіцца ў пластах эпох...



Дык ці знайсці жыцця былога перлы?
Мо сэрцайку майму падкажа Бог?

А час паўсюль ужо раставіў кропкі,
І новыя бярозы пасадзіў.
Што скажуць курганы альбо раскопкі?
Што прапяе нам птушка лёсу Дзіў?

Здзіўляюць паўзабытыя паданні.
Запомні, сэрца, іх і зберажы!
Бо там не толькі казачныя здані,
А і жыцця былога міражы!

* * *

А сэрца, што ў цымбалах малаточак!
Дык грай жа на струне настрою, грай!
Я так люблю свой родны закуточак!
Я так люблю свой ненаглядны край!

І берагу яго, і вечна буду славіць
Усмешкі рэк і кідкі пых ялін,
Бо я ад роду – рупны краязнавец,
Нашчадак неўміраючых былін.

Не раз трапаліся ў дрыгве калошы –
Даведацца імкнуўся ў Нёманца:
Якім жа векам ён з рачулкай Лошай
Пабраўся шлюбам, звёўшы да вянца?



Яшчэ дасюль у нас гамоняць,
Як, затаіўшы падарожны страх,
Адважныя купцы праз Наднямонне
Вярталіся ад грэкаў да вараг.

І я праплыў па гэтай пуцявіне
Да Балтыкі і, шчасны, даў нырца!
Здзівіўся аж прыбой халодна-сіні:
“І трэба ж! Чалавек з-пад Нёманца

З’явіўся, быццам з глыбіні, знянацку!
А дзе ж дакладна гадаваўся? Дзе?”
Не здагадацца Балтыцы, што ў Шацку
І ў старажытным селішчы – Уздзе.

Адтуль бруіцца радавод мой просты,
Дзе Нёман – бацька ўсіх малодшых рэк.
Адтуль – і першы крок мой, і ўсе вёрсты,
А вось душу… пакінуў там навек!

## ХЛЕБНЫ СПАС

(МАЛЫ,
ТРЭЦІ СПАС)

29 08

Над лістотай і над голлем нат
Ночка чэзне пакрысе.
Раніца ідзе заголенай,
Ногі мыючы ў расе.



Мо гульня была ўсяночнай,
Мо гуляла не адна…
Гэтакі туман малочны!
Як не піць ажно да дна?

З комінаў густы і тлусты
Дым скіроўваецца ў лог.
Неўзабаве, як на лусту,
Венджанінай лёгкай лёг.

Водырную, негустую
Дымку сонца хутка з'есць.
Рана снеданне рыхтуюць –
Самы смачны дым у шэсць.

І ніякае аскоміны
Я не ведаў бы ў ядзе…
Міма яблынь, міма комінаў
Раніца ў сяло ідзе.

* * *

Цябе вітаю, Хлебны Спас!
І дзякую, дух нівы, Волас,
Што даў усім зярна ў запас
І што бярог жытнёвы колас.

У песнях і ў вясёлым гудзе –
Апошні дробненькі загон.
Дажынкі дружна ладзяць людзі,
Узводзяць Талаку ў закон.



Яна ў вянку і з пакрывалам.
Апошні сноп вазьмі, народ!
Узяў – і ў поле valіць валам,
І пачынае карагод.

І я таксама ў карагодзе.
Спявай, зямелька! Неба, грай!
Няхай пяе, жыве ў лагодзе
Мой бульбяны, жытнёвы край!

* * *

Ад бохана ўзяць бы акраец.
І нож да яго ўжо прытулены,
А сэрца чамусьці не раіць
І нат замірае расчулена.

Як можна нажом, ды шчэ вострым?!
Бо хлеб такі родны – штосьці кроўнае!
Разрэзаць яго вельмі проста,
Але не рашуся ўсё роўна я.



* * *

Прыцішваючы неўтаймоўны свой нораў,
З’явілася восень у госці:
Лістота, нібы медалі юніёраў, –
Адзнака яе маладосці.

Так лету лагодзіць! То грушы, то слівы,
То ласка, то ўсмешка Венеры…
І позірк сяброўскі, і голас лісьлівы,
А ў думках – другія намеры.

Настольнік парчовы паслала ахвотна
І кліча за стол у прысады.
Рашыла даўно яна безпаваротна
І… лета сапхнула з пасады.

Мяняецца сутнасць, мяняюцца формы.
Адно што нязменна: усіх яна старыць.
Праводзіць расшырана восень рэформы,
Але непадзельна паўсюль уладарыць.

Счарнелі ад гора і дрэвы, і травы.
Ці ж будзе на прыкрую восень управа?
“Дык вось у нябесным законе артыкул!” –
Вятрыска паўночны ёй пальцам патыкаў.



* * *

Золкая восень і ніякаватасць
Мне на душу шэрай хмаркай лягла.
А як падумаю – нейкую вартасць
Маюць і дожджык, і тая ж імгла.

Неба закрылі імжыстыя шоры,
Сёння не ўгледзець нябесных вачэй…
Глуха гудуць ветравыя маторы –
Хмарныя ралі: якая хутчэй?

Хто фінішыруе, мне асабіста,
Тут, на зямлі, не цікава зусім.
Вецер ля ног маіх сцелецца лістам,
Хоча з імжы гэтай выйсці сухім.

Можа, і выйдзе імклівы, паверу,
Бо не такі ўжо ён і баламут.
Дожджык асенні, няхай сабе шэры,
Мые, змывае мінулага бруд.

* * *

Стаіць вярба на беразе
Крывенькая, гарбатая,
А ў хвалях – сонца верасня…
Яго галінка кратае.
Дупло імшыстай дзіркаю
На дно рачное зіркае,
Дзе плотачкі маляўкамі
Праносяцца над п'яўкамі.



І не баяцца рыбіны
На невялікай глыбіні,
Знямогшыся сурокамі,
Страчацца з крывасмокамі.
Вярба на донца грузкае
Спусціла ногі мляўкія…
Яе лісточкі вузкія
Я блытаю з маляўкамі
І часам нават з... п’яўкамі.

* * *

Трактар – і араты, і аратар.
Крэкчучы, кануў прамовай палкай.
Пнецца, уздымае пыл кудлаты
Звонкаструннаю бульбакапалкай.

Рассыпаюцца ў труху барозны…
Во дзе плён ад дзейнасці заўзятай!
Бульба – дзіва! Бачыцца пароснай
Ці занадта сытаю, пузатай.

Вунь тырчыць спіна з былой разоркі,
Вунь мільгнула макаўка за грудай.
Погляд, будзь уважлівы і зоркі!
А рука, спяшай, хутчэй арудуй!

Карані і глей – кангламераты!
А ўнутры камлыгі дзесь глыбока
Раптам блісне ў трыццаць тры караты
Спуджанае бульбяное вока.



Калачу быллё і рву карэнні –
Неўгамонны і таропкі пошук!
Клубні, белакурыя стварэнні,
Накіроўваю ласкава ў кошык.

Заспяваў, пацеючы ў старанні.
Шумныя дакопкі ўжо прадбачу:
Будзе мне на пачастунак дранік
І вішнёўка свойская ў прыдачу.

## БАЎТРАМЕЙ

### *(ВАРФАЛАМЕЙ)*

07 09

Кажа мужыку Варфаламей:
“Не зявай, азімыя пасей.
Расчыні настойку з ягад-зелля,
Бо прыйшоў найлепшы час вяселляў,
Бо буслоў паслаў я па дзяцей…
Будзем таньчыць! Не шкадуй лапцей!”

А ў паветры – непрывычны рух.
Столькі стала аваднёў і мух!
Нечакана ўзрушыліся гэтак!
Весяляцца пстрычкі напаследак.
І не ўцямяць мухі, авадні,
Што апошнія ў жыцці іх дні.
І таму – ні сораму, ні жалю,
Толькі думка: “Шчэ разок уджалю!”
Толькі ж муха-зуха зразумей:



Раз прыйшоў ужо Варфаламей,
То спасцігнеце ў любым куточку
Вы варфаламееўскую ночку.
І, вядома, без крыві і болю
Знойдзеце апошнюю спатолю.

* * *

Рака жыцця: каханне, спрэчкі…
Я ўсплыў, ды на шнурку, што буй.
І шэпчуць хвалі – вусны рэчкі:
“Жанчын дарэмна не турбуй”.

Але раптоўна турбулентны
Па жылах рынуўся віхур,
І сэрца – у апладысменты:
На небасхіле – зноў Амур!

І думка, як нясцерпны стаер, –
Стралой да любае, хаця
Блішчыць пакуль халоднай сталлю
Рака практычнага жыцця.

Ды скронь пульсуе гучным рытмам
Марзянку, як лірычны блюз:
Прызнанне тэкстам шлю адкрытым
У трапяткім эфіры муз:

“Зрабіла ты мяне паэтам,
І мы з табой – ужо ля зор.
Пяю і ведаю пры гэтым,
Што я – звычайны фантазёр”.



* * *

Што ж рабіць, як лёс такі?
Бо такія самі.
Позна спеем, дзівакі, –
Разам з верасамі.

Я раблю наперад крок
З грузам альбо ўлегцы.
А ты, любка, назнарок
Топчашся на месцы.

Я рукой на ўсход махну,
Ты ў бок працілеглы,
Ды ў дарогу ў адну
Не пайшлі – пабеглі!

Быццам бы і разнабой:
То любоў, то сварка.
Толькі ўсё-такі з табой
Лёс квітнее ярка,

Бо адзін да аднаго
Ўсё ж не без увагі...
Ну і што, скажу, з таго,
Што мы – працівагі.

Над арэнаю-жыццём –
Ногі разам, рукі ўшыркі:
Балансуем, бы ідзём
Па канаце ў цырку.



# БАГАЧ

## (БАГАТНІК, ПРАЧЫСТА, ДРУГАЯ БАГАРОДЗІЦА, ДРУГАЯ ПРАЧЫСТА, ДРУГІЯ СВЯТКІ, НАРАДЖЭННЕ БОЖАЙ МАЦІ)

20 09

Прыйшоў Багач – кідай рагач,
Хавай матычку і саху
Аж на паўгода пад страху.
Прыйшоў Багач, схаваў рагач.
Мужык бярэ сваю сявеньку
І дасявае памаленьку.

Паміж дажджом і сонцам – спрэчкі.
Дажджбог уплыў пакуль не страціў,
Бо кошык з жытам і са свечкай
Гасцюе сёння ў кожнай хаце,
Дзе печка ў клопаце не стыне,
І дзе частуе гаспадыня
Гасцей кавалкам каравая,
А гаспадар ім налівае…
Багач, Багатнік, земляробны,
Вітае ўсіх усмешкай шчырай.
У небе клін свой водзяць пробны
Буслы, збіраючыся ў вырай.

* * *

Пад воблакі буслы ўзляталі,
Вадзілі карагод з аглядкай.



А ўнізе – горада кварталы,
Бы акуратненькія градкі.

На іх – дамы (кубічныя абрысы),
З рукою правадырскай – краны
І купал рынка, велічны ды лысы,
Бы той гарбуз шчэ непрыбраны.

У тым каменным агародзе,
У тых дамах – людзей, што зерня!..
Важак буслоў за лес адводзіў
З надзеяй, што вясною верне.

* * *

О горад няўрымслівы, як жа знайшоў ты
Законы здзяйснення адчайных надзей?
Стан сталі ў напале – аранжава-жоўты,
Нібыта ліст восені, што к нам ідзе.

Куецца гісторыя моцай жалезнай,
Плугі і машыны, а з імі, на жаль,
Куецца ў амбіцыі злосна-гарэзнай
І змоўніцкі дух, і забойны кінжал.

Аранжава-жоўтая сталь у распале
Багацце стварае і… нішчыць ушчэнт.
А золата ўсё-ткі хітрэйшае сталі –
Аранжава-жоўты яе канкурэнт.



* * *

Яшчэ завея не раве
Над аксамітнаю далінай,
А сівізна ўжо на траве:
Бы шкло патоўчанае – іней.

Забальзамiраваны ліст
У лужыне празрыста-хрусткай.
Зара – пунсовы медаліст:
Дыск вогненны за хмарнай хусткай.

Падрыхтаваліся скляпы
Да неадменнае зімоўкі:
У кадзях квасяцца грыбы,
Капуста і… яе галоўкі.

А ў полі – вецер! Ды які!
Але мацней крычыць начальнік:
“Чаму не выбраны радкі?
Чаму тырчыць яшчэ бульбяннік?”

Дык вунь бабулька ўжо ідзе
З вядром і з капачом, бы з кульбай.
І ўнука за сабой вядзе –
Пазабаўляецца хай бульбай.

То ўспыхне сонца, то нырне
Ў халодна-шэрыя аблокі…
Знячэўку выплюхнула мне
Румянца крышачку на шчокі.



# ЗРУШАННЕ

*(ЗДЗВІЖАННЕ,*
*УЗДЗВІЖАННЕ,*
*ЗВІЖАННЕ)*

27 09

Настала ўрэшце Здзвіжанне,
Закрые на зіму зямлю.
Скажу нявесце, як жане:
“Сям’ю зімою пракармлю”.

А сёння адпачнуць хай рукі,
Астыне хай мужыцкі нораў.
Калі ўжо Зрушанне – гадзюкі
Паспешна цягнуцца да нораў.

Халодны дождждык і вятрыска
Ўжо не пашкодзяць ураджаю.
Салоўка, жаўручок і пліска,
Бывайце! Шчасця вам жадаю.

* * *

Як лёгка мне на маніторы
Рабіць усякія паўторы!
Шкада, што доля чалавечая
Заўсёды новае высвечвае,
І што назад яна не верне
Былой усмешкі азарэння.



* * *

Бог нада мной і над усімі
Ад нараджэння і да скону,
Але бліжэй быў Ефрасінні
І Полацкаму Сімяону.

Развагу, грэх і процьму рызык
Ён кожнаму даўно акрэсліў.
Пад ім жыве і метафізік,
І творца бурнага прагрэсу.

Над намі Бог. Але ж убач ты…
Узнесціся б! Ды дзе ўжо ўзносы!
Хто звальваўся з высокай мачты,
Каго скідалі хмарачосы,

Ды горш за ўсё, што скрозь над намі –
Нахабнікі суцэльным роем:
Перахапляюцца панамі
Малітвы нашыя і мроі.

Гляджу ў нябёсы я адчайна
Пакуль не звальвае знямога:
А там красуе мой начальнік,
Нібы заняўшы месца Бога.

Яму і панству эпітафій
Ахвотна склаў я ад гаротных.
Але ж паны ўсялякіх мафій
Заўсёды ў ліку "бессмяротных".



* * *

Ты ж ляці, жыццё, як і ляцела
Ў часе існавання і ў прасторы.
За табой спяшае маё цела
І не можа прыпыніцца ў зморы.

А душа – заўсёды невідзімка,
Як над вокам тоненькае вейка,
На якім званочак шчасця дзінькаў,
І насвістваў мройны салавейка.

Дык чаму ж так мерзну ў мройнай стыні
І калі праменні асляпляюць,
І калі мясцовыя святыні
Іншых вабяць і адухаўляюць.

А душа, нябачная сініца,
У блакіт усё яшчэ ўзлятае
І пад сонцам пырхае ў зеніце,
І ля сонца – быццам залатая…

Тоне ў часе даўняя заслуга.
Сэрца, ты маўчы, аб ёй не звягай,
Бо і так па свеце ціха, глуха
Тупаеш знясіленым бадзягай.

А душу, няхай і невідзімку,
Паспрабую хоць бы чым забавіць,
Каб удзень і ўноч, вясной і ўзімку
Ныць бы перастала і крывавіць.



## БАБІНА ЛЕТА

Вучуся заўсёды ў нястомнай прыроды.
Палі ўжо ў парадку ўсе і агароды.
Жыццё навакольнае, што аперэта, –
Трывожыць і радуе бабіна лета.

Запозненым летам, пагодлівым бабіным
Я шустрай кабетай няўрокам прываблены.

Прырода – у фарбах, прырода – у грыме.
А хто мяне без прыхарошвання прыме?
Ды бачу, што ў любай нямала матыву,
Каб раптам памножыць ініцыятыву.

Запозненым летам, пагодлівым бабіным
Я ўвішнай кабетай шчэ болей прываблены.

Прыгожая восень. Закончана праца.
І пэўна ўжо час мне з каханай пабрацца.
Паставім наліўкі, настойкі на зеллі,
Каб весела людзям было на вяселлі.

Запозненым летам, пагодлівым бабіным
Чароўнай кабетай навекі прываблены.

* * *

Знаёмае ўзлессе. Сустрэцца з ім рад.
Чаромха з рабінай схіляюцца: “Просім!



Заходзь, калі ласка, на баль-маскарад,
Які так прыгожа наладзіла восень.

Даўно заснаваны лясны наш тэатр.
Як бачыш, удзельнік тут кожны са стажам:
Бярозы і ліпы, і явар-аматар –
Мы ўсе свае здольнасці сёння пакажам".

І я сапраўды бачу: клён, што кароль, –
Атласны мундзір, галуны, эпалеты! –
Да ліпкі пачціва схіліўся: "Дазволь
У вальсе абняцца..." Ах, бабіна лета!

Вясёлы праменьчык за кадрыкам кадр
Высвечвае сцэнкі – дзівосныя кліпы.
Асенняе ўзлессе – прыродны тэатр...
Лістотная бязь упрыгожвае ліпы.

Бяроза ў маністах, сасна ў дэкальтэ...
Бурштынавых лісцяў нагледзеўся я там.
У гэтым тэатры, лясным вар'етэ,
Міжволі раблюся лірычным вар'ятам.

Не ўсюды лісцё пакрывае кару,
І сэрца гарыць ад відовішчаў бальных.
Здаецца, што нечага ўсё ж натвару,
Як полымя ўспыхне з пачуццяў запальных.

Клён з ліпай танцуюць – адточаны крок!
У вальсе віхурным ляцяць эпалеты...
Хто ж я ў гэтай казцы: глядач ці ігрок?
Ах, бабіна лета! Ах, бабіна лета!



* * *

І ты – пярлінка ў гэтым леце!
Хвалюе радасны ўспамін:
Ішла амшараю ў берэце,
А ён – палаючы кармін;

Здавалася мне журавінкай
Ва ўлонні моху і вады…
Твае радзімыя крывінкі,
Напэўна, – тыя ягады.

О, журавінкі-журавіны!
Хіба магчыма іх забыць?
Смак асаблівы, кісла-вінны,
Раптоўна здолеў ап’яніць.

А ты жартуеш і ў гуморы
Яшчэ ўзмацняеш гэты хмель,
Каб я ў настроі, у мажоры,
Як закаханы журавель,

Ішоў за ягадкай-берэткай
Праз вадзяністы, топкі мох…
У шапатлівы ўзлесак рэдкі
Няўважна ўглыбіліся ўдвох.

Схаваліся за хмарку промні
Ад жартоў нашых і правін.
А іх было… Усіх не ўспомнім…
Мо гэтулькі, як журавін!



* * *

З-за лесу хмары рынулі,
Панурыя, цынічныя.
То рыкі іх тыгрыныя,
То ўсмешкі навальнічныя.

А ты, што кветка прымула,
Што зорачка ў кватэры.
Дык пацалуй для стымула
Ў жыцці пахмурна-шэрым.

Хаця зара шчэ свеціцца,
Як жыватворнасць існая,
Але чамусьці ў месяца
Сягоння ўхмылка кіслая.

А ты, што кветка прымула,
Што зорачка ў кватэры.
Дык пацалуй для стымула
Здзяйсняць хутчэй намеры.

Залева – плач Атлантыкі:
Струмені з хмар павіслыя...
Хоць мы з табой рамантыкі,
Але жыццём стаміўся я.

А ты, што кветка прымула,
Што зорачка ў кватэры.
Дык пацалуй для стымула,
Для аднаўлення веры.



# ЗДАРОЎ'Е!.. ШТО З ІМ?.. КАТАСТРОФА? А МОЖА, УСЁ-ТКІ НЕ ГАЛГОФА

Воблачны дзянёк, але ж не хмуры.
Ні спякоты, ні магнітнай буры.
Не чуваць даўным-даўно салоўкі.
Рукі цягнуцца то да рыдлёўкі,
То да малатка, то да сякеры,
Часам да алоўка і паперы.
Раптам стала нешта з галавой…
І пасунуўся міжволі па крывой.
І падлога тут жа ўверх палезла –
Грымнуўся без памяці ля крэсла.
Вой!.. Капец!.. Не ўбачуся з Анюткай…
Потым, помню, выгружалі з “хуткай”,
Потым – трубкі, кроплі, людзі ў белым
Прада мною, прад атарапелым.
Дык няўжо мікранейронны пульт
Непрадбачана ўключыў інсульт?

* * *

І стагну, і нават рохкаю,
Праклінаю жылку крохкую,
Кроўную сваю, балесную,
Што ў чаропцы можа трэснула…
Крывяная хваля ў галаве
Ўжо занадта ўздымнаю плыве.
Ацякае доля лобная…



Смерць сапраўдная ці пробная?
Ці вярну жыццё ўчарашняе?
Эх ты, доля мая страшная!
Эх, чаропка гарапашная...
У мазгах ужо – ніякіх норм:
Там бушуе неўтаймоўны шторм,
Быццам я ў бяздонні Балтыкі...
Ад нязноснай перыстальтыкі
Пераблыталіся звіліны...
А прагноз які з узмыленых?
Кінула Феміда – сілішча! –
Аж у чысцец, у чысцілішча,
Што завецца неўралогія,
І дзе гэткія ж убогія
Цягнуць аднатонны спеў свой:
Ай-яй-яй ды вой-вой-вой-вой!
Я ж не плачу, а шапчу ўрачу:
“Не пускайце ў рай! Дамоў хачу...”

* * *

Аддам канцы, якімі швартаваўся
Да светлага людскога берага.
Аддам канцы.. Ужо накіраваўся
Да вострава чарцей, да шэрага.
І там спынюся ля глыбокай бухты,
Нырну ў расстаўленыя д’яблам сеці...
Мой родны мозг, калі ўжо так разбух ты,
То зможаш хутка чэрап ашкілеціць.

* * *

Ці бяроза, ці асіна –
Вісельнікам усё роўна;
А інсульт – не гільяціна,
Ды ўсё ж брат сястрыцы кроўнай.

* * *

Цяжка сёння мне на гэтым свеце:
У мазгах сабраў нямала смецця.
Раз яно жыццю майму пагроза –
Ставяць кропельніцу мне з глюкозай.
І нямала ўрач яшчэ сасватаў
У глюкозу тую хімікатаў.
Мыць, дык прамываць ажно дарэшты!
І тады, мой розум, не памрэш ты,
Не памрэш ну хоць бы сённячы,
Злую смерць глюкозай гонячы.

* * *

Разбудзіла ўранку мітусня:
“Вось вам, хворы, кашка-размазня”.
Мне б знаходлівасці болей крышку,
Каб яе ды чарпануць у лыжку.
Разгараецца між тым ахвота
Не пранесці лыжку міма рота.
А пазней ажно заенчыў нема:
Чай то п’ю, а вось адліць – праблема,



Бо канал не перакрыць закруткай:
Давядзецца карыстацца вуткай.
Добра, што яна не дзюбае,
Добра, што яна бяззубая.
Эх, жыццё-выццё! Не малады,
А хвароба ўсё-ткі і гады!
Хіба ж можна вуткай ганарыцца,
Як дапамагае медсястрыца?
У мазгах шуміць, нібыта вецер…
Дык навошта жыць вось так на свеце?

* * *

Прайшоў і агонь, і ваду.
Шляхамі ішоў адпаведнымі…
А вось перад трубамі меднымі
Сябе ў дамавіну ўкладу.

Так думаецца ў цішыні.
А можа, трывогі дарэмныя?
Дай, божа! Ды думкі праблемныя
Запоўнілі ночы і дні.

* * *

Пранік да сэрца золкі пах асенні.
Трывожныя здагадкі так адолелі,
Што яву засланяюць летуценні
З душэўным лямантам і болямі.
Заснуць бы ў цішыні, ды спасцігае



Сузорнага сусвету какафонія.
І ўжо ўспрымаецца зара над гаем,
Як лепшых залатых дзянькоў агонія…

* * *

А лёс, бы лёд, стаў слізкі, ломкі…
А што далей? Далей – пацёмкі.
І думка ў роспачы блукае:
Ну хоць бы ясачка якая!

* * *

Мае гады – тамы бібліятэкі.
Выданні перачытваю старыя,
Ды хутка іх закрыю, як павекі…
Няўжо хто-небудзь іх калі адкрые?
А не… Ну што ж… Не супярэчу долі,
І ў іншым свеце з тымі, што ўжо зніклі,
Пры цьмяным ззянні зорнай жырандолі
Перачытаю зноў тамы рэліквій.

* * *

Восем дзён я ў хворым асяроддзі.
Сумаваць і жаліцца ўжо годзе!
Не кладуць у саване на лаўку,
Значыцца, іду ўжо на папраўку.



І надзеі стала больш, і веры.
Мінаваць бы мне той востраў шэры!
Чуйны лёс мой, чуеш, накіроўвай
Ты мяне да бухты каляровай,

Дзе не будзе месца жалю, скрусе,
Дзе бадзёрасці зноў набяруся,
Дзе шчасліўцы ўсе пад небам сінім,
Дзе б і я быў гэтакім з усімі!

* * *

Даўно не ў гнёздах вераб'і, сініцы,
А я ўгняздзіўся ў сумны мур бальніцы.
Ці гэта вынік недарэчна-праўны
Атрыманай яшчэ нядаўна траўмы
На штучным лёдзе ў нашым спортпалацы,
Ці можа вынік непасільнай працы?
Аднак сюрпрыз – не толькі востры крыз,
Але і ўколаў боль, і кроў з-пад ваткі...
Ледзь-ледзь пішу аб тым свае нататкі.

* * *

Прычына не ў ветры, прычына не ў буры,
Хутчэй мо пасля невыноснага стрэсу,
Бярозавы ліст пачарнелы, пануры
Ляціць, уцякае з радзімага лесу;

Праз баль камянёў і праз травы-няўцямы
Спяшаецца змучаны, збоку падраны;



Ад гулкіх падзенняў – сінюшныя плямы,
У нетрах душы – незагойныя раны.

Нарэшце, стаміўшыся, мокры і маркі,
Упаў між былінак з усмешкай скупою:
“Няхай узялі б мяне лёгкія хмаркі,
Няхай узялі б мяне птушкі з сабою.

Напэўна мой час, і я ўжо паміраю,
Аднак не ахвота пакуль што да раю,
Куды ўсе астатнія роспачна рвуцца…
Мне лепей бы ў вырай, каб зноўку вярнуцца”.

* * *

Гэй, светлы, ясны дух мой, што з табой?
Чаго наскрозь ты набрыняў журбой?
Вярні сваю жыццёвую харызму
І болей, болей аптымізму!

Яшчэ пакуль раз’юшаныя хвалі
Абжыты ціхі бераг не схавалі,
Яшчэ мы маем футаў сем пад кілем,
Яшчэ нямала мы ў жыцці асілім!

* * *

На маім жыццёвым цыферблаце
Спатыкаюцца ўжо ногі-стрэлкі,
І таму я ў светленькай палаце
Распластаўся, п’яны без гарэлкі.



Столь паехала, плыве кудысьці,
І хістаюцца бы хвалі сценкі.
Як з кашмару гэтага мне выйсці?
Як суняць дрыжачыя каленкі?

Хіба ж цалкам вычарпана квота
Ўласнага жыцця на свеце белым?
А пажыць, аднак, яшчэ ахвота,
Хай сабе і фруктам пераспелым.

* * *

Сябрукі мае, сяброўкі,
Годзе жыць пад камуфляжам!
Лепей без інсцэніроўкі
Добрымі сябе пакажам.

Забягайце, пагаворым,
Як працуем, што мы творым,
Як надвор'е пераносім,
Ці ў суладдзі з доляй-лёсам,
І з сабою ці ў суладдзі,
Як жыццё далей наладзім.

Не цурайцеся, заходзьце!
Хоць асобна мы шчыруем,
Ды давайце па ахвоце
Крыўды ўсе і ўсім даруем.

Забягайце, пагаворым,
Як працуем, што мы творым,



Як надвор’е пераносім,
Ці ў суладдзі з доляй-лёсам,
І з сабою ці ў суладдзі,
Як жыццё далей наладзім.

Каб параіцца сумесна,
Бачыць хочацца суседа.
Можа, і не ўспыхне песня,
Ды наладзіцца бяседа.

Забягайце, пагаворым,
Як працуем, што мы творым,
Як надвор’е пераносім,
Ці ў суладдзі з доляй-лёсам,
І з сабою ці ў суладдзі,
Як жыццё далей наладзім.

* * *

Сястрычка ў беленькім халаце
Глядзіць уважліва і ветла,
І мо таму тут, у палаце,
І цішыня, і гэтак светла.

А за акенцам – сонца промні,
І зеляніна, і сінеча.
Маўчыць рабіна, а ва ўлонні
Лісток, як сэрцайка, трапеча.

Ляжу, валяюся ў пасцелі.
Над коўдрай – павалока змогі.



Памкненні ўзняць мяне хацелі,
Але падкошваюцца ногі.

А за акенцам – сонца промні
І голле блізкае рабіны.
Маўчыць галінка, а ва ўлонні –
Гарачы шчэбет вераб'іны.

Ляжу, у скрусе халадзею,
Ды сэрца не збаўляе рытму
І ўпарта падае надзею,
Што жыцьму, жыцьму, яшчэ жыцьму!

А за акенцам – сонца промні,
І шэпча воблачка ў сінечы:
"Трымайся, хворанькі, і помні:
Надзея часам добра лечыць".

* * *

Ёсць надзея, хоць і адзінока,
Бо праз прызму радаснага вока
Ў ясны дзень і раніцай на золку
Бачу ўсім нябачную вясёлку.

Дзіўныя рассеяныя колеры
Дораць і шпітальныя газоны,
І аблокі, што блакіт зашторылі,
І насупраць корпус мляўка-сонны.



Бачу свет праз вокавую прызму!
Бачу як бы колер аптымізму!
І таму ў вясёлкавым суквецці
Так ахвота шчэ пажыць на свеце!

* * *

Мне палепшала і ўжо скуголю,
Каб як вырвацца хутчэй на волю.
З чысценькай і ветлівай палаты
Паляцеў бы ўзбучаны, кудлаты...

Сонейка, падай руку – свой промень,
Уздымі мяне на той узровень,
Дзе лунаў бы разам з жаўрукамі,
Дзе махаў бы радасна рукамі...

Хоць і пальчыкі – не веер пёраў,
Ды ўзнаўленне б сіл я ўраз паскорыў
І падняўся б з птушкамі ў паветра
На старых, вясёлых песнях рэтра...

Эх, жаданні вы мае, хаценні!
Вы ж, вядома, – толькі летуценні.
Дзе ўжо ўзлёты, крылы і якія?
Мне б займець хаця апору кія.

* * *

Ні ў Штаты не хачу, ні ў Еўра,
Куды імкнуцца многія.



Мне шчасце падарыла неўралогія!
Лячыўся без надзеі ўсякай,
Ды ўсё-такі не марнатраўна.
За дапамогу дзякуй, дзякуй,
Аліна Браніслаўна!

* * *

Бывай, бывай, цудоўная дакторка!
Збавіцельніца ты мая, бывай!

Ты ў долечцы маёй – жывая зорка,
Дык і на іншых гэтак жа ўплывай!

І вы бывайце, кралі-медсястрычкі!
Вы – прыгажуні ўсе і малайцы.

Я цалаваў бы вас – о, смак прывычкі! –
Калі б не кропельніцы, не шпрыцы.

І нянечку, і калідорную
За працу слаўлю бездакорную.

Жадаю мець усім высокі рэйтынг!
Але хоць самі толькі не хварэйце.

Я ў вас ляжаў разгубленым і ціхім,
Не войкаў, не ўзлятаў з кашмарных сноў.

Так што мяне не памінайце ліхам,
А памянеце, то... залягу зноў.



# НА ВОЛІ

І вось я ўдома! Я на волі!
Ужо хаджу, хоць і паволі.
На белы свет не наглядзецца.
І столькі шчасця, аж пяецца!
Імпэт жыцця – такая слодыч!
Тым болей, што са мною побач
Сягоння ты Анютка, Анка,
Мая любоў, мая каханка,
Мая апора і надзея,
І мара, і жывая дзея.

* * *

Прамоў запальных чуў нямала,
Дзе словы – яскі, трэск петардаў.
Не меней у душу запала
І палкіх слоў натхнёных бардаў.

І ты таксама – гаварлівая,
І гутарка твая – зычлівая.
Ты ўмела вяжаш думкі ясныя
Сваімі слоўцамі атласнымі;
То мову вышываеш крыжыкам,
То гладдзю шоўкавай, то пыжыкам,
А то метафарамі рэдкімі
Аздобіш, як жывымі кветкамі.

Маўленне – асалода прама!
Настрой узносіцца міжвольна!



І ўраз цудоўнай панарамай
Свет успрымаецца наўкольны.

А часам словы – не атласныя,
А камяністыя, баластныя,
Усе калючыя, нязносныя,
Нібы на шыбе ў дні марозныя
Чартапалохі несусветныя,
Твайму настрою адпаведныя.
І хай суквецці слоў з іголкамі,
І хай крапіўнымі мяцёлкамі –

Я прагну іх, бо ўсё-ткі зычаць
Заўсёды добрае, спрыяльнае,
Таму не колюць, а казычуць,
Таму да болю абаяльныя.

* * *

Успомніў дзень: спявалі травы
 ў лад мне і ў пацеху.
Кусток зялёны, кучаравы
 аж дрыжаў ад смеху.
Змяніўшы раптам свой кірунак,
 трапілі мы ў лозы.
О, гэткі там быў пацалунак!
 Я ж – валет і… козыр!

Накрыўшы смела сэрцам-чырвай
 сэрца дамы-хрэсці,



Пяшчотна лашчыўся і шчыра
і, як мог, так песціў...

Зляцелі лісці і стракозы.
Голы куст, бы дроцік,
Дрыжыць, трасецца без марозу
худзенькі неўроцік.
Лісток апошні вецер вырве,
згіне брудна-рыжы.
Зараз козыр не, не чырва –
твой нагрудны крыжык.

* * *

Каб усмешачка не збегла
З вуснаў, любачка, тваіх,
Кінуся ахвотна ў пекла
На пакуты за дваіх.

Мо, магчыма, і няўцям
Будзе з’едлівым чарцям,
А мо ўжо яны начуты,
Што рашучы на пакуты,
Што рыхтуюся да згубы
Толькі дзеля шчасця любай.

Мусіць падлічылі ў пекле
Кожны грэх мой, кожны рух,
Ды не ўсе грахі засеклі
Тыя, што тварылі ўдвух.



Тайны нашыя няўцям
Будуць і далей чарцям.
Запытаюцца: “Чаму ты
Сам згадзіўся на пакуты,
Хіба дзеўкі-бабы варты,
Каб з-за іх кідаўся ў вар ты?”

Адкажу я ім, дарэчы:
“Хай жыўцом зваруся, хай!
Ды затое забяспечу
Любенькай дарогу ў рай”.

Гавару, а мне няўцям,
Але ўцям старым чарцям,
Што ў раі за сочны яблык
Спакушае той жа д’яблік.
Дык навошта рай і пекла,
Як на гэтым свеце пекна?

* * *

Вядома, рай патолю ўсім нясе,
Бо там няма ні сварак і ні спрэчак.
І там жывуць у добрай згодзе ўсе:
І багатыр, і бедны чалавечак.

Бо там любоў Бог падарыў усім,
І там жыццё-быццё ім стала вечным.
А як улюбяцца? Тады дваім
Як жыць? Адказ, напэўна, будзе спрэчным.



Каханне ўдвух да шчасця прывядзе,
І трэцці ў іх павінен нарадзіцца.
А вечна жыць? Вой, каб не быць бядзе!
Настане час і ўсім там не змясціцца.

І я хвалююся за Бога нездарма,
Бо ў думкі зноў улезла супярэчнасць:
Альбо кахання ў тым раі няма,
Альбо адсутнічае вечнасць.

* * *

Плыў па жыцці і кролем,
І нетаропка брасам,
І трэнерскую ролю
Выконваць мог я часам.

А човен мой з таўром
Ад хваль – хвальба без меры!..
Грабу, грабу пяром
Па… астраўку паперы.

І строфы-небаракі
Ў раку жыцця злятаюць.
Ну што ж, няхай хоць ракі
На дне іх пачытаюць

І выкажуць папрок
За нерашучы нораў.
Ужо зрабілі крок,
Ды зноў хутчэй – да нораў…



Плыву. Стары мой човен
Ледзь-ледзь мінуў бяздонне.
І, хоць няшчасцяў повен,
Пакуль яшчэ не тоне.

* * *

Я не хвалю сваю асобу
І ў смерці ласкі не малю.
Калі б за кожную хваробу
Давалі мне па медалю,

То з-пад жыццёвае шынелі,
Узбуджваючы дух і кроў,
Узнагароды б зазвінелі –
Рады бальнічных медалёў.

Уеліся ў стан хударлявы
Калісь рубцы і... шрам цяпер.
Калі б за кожны – ордэн славы,
То быў бы поўны кавалер.

Спазнаўшы ролю аперацый –
Не гэткіх, як “Багратыён”, –
Вярнуўся да жыцця і працы
І маю ўжо нядрэнны плён.

Здыму пінжак, надзену робу...
Душа, штодзённа маладзей!
Перамагаю зноў хваробу!
Жыву падтрымкаю людзей!



* * *

Мянушкай – божа барані! –
Не ганарацца ў Беларусі.
А нас празвалі “Карані”,
І тым заўсёды ганаруся.

То роздумам сябе тамлю,
То спрыт хаваю пад бялізну...
Раз карані свае ў зямлю
Па-дзедаўску глыбока ўціснуў,

То і расту, як немаўля,
І сілы множыцца павінны,
Бо моц сваю дае зямля
Праз карані, як пупавіны.

А на паверхні шмат брыды,
І злых, і безразважных – процьма.
Я ж узмацнеў, як малады!
Зямля, валяйма іх! Бароцьма!

І дасягнем карэнных змен,
Ачысцім краявід ад смецця,
Бо карані мае – не тлен,
Хоць і ў зямлі, у іншым свеце.



* * *

Лістоту асеннюю ў кучы
Касцёр пажырае траскучы.
Агонь зацікаўлены, прыткі
Мае перагортвае сшыткі,

Чытае і больш палымнее,
Бо жар, нібы жарсць Гіменея!
Гляджу ўсхвалявана на ўздыме,
Як пых мой узносіцца ў дыме,

А з ім і ўсе думкі – кругамі,
Знікаючы ў зоркавай гаме.
Назад праз вякі мо ў наш вэрхал
На знічцы апусцяцца верхам,

І, можа, дзяўчына ці хлопец
Ураз на ляту іх падхопіць,
Вядома, калі хто з іх прыткі...
А зараз… у полымі сшыткі.

* * *

Безразважнасць і мая, і нечая
Не заўсёды мудрасцю адсвечвае,
А мы думаем: такая маецца,
Раз на сэрцы полымя ўздымаецца.



# ПАКРОВЫ

### (ПАКРОЎ, ТРЭЦЯЯ ПРАЧЫСТАЯ)

14 10

Знікае дробная істота,
І дол пакрыла ўжо лістота.
І, як звычайна, на Пакровы
Схаваліся ў хлявах каровы.
І дзед, пастух наш ганаровы,
Кіёк свой кідае на дровы,
І ўжо рыхтуецца за свата,
Бо ў нас нявест вакол багата.
Прад ім даўно ўжо новы ракурс:
Ёсць у людзей пітво і закусь.
Але калі хто страціў дух, –
На тое ў вёсцы ён, пастух!
Усім без дубчыка і пугі
Акажа добрыя паслугі,
Бо ён і хлопцам, і дзяўчатам
Заўсёды быў не толькі сватам,
А і выдатным тамадой,
Які валодаў грамадой;
Ягоны заклік “Будзь здароў!”
Даўно зацвердзіў сам Пакроў.

* * *

Хмары смутку плывуць перад поўняй,
Але ўсмешка яе мне відаць,

І здаецца надзвычай любоўнай…
Вось такую б каханай прыдаць.

Прыпадаю маўчком на калена
І з надзеяй гляджу ў вышыню...
Прыгажуня нябёсаў, Селена*,
Я ніколі табе не зманю.

Без адказу жанчыну кахаю,
Безнадзейнасцю сэрца тамлю.
Дык спускай жа хутчэй з небакраю
Свае чары да нас на зямлю.

Уздыхаю, самлела калена,
Ды з надзеяй гляджу ў вышыню.
Не марудзь, паспяшайся, Селена,
Паддай жарсці ёй больш і агню.

І пачуцці мае – хоць палову –
Нерашучай маёй перадай.
Улюбёнасць хай круціць галовы…
Узаемнасцю нас аб’яднай.

Ные сэрца. Заныла калена.
Пакідаю маліць вышыню...
Раптам чую, шапнула Селена:
“Пацярпі. Безумоўна жаню”.

---

*Селена (грэч.) – месяц.



* * *

Бярозы, сосны і асіны –
Асенні спектр амаль увесь –
Мае свяцейшыя мясціны,
Мой урачысты слаўны лес!

Нібы касцёльны, шпіль яловы.
Калонны храм – сасновы бор.
А вунь – кляновы, шматгаловы,
Амаль у золаце сабор.

Праз купалы – акенцы ў неба
З лісцёвых яркіх вітражоў.
Паспавядацца мне так трэба!
Таму... у храм лясны прыйшоў.

О мудры лес! Высакародны!
Насыць няўтольную душу
Напоем хвойна-кіслародным,
Насыць бадзёрасцю, прашу.

Здымі душэўныя пастронкі,
Спрасці, змякчы мой лёс круты,
Каб стаў я ўпэўненым і стромкім,
І жыццерадасным, як ты.



* * *

Запрыкмеціў я здалёк:
На дарозе – матылёк.
Вецер апусціўся з вецця,
Каб узняць яго на крылы,
А той коціцца па смецці
Скачанелы і застылы.

Вецер-пыха, вецер-дзьмух
З лісцямі пагнаў і мух.
А яны ж у час нядаўні,
Як і той матыль наіўны,
Весела спявалі ў траўні,
Музіцыравалі ў жніўні.

Сілы і ў мяне былі
Адарвацца ад зямлі.
А цяпер адно што мыслі
Ў час асенні, цяжкадумны
Недзе ў вышыні павіслі…
У паветры – вэрхал тлумны.

То спяваю, то маўчу,
Але думкі залачу.
Як жа! Восень залатая!
Долечка, што трэба, здзейсні,
Бо душа яшчэ ўзлятае
На крыле асенняй песні!



* * *

Калі нашы спрэчкі завершым
І пусцім на волю памкненні?
Хіба з пацалункам не з першым,
Не ў першым гарачым імгненні?
А можа, з другім пацалункам
Нам будзе настолькі прыемна,
Што ўжо не захочам ратунку
Ад бурнае жарсці ўзаемнай?

Пацалу-пацалу-пацалункі –
Летуценныя нашы ласункі.
Паміж намі такія стасункі,
Што патрэбна падводзіць рахункі.

А мо ў пацалуначку трэццім
Сухі тон размовы размочым
І ў зрэнках бяздонных прыкмецім
Якраз, можа, тое, што хочам?
А можа, якраз у чацвёртым
Убачым жаданы наш фініш?..
І ты не пашлеш мяне к чорту
І ў сполаху прэч не адрынеш.

Пацалу-пацалу-пацалункі –
Летуценныя нашы ласункі.
Паміж намі такія стасункі,
Што патрэбна падводзіць рахункі.



* * *

Сучок у цемры хруснуў.
Вой, будзе, будзе мне!
Але гарачых вуснаў
Не адняла, о не!

Імпэт і я не страціў:
Хачу быць малайцом,
Хоць бачу: твая маці
Да нас ідзе з дубцом.

Злавіла, ды не хвошча.
А я: “Бог барані!
Не бі мае ты мошчы!
Не супраць я, жані!

Хоць заўтра нас – да шлюбу
Без лішніх слоў і спраў…
Ты станеш цешчай любай,
Адно… вяселле спраў,

Бо нейкі ашуканец
Зрабіў і ў нас дэфолт…
Украў амерыканец
Эканамічны болт.

У банках зберажэнні
Папоўняцца з казны,
А не мае кішэні –
Там ветравей скразны.



Ды ўсё ж, як лебедзь-страцім,
З тваёю я дачкой…
Лічы мяне ўжо зяцем
І сэрца супакой”.

## ЗАМОВІНЫ, ЗАРУЧЫНЫ

18 10

Гарэлкаю як след узброены
Схадзіў я ўчора на замовіны.
І сват у штат наш быў уключаны,
Каб не сарваліся заручыны.

А ў цешчы будучай дык хата,
Відаць, – гняздо матрыярхата.
Былі нявеста з цешчай прыткімі –
Хаваліся за перажыткамі.

Але ж я хітрасцю валодаю
І заручыўся ўсё-ткі згодаю:
Каб шлюб зрабіўся дружбай цеснаю,
Мы абмяняліся з нявестаю
Пярсцёнкамі сваімі загадзя
І тым дамову не разладзілі.

* * *

Ні прывілей, ні перавагі…
Адно касцёр не разбуры!
Схапіліся мы не за шпагі,
А зазвінелі шампуры.



Нарэшце зняты каранціны
І на часнык, і на віно.
У зрэнках выспелай жанчыны
Аж донца любасці відно.

Наліць бы ў чару гэтых чараў
І піць бы, смокчучы ўзасос!
І я шашлык – сапрэў над жарам –
На бераг зрэнак тых панёс:

“Вось падаруначак маленькі,
Гарачы, як мая душа…”
Напоўніліся мёдам зрэнкі
І лінулі, нібы з каўша…

* * *

Да чаго барвовы ўсход!
Пачуццёвы нейкі!
Што з табой? То з вуснаў мёд,
То з аздобай вейкі…

Не мігай і не развей
Радасці адзінай.
Мітусіцца салавей
Дзесьці за грудзінай…

Сэрца к сэрцу! Так лацвей
Будзе салавейку.
Моцна ўсё ж не барвавей…
Кропляй мёд на вейку.



* * *

Капрызуля, у мяне
Па-над ложкам на сцяне
Нашы фоткі ў рамцы змешчаны.
Думаю, яны ўсур’ёз
Аб’ядналі ўжо наш лёс,
Бо сямейнымі абвешчаны.

Уначы яны не спяць,
Папракаючы, глядзяць
Вочкі мілыя, лупатыя.
Нас яднае тэлефон,
А як сапсуецца ён,
То спрацуе тэлепатыя.

Фотакарткі ўпалі ў транс…
А калі мы ўпусцім шанс?
Хіба ж вінны буду ў чым?
Час імчыць, і ў рэшце рэшт
Я памру, і ты памрэш,
Праўда, у далёкім будучым.

А пакуль адны ляжым:
Халасцяцкі ўсё ж рэжым,
Потым іншы мо ўзаконіцца.
Толькі фоткі сто начэй
Не заплюшчваюць вачэй,
Выцвітаюць ад бяссонніцы.

Любенькая, мне ўначы
Зноў не спіцца. Не маўчы,



Хопіць адзінотай нудзіцца.
Па-над ложкам на сцяне
Фоткі падміргнулі мне:
Хутка шлюб у нас адбудзецца.

# ЗМІТРАВЫ ДЗЯДЫ

*(АСЯНІНЫ)*

## І ЗМІТРАВА СУБОТА

*(ПАМІНАЛЬНАЯ,
РАДЗІЦЕЛЬСКАЯ,
ТОЎСТАЯ)*

Магілка. Помнік з шэрага бетону –
У выглядзе драўлянае сцяны.
І мох на ёй амаль такога ж тону,
Як, мабыць, і нябожчыцкія сны.

Грудок магільны, шавяльніся!
Страсі і пыл, і кропелькі расы!
Татулька, на імгненне хоць прачніся,
Пачуй дзяцей і ўнукаў галасы.

Адзін твой сын і ў радасці, і ў горы
Разважлівы заўсёды і бадзёры.
Другі, ты ж чуеш, у сваім жыцці –
Хрыпаты, шумны, вечна ў падпіцці.

У трэццяга душа – скарынкай чэрствай,
А сэрца мо для забіцця цвікоў.



Ну што яму сваяцтва і братэрства,
Таксама, як і памяць пра бацькоў?

Усе сюды прыходзім, хоць і зрэдку.
І я ўспамінамі твой сум гаю.
І сёння вось прынёс жывую кветку,
Удзячнасць, вернасць і любоў сваю.

* * *

Дзянькі ляцяць, бягуць гады
І мітусяцца роем,
І, як заўжды, – у нікуды,
У тое самае былое.

І толькі дзе-нідзе – іх след
Пры ўважлівым разглядзе:
Там след пакінуў мудры дзед,
А тут пакінуў прадзед.

Сваяцкі вобраз, мройны цень
Разгледзеў і адсюль я.
Ну прывітанне! Добры дзень,
Дзядуля і бабуля!

Ну прывітанне! Добры дзень,
Мае дзядзькі і цёткі!
Я вам прынёс душы агмень,
Далёкія прапродкі!



Прыміце ж вы ад нас, жывых,
Сыноўскую прысягу,
Прыміце ад дзяцей сваіх
Удзячнасць і павагу!

* * *

Грувасцяцца хмарныя купалы.
Глядзі і трывай! Не расчуься.
Па скроні ўспаміны затупалі
Абцасам балючага пульса.

З'явіліся лікі, узрушылі...
Пад небам, у воблачным храме,
Наладжваю сувязі з душамі,
Нібыта з жывымі сябрамі.

Мо ім пахваліцца здабыткамі?
Ці распавядаць пра паразы?
Кілім долі іншай мо выткалі б,
Калі б існавалі ўсе разам.

Аблокі грувасцяцца купамі...
На радасць маю і на крыўду
Глядзяць вочы з небнага купала.
Якім я і з чым да іх выйду?

* * *

Над цэрквай – макаўкі. О крыжаносцы,
Займіцеся маёю долечкай,



Маёю, пэўна, грэшнаю ва ўзросце,
А мо й нягрэшнай аніколечкі.

Царква маўчыць, красуецца сабою.
Глядзяць узнёсла ў неба купалы,
Туды, дзе позіркі мае з журбою
Ўсе закуточкі ўжо прашчупалі.

Прасіў і шчасця ў зор, і дапамогі,
І за грахі малыя шчыра каяўся.
Глядзець прывык увысь, а не пад ногі,
Таму на роўным спатыкаюся.

Шмат макавак на храме. Іх аблічча –
Нібыта жонкі-міраносіцы.
Галоўка кожная да міру кліча...
Дык нездарма душа ў храм просіцца.

* * *

Адно надзеў імжу кастрычнік,
Спадар дажджоў і лугу роснага,
Як тут – мароз, ліхі апрычнік,
Пасланнік ад *Івана Грознага*.

Прыйшоў нясціплым, зухаватым
І з місіяй ужо не рэдкаю:
Прыйшоў не столькі дыпламатам,
Як з яўнай баявой разведкаю.

І паказаў яшчэ капрыз
Раз'юшанага бугая.



Марозны ўціск яго – сюрпрыз,
Балючы сённячы ўдвая.

Жахлівы ледзяны матыў
Прыносіць ранняя зіма.
На клумбе крышталём застыў
Матыль на кветачцы тырчма.

Ды і яна нібы са шкла:
Прасвечваецца боль, дакор.
Прыгожае – ва ўладзе зла:
Цудоўны нежывы дэкор.

Ну хто ўжо матылька кране?
Крануў бы мо, ды раскрышу...
Ажно прабег мароз па мне –
Шкляніць і погляд, і душу.

* * *

Замёр у спакоі луг шызы,
І дрэвы мігцяць серабром.
Надзеўшы срабрыстыя рызы,
Расліны, бы прад алтаром,

Застылі з апошняй малітвай,
Усе – у крыштальным асці...
Дачасна з зямлі каларытнай
Павінны ў быллё перайсці.

Няпрошаны госць прымарозіў
Ваду, і зямлю, і траву.



Хоць бот мой падвергся карозіі,
Азартна па лёдзе плыву.

І нос мой замёрзлы даў цечу,
Далонь – не насоўка, аднак.
Плыву, а мароз – насустрэчу:
Трасучку загнаў пад пінжак.

* * *

Звычайная восеньская амплітуда:
То дзень палымяны, то намаразь ночкай.
Я цешуся верай: не возьме прастуда…
Ды раптам прабег калатун пад сарочкай!

Трасецца ўсё цела ў паходцы дрыготкай,
І думкі лятаюць у пошуках печы.
А тут ліст асіны з пуцёўкаю льготнай:
“Згаджайся, вунь сховішча ад халадэчы”.

Убачыў хаціну, адкрытую брамку,
Што веснічкай хрыплай гасцінна махае.
І рынула раптам душа ў тым напрамку –
Хай хатка струхнела, ды схова – сухая.

Заходжу. Нікога. Адно павуціння,
Дзе некалькі мух, што даўно нежывыя.
Але ўсё-ткі Хатнік застаўся ў хаціне:
То шэпча ля форткі, то ў коміне вые.



Дзіўлюся, расчулены сумнай пустэчай.
Знайшоў аскабалкі – былую балею.
Агеньчык маленькі распальваю ў печы:
Сябе і душу гэтай хаткі сагрэю.

* * *

Лятае мокры вецер з гікам,
Ды чвякае агідна хлюпа,
І давялося чаравікам
Насыціцца слатой, бы супам.

Навандраваўшыся ў ахвоту,
Іду дадому з мокрай пасмай.
Дарэмна выдзяляла квоту
Слата на хрыпату і насмарк,

Бо сонца ў сэрцы засталося,
Таксама і ў маёй кватэры:
Дасюль там залатая восень
Яшчэ ўпрыгожвае шпалеры.

У рамках – цёплыя малюнкі,
Ніводнай нуднай аблачыны.
На фотках лета – пацалункі
Ласкавай, сонечнай жанчыны.

За вокнамі імжа павісла
І не спяшае з неба ўпасці...
А мне не горка і не кісла,
Бо сам сабе ствараю шчасце.

* * *

Хацеў даведацца бог потраў года,
Бог ветру думак і журбы дажджоў:
Ці ёсць карысць ад працы, ці мо шкода?
І ўвёў адзінку вымярэння – джоўль.
А я здзіўляю бажаство Вартумна*:
То ў працы рупны, то цягну бяздумна
Дзе ўверх, дзе ўніз, дзе рэзкі разварот
Сярод скупога шчасця і нядолі,
Парваўшы нітачкі дажджу і дрот
Калючы на маёй зямной юдолі.
Глядзіць Вартум і лыпае вачыма:
Маю актыўнасць мераць немагчыма.

## УЗЯЎ ШЛЮБ

2 0 11

Нярэдка чуем у народзе мы:
Каханне ўспыхне й памірае.
Аднак вядзецца ўжо стагоддзямі,
Як стол вясельны робяць раем.

Са мною побач ззяе Аня,
Ля Стасіка квітнее Таня,
Ля Сцёпкі – дзіўная Марына,
Алесік захапіўся Веркаю...
Любоўнага адрэналіна
Ніколі не заліць гарэлкаю.

*Вартумн (гр. міф) – бог пораў года.



Сядзяць мужчыны з маладзіцамі.
Бабулька цісне туфлік дзедаў.
Павінны сённячы згадзіцца мы,
Што кожны смак кахання зведаў.

І я заззяў ля мілай Ані,
І Стасік у абдымках Тані,
І Сцёпку абняла Марына,
І шэпчуцца Алесік з Веркаю...
Салодкага адрэналіна
Ніколі не згарчыць гарэлкаю.

Гары, гары, каханне яснае,
Гары трывожна і бяспечна,
Гары сяброўскае і ўласнае,
Гары гарэзліва і вечна.

Згараю ля гарачай Ані,
Пячэцца Стась у жарсці Тані,
Сцяпана апякла Марына,
Алесь успыхнуў разам з Веркаю –
Вясельнага адрэналіна
Не патушыць ужо гарэлкаю.

* * *

Пайшла гамонка на вяселлі –
Падзарадзіцца ўсе паспелі.
І – эх! – расправім грудзі, плечы,
І ў польку кінемся ад печы,



І ў кракавяк, і ў падэграс –
Вяселле радаснае ў нас.
І я паплыў па хвалях юру,
За рукі ўзяўшы Аню (Нюру).
Як сённяшняй увагі носьбіт,
У круг пайшоў па шумнай просьбе.
І, хоць уплыў зрабіў не куфель,
У танцах не шкадую туфель.
А людзі зноўку: “Просім! Просім!”
І давялося з Аняй босым,
Пакуль яшчэ настрой не згас,
Дэманстрыраваць вышэйшы клас…
Іграйце ж весялей, музыкі!
Народ і да гуляння звыклы!
Няхай разагравае кроў,
Ды так, як пажадаў Пакроў.

* * *

Але ад першай шлюбнай ночы
Нас і багі не ўратавалі,
Хоць я не надта ўжо ахвочы
На паказныя рытуалы.

Замкнулі прама на вяселлі
Збянтэжаных нас у каморы,
Каб мы крывёю на пасцелі
Чарцілі шлюбныя ўзоры.

Пры чым, спытаеце, тут кроў?
Якія могуць быць здарэнні?



І добра, што ў гаспадароў
Было сунічнае варэнне.

Нікольki любку не віню,
А кемлівасцю выручаю:
Адбеленую прасціну
Сунічнай масай размячаю

І ганарова пры гасцях
Прымацаваў ажно да даху.
“Вой! Бел-чырвона-белы сцяг!” –
Затросся бледны цесць ад страху…

А нам шанцуе: я з палёгкай
Зрываю прасціну-даведку.
Ты, цешча, замаўчы, не вохкай!
Была, была кроў… толькі ўлетку.

* * *

Каб мара аб шчасці не сталася марнай,
Хай будзе каханне нам зоркай Палярнай
І воссю, вакол якой круціцца неба,
Вакол якой шчасце нам стане патрэбай
Штодзённа ўсе 24 гадзіны,
Ды ў еднасці нашай сямейнай, адзінай.
І беды ўсялякія будуць разбіты,
А іх аскабалкі з любоўнай арбіты
Зляцяць, праглынуцца бяздоннаю прорвай…
Каханне, жыві! Сваю дзялачку ўзорвай,
Вырошчвай дзяцей – залатое калоссе,



Каб дружна і радасна разам жылося,
Каб шчасце квітнела не вузкакватэрным,
Але непамерна даўгім і бязмерным!

* * *

Футрам залацістым лісы
Моднічаюць нават летам.
Ну а ў сонца – чэрап лысы,
І сукенку знесла ветрам.

Голая зусім фігура,
Хоць анучачка б якая!
Ведама ж, тэмпература!
Валасок і той згарае.

Спачуваю і жанчыне:
Кроў яе падобна магме.
І па гэтай вось прычыне
Агаліцца так і прагне!

Дэкальтэ! А знізу – міні!
Сексуальны і абутак.
Не бывае і ў паміне
Тых кравецкіх атрыбутаў…

Ах, чаму ў такім узросце
Ззяеш, мілая, так міла,
Што адкрытай прыгажосцю
Сонейка ажно зацьміла?



Мы жывём ужо сумесна –
У далоні так не пляскай! –
Сонейкам не будзь нябесным,
А сямейным – калі ласка.

Асалода – да зацьмення!
Сонца ў ложку! Разгуляўся...
Пульс даўно стукоча ў цемя,
Каб не звягаў, закругляўся.

Закругліўся і... стаў поўняй –
Закаханы ў сонца шарык.
Углядаюся любоўна
Ў круглы, сонечны твой тварык.

* * *

Жарсць хлынула дзевятым валам –
Каханне ўвосень так штарміла! –
А ты ўцяшала, спачувала,
А потым – раз! – і ажаніла!

І першы месяц стаў салодкім,
А гэткіх будзе мо і дваццаць –
Наколькі пагадзяцца сродкі,
Настолькі буду і старацца,

Бо ты – то яблык мне, то дыню.
Ад булак, пончыкаў хоць пухні!
У ложку стала гаспадыняй,
Але найлепшаю – на кухні.



Мой вал дзевяты ўжо не знойдзем,
І не ўключай у план па валу…
Даўно ў каханні валаводзім,
А як спяшаем, то памалу.

* * *

“Песенька яшчэ не спета
Пра любоў маю, дарэчы, –
Растлумачвала кабета
Мне і жонцы пры сустрэчы. –
Веру ў Паўліка-паўліна.
Ён заўжды – мая апора;
А ў яго я – дысцыпліна!
Раптам… затрымаўся ўчора!
Я памыла свае ножкі –
Гэта ж прыгажосць такая! –
І ў сваім чысцюткім ложку

Дзве гадзіны ўжо чакаю.
Дзе ж ласкавы прынц мой дзеўся?
Мо другой расцалаваны?
Не. Прыйшоў, цішком раздзеўся
І… хутчэй, хутчэй – да ванны.

Да сябе не дапушчу!
З ложка грэшніка спушчу!
Хай сягоння на падлозе
Сам сабе настрой салодзіць



І паспіць у прахалодзе.
Вось ідзе. Такі лагодны!
Ціхенька аб ложак трэцца,
Мацае рукой халоднай
Месца побач, каб сагрэцца.

Толькі я яму – нагой!
Дадала яшчэ другой!
І мой любы на падлозе
Лёг і сапраўды ў знямозе
Сцішыўся ў нязручнай позе.

Ах, чаму пашкадавала
Дапусціць у цёплы ложак?
На падлогу лёг, завала,
І не просіцца да ножак.

У сумненні трапячу.
Разбудзіць яго хачу.
А ён літасці не просіць.
Дык і я ў такой жа позе
Легла побач на падлозе”.

Во, кабета! Сэрца злое!
Мужыка ўвабрала ў лейцы!
Не ўяўляю, што такое
Будзе і ў маёй сямейцы.

* * *

Сказаў мне паважаны чын:
“Не падтрымаю твой пачын,



Ты корпаеш душу жанчын,
А што, як выйдзе неяскрава?
А што, як выкажашся слаба?
Бо разабрацца ў бабскіх справах
Выдатна зможа толькі баба.
А я не згодзен з гэтым, не!
Усё залежыць ад мяне,
Прытым, што і ў жаночых колах
Сягоння лічаць адназначна:
Калі мужчына гінеколаг, –
Для пацыенткі проста ўдача.

## ПІЛІПАЎКА

*(КАЛЯДНЫ,*
*ПІЛІПАЎСКІ ПОСТ)*

2 7 11

Кароткі дзень ледзь-ледзь трывае,
І дзіва што – калядны пост!
Мацёры воўк, падняўшы хвост,
Працяжна ўзвыў, гайню ззывае.
Ах, не было б якой бяды
Ад гэтай воўчай грамады,
Бо ў іх усохлі крыху рэбры,
І добры ім “шашлык” патрэбны.
Яны на воўчым на вяселлі
Ахвотна б і карову з’елі…
Хавай скаціну, чалавеча,
І грэйся сам ля цёплай печы.
А дочухну – цямнее рана! –



Суправадзі сам на вячоркі
І навіну лаві з экрана,
Завесіўшы на вокнах шторкі.

* * *

З нябёсаў апусціўся змрок
У выцертай апратцы шэрай:
Ідзе крадком, за крокам крок,
Ва ўсмешцы зорачкі ашчэрыў.

Пейзаж – размытая пастэль.
І Муза спаць ужо залегла.
А змрок за ёю – у пасцель,
За стомленаю, за нягеглай.

І што адбудзецца з таго?
Якое будзе ў іх зачацце?
Не сплю, прыслухаўся... Ого!
Дык вось яно, начное шчасце,

Перапляценне... дум і мар!
Як цемра пеніць кроў і лімфу!
І змрок у плыні тлумных чар
Пад коўдраю... шукае рыфму.

Знайшоў нязграбненькую... Фу!
Не для душы і не для сэрца.
І да таго ж яна ў страфу,
Хоць голая, але не пхнецца.



Дарма ўздымаецца імпэт,
Мацней напружваючы фібры…
Змарыўся змрок, слабы паэт,
Рашыў спыніцца на вярлібры.

І завязаў усе вузлы:
Хаця б не збегла ў прочкі Муза!
Нясіце ж вы хутчэй, буслы,
З народжанай страфою вузел!

* * *

Падчас я душэўна ажно лямантую,
Што выпусціў думку паспешна не тую.

Ахоплены роспаччу, дзікай тугою
За ёю лячу наўздагонкі з другою.

Адна за адною яны аж віхураць
І сутнасць выказвання ў спешцы той бураць.

І раптам – абвал! І ні дум, ні гучання.
І ў той цішыні, у прадонні маўчання

Цішком нараджаюцца новыя словы,
Нарэшце прыгодныя для пабудовы

Празрыстага, ёмкага, важкага сказа.
І тут пачынаецца новая фаза

Майго будавання адроджанай мыслі,
Якую парушыў у спешцы калісьці.



Кладу, падганяю цагліначкі слоў,
Да бляску шліфуючы зноў іх і зноў,

Каб, чуючы словы жывой прыгажосці,
Любы суайчыннік у розным узросце

Пазбавіўся лаянкі, едкае жоўці,
І больш не ўжываў непрыстойныя слоўцы.

Звычайна людзей пазнаю, параўноўваю
Па тым, як яны карыстаюцца мовай.

* * *

Дзе смеху звон? Дзе бубны сварак?
Дзе страсны шэпт і лёгкі ўскрык?
Гэй, восень, абатры свой тварык,
Пратры дажджліва-слёзны лік!

Устрапяні яе, вятрыска,
Прыгладзь апалае лісцё.
Сягоння падвядзецца рыска
Пад пашарэлае жыццё.

Якія ў лістапада рысы?
Не залаты, не шалы лік.
Сваю нервознасць і капрызы
Хавае пад пуховы шалік.

Вятрыска ўзяў свой матаролер,
І з асалодаю з ім мы,
Завалачэм пануры колер
Пад колер ядранай зімы.

* * *

Тэатральная зіма.
Нікагусенькі няма:
Ні машыны, ні каня
На заснежанай дарозе,
Толькі я і цішыня
Моўчкі мерзнем на марозе.

Праўда, хтосьці вунь прабег,
Ды сляды глынае снег.
Як, у снезе менавіта,
Гай святочны падабрэў!
Столькі пульхнага бісквіту
На далонях сціхлых дрэў!

Пакідайце ж, людзі, хаты!
Пакідай свой лог, сахаты!
Вецер, з гэткае нагоды
Цішыню не зварушы!
Дай паболей асалоды
Для вачэй і для душы!

* * *

І ўзімку быльнёг
Чамусь не палёг,
Упарта красуе, схуднелы і шэры.
І гэтую жудзь
Чамусь не бяруць
Ні снег, ні мароз, куслівейшы за звера.



Пайшоў ціхі снег
І вось – у разбег:
Ляцяць прад вачыма
Ўжо снежныя лапці.
Заснуў між бяроз
Дзядуля-мароз
У млосных абдымках зімы, сваёй бабці.

Сплыла карусель,
І зноў – толькі бель,
Вакол, як відаць, – адно снег некрануты…
Распорвае бот
Надзьмуты сумёт
І весела рве яго снежныя путы.

Мяцель не мяце.
У снежнай фаце
Кусты ўсе, а дрэвы яшчэ і з каронай.
Сярод белізны
Ля сумнай сасны
Адзін толькі я зараз чорнай варонай.

І крыкнуў бы: “Кар!”
Ды белы абшар
Змарнеў, і жыццё анідзе не віруе.
Быльнёг быў – няма,
Саскубла зіма,
Бо вечна халодна-галоднай вандруе.



* * *

Навісла завея – сняжынкавы флёр*.
На шыбах – асота крыштальныя плецi.
Падказвае коцік, мой хатні суфлёр:
“Калі ўжо спяваць, дык аб лецейку-леце”.

Страсаю дрымоту – сямейны аскет,
Выходжу ва дворык яшчэ на дасвецці.
У снезе тырчыць заінелы букет,
Як памяць аб леце, аб лецейку-леце.

* * *

Цяпло ўцякло, што ні кажы.
Зімою сонца не сагрэе.
А можа, для людской душы
Стварыў бы хто аранжарэю?

Ніхто. Такіх яшчэ няма.
Аб ёй мы можам толькі марыць.
Таму наўкол пакуль зіма
Аднаасобна гаспадарыць.

Адчуў я шостым пачуццём
І ў яве нават прыкмячаю,
Што часта з ветравым выццём
Даносіцца і крык адчаю.

---

*Флёр – тонкая празрыстая тканіна.



І страх, і боль, і жорсткі здзек
Хаваюць нудныя завеі.
Пачуў, як плача чалавек,
Якому здрадзілі ідэі…

Дарэмна просіць ён зіму –
Яна не будзе абаронцам.
А як жа хочацца яму
Цяпла душэўнага пад сонцам!

* * *

Яшчэ спяць рэстараны і бары,
Не пад чаркай яшчэ бузацёры,
Але ўжо ажылі тратуары,
Для людзей яны, як транспарцёры:

Цягнуць бедных без арыенціру,
Хоць на тварах – задумкі, задачы.
Вугал погляду без транспарціра
Вымярае дзядуля лядачы:

– І чаму так гады пакаралі?
Столькі працы, а дзе яе вынік?
– Глянь, чаго захацеў! Мо маралі? –
Усміхаецца стрымана цынік,

Хоць ва ўсмешцы – ніякага здзеку,
І ў паглядзе – ні кроплі дакору,
Бо і сам, аскабалачак веку,
Падпарадкуецца транспарцёру.



* * *

Як дзіўна прыбраныя дрэўцы на досвітку!
Нібыта народны аматарскі хор.
На кожным – бы фрэнч,
бы сукенка, а то – світка,
А ў іншых яшчэ – светлавэлюмны ўбор.
Хто даў цудатворным сярэбраным лініям
Друз мікракрыштальны,
што гэтак зырчыць?
Галінкі заззялі пад вычварным інеем,
І – вочкі чыесьці з-пад гэтай парчы.

Падзінькваюць елкі крыштальнай ігліцаю,
А вунь – сухі ліст, нібы эквілібрыст.
Світае. На ўзлеску – ва ўсю рэпетыцыя,
Бо хутка зару ўжо зайграе гарніст.

Нарэшце зайграў у пацёмках за спінамі
Дрыготкіх сасёнак, маўклівых ялін.
І хмаркі ў сукеначках жоўта-кармінавых
З чарэна выцягваюць вогненны блін.

І вось пранікае з-за елкі плячыстае
Рухавы праменьчык – смычок залаты.
І дрэвы ўсе разам запелі ўрачыстае,
Ціхусенька так, не адкрыўшы раты.

А людзі? У іх яшчэ клопаты спальныя.
Жадаю ім шчасця і яўных удач.
Гляджу на дзівосы, на неапісальныя,
Як самы шчаслівы і ўдзячны глядач.



# Таццянін дзень

25 12

Снежны, як бы берасцяны,
Аркуш мне зіма дае,
Каб страчыў для любай Ані
Песні зімнія свае.

Запалю ў Таццянін дзень
Факел Гіменея,
Бо ў паветры – шэры цень:
Рана ўжо цямнее.

Гурбы роспачы адолеў,
Толькі зноў і зноў тужу.
Як жа, як сваю я долю
З доляй мілае звяжу.

Запалю ў Таццянін дзень
Факел Гіменея –
Хай на твары шчасця цень
І ў мяне барвее,

Як ружовае світанне,
Як сімфонія зары.
Аня, любенькая Аня,
Музыку жыцця твары.

Адары, Таццянін дзень,
Ласкай Гіменея!
Адарае белы цень –
Снежная завея.



* * *

У снезе родная старонка,
Як перламутравая зала.

Энергетычная варонка,
Усмоктваючы спеў мой, ззяла.

Прастору ўспорваюць акорды,
Нібы сумёты санны полаз;

І песню – на разрыў аорты! –
Спяваю сонцу ў поўны голас.

* * *

Галерэя дзён пражытых
Прада мной аж ад радзін.
Шчасны лёс мой, не кажы ты,
Што я сённячы адзін,

Што не з Аняй, не з Таццянай,
Што пасцель – не травастой…
Лашчуся я ночкай цьмянай
Сёння… з цемраю густой.

Цёмну ночку-архідэю
Пестую, бландзін-язмін:
То замру, то маладзею,
Як няўрокам успамін



Цеплынёй сваёй сагрэе…
За былое, лёс, прабач!
Дні былыя – галерэя,
Персанаж я і глядач.

* * *

Іду па снежаньскаму скверу,
Як па жыцці, свабодна, прама
І ў Новы год наіўна веру,
І веку Новаму таксама.

Бо ў іх усё-ткі – паўнамоцтвы,
І многае ад іх залежыць.
І нездарма зіма прароцтвы
Сягоння гэтак шчодра снежыць.

Дзіцячая ўваскрэсла вера,
Хаця настрой пакуль мінорны.
А снег, як белая папера,
І, дзякуй богу, што не чорны.

Бо людзі самі ў Новым годзе
Свой лёс напішуць чарнатою.
І гэтак – праз усё стагоддзе:
Штодня, штогод – адно і тое!

Сярод праяў дурных і дрэнных
І добрых знойдзецца нямала.
А вось бы перамен карэнных,
Каб трохі шчасця ўсім прыпала!



Дык што нам Новы год падорыць?
І што яму падораць людзі?
Малюе снежань, казку творыць,
А ў рэчаіснасць верне студзень.

## НОВЫ ГОД

01 01

Мінулы год, якім ты быў астральным!
Дзянёчкі ззялі, быццам астры!
Ты апіраўся, лёгкі і кранальны,
На прамянёвыя пілястры.

І непрыкметна плыў нябесным курсам,
А разам я – тваёй арбітай
З жыццёвым назапашаным рэсурсам
І з аўрай, працаю набытай.

Яшчэ дасюль, здаецца, адчуваю
Пах возера і цёплай юшкі,
І водар каласістых ніў, і гаю,
І свежых дошак, і габлюшкі.

Бывай жа, год стары – дзядуля рупны,
Крануў душу твой добры верад!
Па шпалах дзён прыйшоў мой год наступны,
І разам пойдзем з ім наперад!



* * *

Цяжар начы даўно на мне.
Год скончыўся. На сэрцы – скруха.
Душа шчыміць, кудысь імкне –
Напэўна, зводзіць завіруха.

У кругаверці я злавіў
Завейна-снегавую нітку
І ўжо нібы клубочак звіў,
І як бы ўласны саван выткаў.

Але тайком з яго ўначы
Ў жыццё дарогу выбіраю.
Хутчэй бы збегчы, уцячы
Туды… туды, да небакраю,

Дзе можа ўзыйдзе з-за бугроў
Крывава-вогненная поўня
І можа б донарскую кроў
Прапанавала мне любоўна.

І акрыяў бы пакрысе,
Пакінуў бы тутэйшы морак,
Бо кроў нябесная ўзнясе
Мяне за поўню, аж да зорак!

Я б сілы радасці сабраў
І можа там, ля зорак ясных,
Хоць крышачку карысных спраў
Стварыў, як Бог, рукой уласнай…

Нямала думак перамне
Мой розум з вектарам дзіцячым.
Што Новы год пакажа мне
І любай? Пажывём – убачым.

* * *

Зусім заціхлі гукавыя хвалі,
Захраслі ў снезе дэцыбелы.
Каханая, глядзі: якія далі!
І снег наўкола чысты, белы
Так натхняе водарам,
Лёгкай афарбоўкай!
Ажно сэрца ходарам
За табой, сяброўкай!

Ты ўсё сваё каханне – мне? Ды дзе там!..
Згаджуся я і на кавалак,
Каб раставаць зімой, не толькі летам
Ад погляду вачэй-фіялак.
Наталюся водарам,
Іхняй афарбоўкай!
Сэрца – прама ходарам
За табой, сяброўкай!

Сняжынку белую не вінавацім.
Яна лябёдкам, што сястрыца.
І я лячу, што лебедзь-страцім,
Не ведаю, як прызямліцца
Ля фіялкі з водарам,
З дзіўнай афарбоўкай.



Сэрца – прама ходарам
За табой, сяброўкай!

Сівы мароз утрэскаўся ў завею,
Адносіны ўзаемна шырацць.
А я яшчэ мацней кахаць умею,
Дый ты ў мяне – сама любоў і шчырасць!
Шчасце – як бы з водарам,
З яркай афарбоўкай!
Сэрца – прама ходарам
За табой, сяброўкай.

* * *

За намі сёння праз акенцы
Зіма наладзіла нагляд.
А ты ля ёлачкі ў сукенцы,
У аксамітавай, да пят.

Так цвеляцца сняжынкі! Глянь ты:
Усмешкі іхнія ў акне.
А як падміргваюць гірлянды!
Няўжо і ты міргнула мне?

Няўжо і мары нашы самі
Перапляліся? Дзіўны спрыт!
У іх сягоння – важны саміт,
Важней, чым яркі аксаміт.

О, аксаміт! О, акварэлі!
Успышкі твару і душы!



Каб вочкі шчэ ярчэй гарэлі,
Святло ў кватэры патушы.

Канчайма саміт і падпішам
Інтымна-ўзнёслы наш кантракт.
Настала ціша... Сэрца піша,
Што час ужо ісці ў кантакт.

* * *

Вядома ўсім: любы букет завяне,
Бо кветкавы пучок без каранёў.
А ты ў мяне, бы кветачка кахання
Сярод сумётаў, што віхор намёў.

І хоць бы што табе капрыз надвор’я…
А вось мяне палохае прагноз.
Але таму, напэўна, не памёр я,
Што зноў кахаю горача, на знос,

І што ўзабраўся па жыццёвай прозе
На самы пік любові паўз абрыў…
Суровы побыт чуб мой адмарозіў,
І не кажы мне, што пасерабрыў.

Я рады, што ў мяне жыццё такое,
Што твой букет пяшчотнасці не счах,
Што ты, мая абраная леўкоя,
Усё ярчэй квітнееш на вачах.



* * *

І шчасце было, і не раз гаравалі,
Ды сёння пад хмарамі цвёрда стаім.
Маршчынкі твае – грамафонныя хвалі,
Дзе запіс таемны аб лёсе тваім.

Але мо адкрыюць мае пацалункі
Музычнай душы трапяткі тайнапіс...
Ура! Зазвінелі таемныя стрункі!
Прашу, умаляю: сыграй шчэ на біс…

І вось твае вочкі бліснулі блакітам,
І я аж пяю, што нанова адкрыў
Глыбіні пачуццяў тваіх, і які там
Нязгасны, прыгожы душэўны парыў!

О неба! Як старацць твае космахвалі!
Ты імі мяне колькі хочаш маршчынь,
Але як бы моцна гады ні ўплывалі,
Я ўсё ж на любові плыву ў далячынь.

* * *

Дзесьці шэпча чарот пра сваю чарацінку.
Акалелую ў лёдзе халоднай зімой.
Для цябе ў грамафон я паставіў пласцінку –
Даўніна не заўсёды бывае нямой.

Вецер б’е ўсё і б’е ў зледзянелыя бубны,
Насыпаючы выспы адну за адной,
І заводзіць матыў невясёлы і згубны,
Але ён для разладу не стане віной.

Здагадалася ты: мае думкі – віхурай
Вакол цёплай сукенкі, вакол тваіх ног…
І здаецца табе, што я снежнаю гурай
Ля цябе разваліўся, застыў і знямог.

Грае песню завеі старая пласцінка,
І шчарбіна свой такт нетактоўна вядзе.
Слёзы выцер бы белаю снежнай хусцінкай,
Толькі дзе зледзянелыя дзеліся, дзе?

Як улетку, няхай вальсавалі б чароты,
Але ногі ім сцяў ледзяны экстраклей…
Дык надам я пласцінцы хутчэй абароты,
Каб зайграла для нас хоць крыху весялей.

* * *

Вячэрні змрок. Іду да любае.
Прастору цемната звужае.
Застылы месяц носам дзюбае,
Мяне зусім не заўважае.

Хоць рыфмы розум аж намулілі, –
У ноч уперыў погляд востры.
Галінкі дрэў тырчаць рагулямі,
Здзіўляюць ледзякі-наросты.

Любуюся пакатай горкаю.
Уразіла бярозка ў снезе…
Ды што там? Што? Сачу за зоркаю:
Яна з гары насустрач лезе!

Няўжо мая? Няўжо нябесная?
І рыфмай папярхнуўся моўчкі…
Бо траса з неба не адвесная…
Дык гэта ж там чыесьці вочкі!

А неба на зямлю спусцілася:
Адтуль яшчэ, яшчэ два вокі!
О, сэрца! Рытміка ўчасцілася –
Натхніла… боцікі на ўцёкі!

Адно ля вёскі змог агледзецца.
Дзе тыя вочкі? Неба дрэмле.
Нясе старэйшая Мядзведзіца
Малодшай коўш з… халоднай цемрай.

## КАЛЯДЫ

*(КАЛЯДНЫ МЯСАЕД,*
*РАЖАСТВО,*
*РАЖСТВО)*

07 01

Сёння свята. Ражаство!
І на сэрцы – хараство!
Я шчаслівы, рады, рады!
Пачынаюцца Каляды!



Веру свята
Ў гэта свята.
І вы верце, людзі ўсе:
Аніколі
Горкай долі
Нам яно не прынясе.

Толькі бубны,
Толькі песні,
Толькі булкі – на абрус!
Сёння духам уваскрэсне,
Мабыць, кожны беларус.

* * *

Людзі, дзе вы? Вам вяду
Весялосць і Каляду.
Вечар сёння як на дзіва!
Сустракайце нас пачціва!

Не, не трэба нам прытулак,
Проста дайце крышку булак.
Каб не папярхнуцца слінай,
Пачастуйце і вяндлінай.

Мы прымаем і цукеркі,
І грашовыя паперкі.
Не дасце, дык бразну кульбай...
Пачастуйце хоць бы бульбай!



Як няма, Казёл рагаты
Пойдзе да другое хаты,
Патрасе там барадой
І мяшэчкам з калядой.

Вынясуць напой нам хмельны,
Хлеб і скварку на патэльні.
Дзякуй, нам далі, што ёсць.
Каляда ж – пачэсны госць

І, вядома ж, вам аддзячыць,
Пажадае ўсім удачы,
І здароўя, і любові,
І стос грошай ва ўзгалоўі.

Падарункаў далі! Годзе!
Пойдзем, а ў наступным годзе
Шчасця вам і Каляду
Зноў на радасць прывяду.

* * *

Падышоў да акна, але сённячы
Толькі снежныя косы ў акне.
Праўда, шыба, мінулае помнячы,
Час ад часу слязу прамакне.

Збіты з курсу сур'ёзнай прычынаю,
Я парушыў жыцця свайго ход.
Прыглядзеўся: сняжынкі дзяўчынамі
Ля акенца вядуць карагод.



Вунь адна ўжо на шкле завіхаецца…
Гэты прывід, як любка сама:
Вусны белыя міла ўсміхаюцца,
Ды цяпла ў іх, здаецца, няма.

Бачу, долечка – непадуладная,
Аж трымціць на крутым віражы…
А далей што? У ночку калядную,
Завіруха, мне паваражы.

* * *

Закруціліся сняжынкі,
І мяцеліца ў галінкі
Белай пасмай уплятаецца.
А мароз, увесь празрысты,
Ды з бародкай серабрыстай,
Лёг на шыбу, узіраецца.
На стале і бохан смачны,
І кавалачак кумпячны
Ў цесным гурце з марынадамі;
А між імі ганарыцца
Кмінным пахам паляндвіца…
Як не цешыцца Калядамі!
Пажаданні і парады,
Што лунаюць на Каляды,
Як і ясачкі надзей,
Споўняцца для ўсіх людзей.

Ап’яняе… пах кілбасны.
П’яны святам як у басні,



Прад кабетай толькі цвеліцца:
То спявае, то бармоча,
Шчасця большага не хоча,
Чым касматая… мяцеліца.
З неба – снежныя валокны.
Ззяюць ёлачкі праз вокны.
Людзі доляй благаслаўлёныя.
За падоранае свята
Будзе, будзе ёй адплата
Песнямі і працай плённаю.

Пажаданні і парады,
Што гучалі на Каляды,
Як і ясачкі надзей,
Споўняцца для ўсіх людзей.

* * *

Ноч. Завея. А цяпло жывое
Толькі ты мне, любая, даеш.
Ты, як песня, зразумеў даўно я,
І мой лёс ты, і мой лепшы верш,

І з нябесных зорачак суквецце,
І душэўны мір мой, і спакой;
Ты трываеш больш за ўсіх на свеце…
Гэта Бог стварыў цябе такой.

У цябе мо ад сузор'яў яркіх –
Самы лепшы генетычны код,

Ты адзіная доўгажыхарка
З млекакормячых зямных істот.

Дужая і лёгкая, як вецер,
Усплывеш над хваляю марской,
А ў пяшчоце можаш і не мець мер…
Гэта лёс цябе зрабіў такой.

У юнацтве ты была ўлюбёнкай
І сяброўкай на сваім вяку…
Старасць прыйдзе, і не толькі жонкай,
А і нянькай станеш мужыку.

Расцалую я твае маршчыны,
Прытулюся к сівізне шчакой
І скажу: “Прабач, мая жанчына,
Гэта я зрабіў цябе такой”.

* * *

Нашы дні жыццё гартала.
Не заўважыла ты, як
Стаць паспела дамай сталай,
Ды і я ўжо не юнак.

Цёплых мрояў ізатэрмы
Шлях нам азначалі скрозь.
Адчуваем і цяпер мы
Аўру дзён тых – маладосць.



Глянь, каханая мая ты:
Небасхіл – жывы агмень*.
А за намі ўслед – суняты,
Як бы мроя, сціплы цень,

То санлівы, то рухомы,
Ды бясцелы і нямы.
Мабыць, набылі яго мы
Ў нетрах дажыццёвай цьмы.

І чамусь яго не цэнім,
Лічым формай небыцця,
Хоць і крочым з гэтым ценем
У святло свайго жыцця.

Нашы дні жыццё гартае,
Размаўляючы на мігі…
Вунь старонка шчэ пустая
Ў вокладцы жыццёвай кнігі!

* * *

Ледзяную мясарубку
Ў снезе ўсталяваў мароз –
Вецер круціць, зерне-крупкі
Па ваколіцы панёс.

*Ачаг, вогнішча.



Іх балоцісты мячэўнік*
Больш за ўсіх нагроб сабе,
Быццам заінелы пеўнік,
Не спяшаючы, дзяўбе;

Травяны, а ўсё-ткі здольны
Да суровага жыцця...
Снег яму – абрус настольны,
Крупкі – посная куцця.

## БАГАТАЯ КУЦЦЯ

*(ШЧОДРАЯ)*

13 01

Каб не быў увесь год посным,
Абяссіленым і млосным,
Каб народ не страціў моцы,
Дух і радасных эмоцый,

Каб рупліва жыў і сыта,
Трэба сёння менавіта
Кінуць жыць у надгаладзь.
Гаспадыня, нам наладзь

Невялічкае застолле.
Хай скаромнага – ды болей! –
Прыме страўнік мой парожні:
Кашу з маслам, блін тваро́жны...

*Шматгадовая высокая балотная трава.



І пастаў чыгунчык з мясам,
Буду – цур! – накладваць я сам.
Раз Калядны Мясаед,
Дай і чарачку ў абед.

Хай сабе завея свішча,
А мы пойдзем на ігрышча.
Болей сілы – болей руху
Будзе на Куццю-шчадруху.

* * *

Зямля, вада і ўсё жывое
Схавана ў снежнай белізне.
Адно што мы з табою двое
Ідзём па хрусткай цаліне.

А белы снег, што белы сон,
Расцёкся моўчкі па ўсім свеце,
І толькі побач вальс-бастон
Выкручвае ўрачыста вецер:

То крутанецца ў снежным дыме,
То дзесь між гурбамі застыў,
То нас, узбуджаных, абдыме,
Насвістваючы свой матыў.

Хоць белы снег, што белы сон –
Сняжынка кожная вальсуе.
І з тваім сэрцам ва ўнісон
Маё ўтрапёнае пульсуе.



Амуры круцяцца ў віхуры.
Зіма камусь, любоў камусь…
Красуйся край мой белакуры,
Чаруючая Беларусь!

А белы снег – што белы сон.
Ля нас вятрыска ў завіханні…
У чарадзе начэй і дзён
І доля наша, і каханне.

## СТАРЫ НОВЫ ГОД

14 01

Віруе Новы год, і студзень
Запарушыў усю сядзібу.
Даўжэзнай ноччу спаць мы будзем…
Ды хтосьці стукаціць у шыбу.

Гляджу: дубее старац нейкі,
Дрыжыць заснежаны, сутулы.
Сняжынкамі абліплі вейкі,
І прымарожаныя скулы.

“Не бойцеся, я не памерлы!
Я Новы год Стары, жывучы.
Вяскоўцы, адчыняйце дзверы,
Хутчэй збірайцеся да кучы,

Бо завітаў з куццёй багатай.
Гуляйма, людцы! Не бядуем!



Прадоўжым студзеньскія святы!
Яшчэ крыху пакалядуем!”

І загулялі людзі з дзедам,
І весяліліся да ранку
Са Шчадрацом і з Мясаедам,
Не забываючы пра шклянку.

І я ахвотна калядую,
Ды памятую, што сягоння
Не трэба мацаць маладую,
Бо Дзень абрэзвання Гасподня.

Ну што ж, абрэзаў дык абрэзаў –
Была такая завядзёнка.
Але ж у хрысціян-гарэзаў
Таго не дазваляе жонка…

Ва ўсіх дамах шумелі гульбы,
І я датуль быў у імпрэзе,
Пакуль рыпеў сваёю кульбай
Старэнькі Новы год у снезе.

* * *

На далоні – сняжынка. Яна
Для страфы – першы накід эскізны.
На застылым абшары вялізным –
Беласнежны абрус-прасціна.



Дзевы-дрэвы ўсміхаюцца мне
Ў зіхатлівай сваёй белізне –
Яскі-бліскаўкі ў срэбнай бялізне.
Раптам одум лірычны як блісне!

І па-іншаму бачыцца гай:
Сосныззяюць у строях вясельных.
Дзе ж музыка? Прыйдзі і зайграй!
Зачакаўся цябе сумны ельнік.

Ажыла залацістая рань.
Грай, праменьчык! Углыбся ў снег сыпкі!
Футаралы сумётаў тарань:
Там твае захаваныя скрыпкі.

Страпянуўся маўклівы мароз,
І пасыпаўся іней празрысты,
А на кудзерках змерзлых бяроз
Крышталямі павіслі маністы.

Сэрца дзынькнула. Снег зарыпеў.
Звон паветра ці гэта здалося?
Проста цуд! Сапраўды ў лесе спеў –
Ледзьве чутнае рознагалоссе.

* * *

Каму вяночак з лісцяў лаўра,
Каму дзяржаўная кукарда,
А нада мною часам – аўра,
Над галавой былога барда.

Сябрук сцвярджаў, што на радары
Яна высвечваецца ўпарта,
Хаця даўно мае гітары
Сумуюць у скляпах ламбарда.

Жыццё без іх – амаль што проза.
Ды, відавочна, як ні пнуцца,
А ў абцугах поліартрозу
Рытмічна пальцы ўжо не гнуцца.

Я не рухавы ўжо, не хіжы,
Хаця яшчэ з душою барда.
Шарманку ўзяць бы, ды ў Парыжы
Яна на вуліцы Манмартра,

Ці мо ў Ліёне, ці мо ў Гаўры
Якраз на строме авангарду.
Як перадаць музычнасць аўры?
Звычайнай мовы мала барду.

* * *

Гурт птушыны віруе над лозамі,
Над пралескам, замерзлай ракой,
Ды ці знойдзе ён, гнаны марозамі,
Крышку ежы, цяпло і спакой?

Я душою з тым гуртам вірую,
Хаця думкі сцінае мароз.
Ці знайду ўжо затоку старую,
Дзе касач буйнакветкавы рос?



Здань мінулага ўстала на беразе:
Разглядзеў чараўніцу сваю,
Што трымаў за руку ў мяккім верасе,
Што так песціў у светлым гаю.

Да яе крочу, ды разварочвае
Штось мяне з паўдарогі дамоў,
Бо адчуў чарадзейства жаночае,
Як бы сілу далёкіх замоў.

* * *

Зябка курчуся пад завірухаю,
Успамін цёплы крыху астыў.
Праспявай мне, віхура, паслухаю
Твой тужлівы, халодны матыў.

Раптам чую: знаёмая музыка!
Спахапіўся, насустрач бягу.
Не супыніш, мяцеліца, мужыка,
Не чапляй касмылі за нагу!

* * *

Мая любка, прабач, калі грэшны,
Але сённячы ўсё-ткі няймецца
Праз даліну душы тваёй снежнай
Узысці на ляднік твайго сэрца.

Раз пачуцці мае, што цунамі,
То рашуся на крайнія ўчынкі,



Ну і што, калі сёння між намі
Сваю мытню стварылі сняжынкі.

Мы азарту шчэ болей накопім
І сняжынкі любоўю растопім,
Нездарма для цябе, для ўлюбёнкі,
Разам з кветкай прынёс і валёнкі.

## ВАДОХРЫШЧА

*(ХРЫШЧЭННЕ,*
*КШЭННЕ,*
*ВАДАХРОСТ)*

19 01

Дзівіўся бор заснежаны:
Снягі ў такім свячэнні!
Дарогай ненаезджанай
Прыйшло й сюды Хрышчэнне.

Вадохрышча! Адбілася
Святло ў кустах – крыніца!
За ёй ніжэй ільснілася
Свянцоная вадзіца.

То пад сумёт хавалася,
То зноўку выбягала.
І вось накіравалася
Да снежнага прагалу.



З ялінаю суцешанай
Раз-пораз – перазовы.
І тут жа за алешынай
Зноў пад сумёт – у схову.

Смяецца ў цемры, слізгае
Ля каранёў шыпшыны.
І… раптам сцежкі блізкія
Запрудзілі машыны.

Ліліся з іх дарожныя
І найгрышы, і песні.
А людзі ўсё парожняе
Для напаўнення неслі.

І ўсіх вадой асвечанай
Крыніца частавала,
Цяпло сваё адвечнае
Ласкава раздавала

Затомленым і змучаным,
Бы кроў з зямное вены,
Усім, з надзеяй злучаным…
О, час добраслаўленны!

Хрышчэнне! Дух Вадохрышча!
Натхненне Вадахроста,
Што сум, і тлум, і зло нішча!
Без веры – не так проста!



* * *

Адольвае штодня спакуса
Палепшыць тое, што ўжо ёсць.
Па прыкладу Хрыста Ісуса
Зрабіць і я павінен штось

Для ўмацавання нашай веры,
Святой, і шчырай, і нязгаснай,
Каб выйсці з бытавухі шэрай
Кірункам зараніцы яснай

Да справядлівасці і праўды
І для здзяйснення ўсіх патрэб.
О, дзякуй, Божа, што мне даў ты
І ежу, і духоўны хлеб.

Здыму з хрыбта крыж, размахнуся!
Нячысцікі, навекі згіньце!
Твая кроў і мая, Ісусе,
З'ядналіся на белым бінце.

* * *

Ну дзе ў зімы ўжо тая ласка
        і занадта чыстая любоў,
Хоць і злятае часам яска
        з беласнежна-глянцавых зубоў?

Няўжо, сябры, вы чыстай праўдай
        снежныя разлогі завяце?



Дык ім і сто гарачых спраў дай –
знікнуць назаўсёды ў мерзлаце.

Зіма хітруе. Белай маскай
прыкрывае міміку сваю,
І гэткай жа сваёй замазкай
рот замуравала ручаю.

У бедака дыханне спёрла,
ды скрозь гурбу пара паўстае:
Моц песні распірае горла –
вязень гімны сонейку пяе!

* * *

Снегапад густы, калматы,
Вейкі сеючы ля хаты,
Творча лепіць без марокі
Ў садзе снежнае пано,
Зіркае тысячавокі,
А вачэй і не відно.

Завіруха ў футры з ветру,
У бялюткай шапцы з фетру
Згубленыя вейкі злёту
Падхапіла, узняла,
Ссунула іх у сумёты,
З каптурамі намяла.

Снегапад, нястрымны нейкі,
Кінуў на далонь мне вейкі,



І з-пад іх у белай скрусе
Паказалася сляза:
“Што ты скажаш завірусе?
Супраць ты такой ці “за”?

Завірухі, снегапады,
Не жадаю я вам звады,
Не абражу, не аблаю.
Вы мяціце, як мялі:
Каласістаму ўраджаю
Трэба вільгаць у зямлі.

* * *

Твар месячыка ў перламутры.
І сонца мерзне ў вышыні.
Яліна кожная – у футры,
У шапках футравых і пні.

Зайздрошчу крышачку ядлоўцу,
Бо не дрыжыць ён, балазе
Красуе ў снегавой ватоўцы,
І бурка з футры – на назе.

Даўгія цені, што палосы.
А на паляначцы ў журбе
Палеглі гурбы-мерыносы,
І ветрык воўну не скубе.

Затое ўчора ў завірусе
Чыніўся неймаверны гвалт!



А сёння сонечна! Малюся
Лясному духу, бо накшталт

Васковым свечкам – сосны стройна
Радком на снежным алтары.
І гэтак радасна і мройна!
Душа, шэдэўры сатвары!

Але выдатна мо не ўдасца,
Не ахапіць усю красу.
Затое ўражанняў, што ў казцы!
А з елак болей натрасу!

* * *

Учора Люты ўвечар позна
Схапіў і сціснуў дуб вячысты,
І зарадзіў рукой марознай
Яго ствол інеем іскрыстым.

І стрэліў дуб уверх з прыгорка
Вось гэтым інеем бялёсым,
І паляцелі ў неба зоркі
І кучкамі, і ўроссып.

З таго марознага салюту
Дасюль мігцяць начныя высі.
Заганарыўся месяц Люты,
Усім паказваючы рысы



Характару – амаль жывыя:
Калі спаткае завіруху, –
Раскрэмзае, і тая вые,
Навейваючы тлум і скруху.

Але сягоння ціха, ясна,
Паветра – без ніякіх ліній.
І Люты клапатліва, страсна
Стварае свой крыштальны іней.

Дуб зіхаціць. І ясень лысы
На сонейку ажно іскрыцца.
Пры ім ядловец кіпарысны
Трымціць пад белаю іглiцай.

Гляджу, любуюся, а вейкі
Звіняць аздобай ледзяною;
Дыміцца пара з-пад цыгейкі –
Іду глыбокай палазнёю.

* * *

Блукаю, змёрзлы, па ласінцы.
Ахвота ж пушчай валачыцца!
Яліна ў снегавой касынцы
Глядзіць калюча, што ваўчыца.

Далей за гурбай – ці то суччы,
Ці то адростачкі ад рога…
А замець – проста жах паўзучы!
А ўзніклы цень – перасцярога!



Упэўнены, што гэта – боязь
У збегу ўяўнасці ўсялякай.
І спатыкнуўся, лесу ў пояс
Паклон адвесіўшы з падзякай.

Ласі, вядома ж, не бандыты.
І грозны дзік не абрабуе.
Гушчар, чароўнасцю спавіты,
Ужо бадзёрыць і спрабуе

Мяне, бяссільнага, суцешыць.
А снегавей з усмешкай снежнай
Страх выдзімае з-пад адзежы,
Надзьмуўшы храбрасці бязмежнай.

* * *

Так мяце! У завейнай мятле
Адчуваецца нешта чароўнае.
Толькі што? Невядома, але
Здагадаюся хутка ўсё роўна я.

Не ўдалося пакуль. Не тужу.
Шмат свайго і зямнога, і небнага
Падарыць магу ветру-бамжу:
Не шкадую жыццёва-патрэбнага.

Хай бярэ. Да людзей хай нясе
І да дрэў у заснежаным вэлюме:
Як бы ўсе набылі пакрысе,
Мо надзей на цяпло болей мелі б мы.



* * *

Каб мы, шчасліўцы, ад пацех
І ад раскошы не панелі, –
Для нас узімку – мокры снег,
А летам – дождж аледзянелы.

У носе – грып, у роце – флюс,
Яшчэ і буры, і цунамі…
А як яшчэ й каханне плюс,
То што тады ўжо будзе з намі?

## ДЗЕНЬ СВЯТОГА ВАЛЯНЦІНА

14 02

Мой пацалунак мяккагучны:
Падстаў пунсовенькія губкі
Дый прыкладзіся болей зручна
Да рота тэлефоннай трубкі!

Вось так: цмок, цмок і ўжо ўзацяжку,
І ўжо ўпрысоску… Не, не жарты.
Што? Адарвацца вельмі цяжка?
Дык адрывацца і не варта.

Маўчу і жарсці не тушу.
Нацешыць бы хаця душу.
О! Гэтак хораша двaім!
Як быццам побач мы стаім.



Неўтаймаванае каханне!
О Божа! Жах не без прычыны!
Бо я з тваім пачуў дыханне
Чыёсьці шчэ... Няўжо мужчыны?..

* * *

Прабач, сяброўчачка, што так жартую.
Пакрыўдзіць не хачу любоў святую,
Бо хочацца і ўлетку з ёй, і ўзімку
Па стомленым жыцці ісці ў абдымку.

І хай усіх-усіх яна, святая,
Заўсёды з добрай раніцай вітае,
І хай усім-усім на белым свеце,
Нібыта сонейка, ласкава свеціць,

Хай маладым нясе, даруе свята,
Без роздуму хай прысылае свата.

* * *

Снег нудны, маўклівы, без рыпу.
Настрой усяго на тры балы,
Бо зноў эпідэмія грыпу
Са святам кахання супала.

А тут яшчэ вецер прыносіць
То дождж, то мароз, а то слоту.
І гэтакі козыт у носе,
Што чыхнуць на грып той ахвота.



Кахаю. Згадзіся ты з фактам:
Як доказ прынёс падарунак.
А болей – ніякіх кантактаў!
Пад маскай пакуль пацалунак.

Каханне злучаецца з грыпам,
Як дзве эпідэміі разам.
Смаркаўся, угадваў і лыпаў:
Дзе горшая ўсё-ткі зараза?

* * *

Перажываюць паэты сур'ёзна:
Роздумы ў вершах амаль паўтараюцца,
Хоць вечна ў пошуках і скрупулёзна
Яркія словы ў страфу падбіраюцца.

Вось і мяне сёння думка спыняе:
Як бы ўва мне не разгледзелі блазана.
Трэба ж! Каханне яшчэ ўсё натхняе!
Хоць аб ім іншымі многа ўжо сказана.

Толькі ж разгледзім любую эпоху:
Людзі заўжды аднастайна кахаліся.
Той нечакана, а тая патроху,
Як і цяпер, пачуццём разгараліся.

Сонца схаваецца – свецяцца зоры.
Зімы, і вёсны, і леты, і восені,
Смерць і нарадзіны – гэта ж паўторы,
Хоць і нязначныя маюць адрозненні.



Дык не сумуйце, паэты, тварыце!
Думкі прасейвайце ў роздумным кошыку.
Абавязкова ў вас будуць адкрыцці,
Раз вы ў нястомным і радасным пошуку.

## ГРАМНІЦЫ

### (СТРЭЧАННЕ, УСТРЭЧАННЕ)

15 02

Зіма да скону йдзе, бадай,
Згубіла ў полі завіруху.
Хутчэй жа свечку, жонка, дай –
Запальваю ад злога духу.

Сягоння Стрэчанне, Грамніцы,
На ганку – кропелька вадзіцы…
Нямала звычаяў, традыцый
Яшчэ народ захоўвае:
У куфар жонка рукавіцы
Хавае кажуховыя.

Зіма з вясной – у паядынку,
Хоць і сняжок падвальвае.
А я старанна на будынку
Замоўны крыж выпальваю,

Каб ні дажджы, і ні пажары
Яго вавек не зводзілі…
О добрыя замовы, чары!
Адкуль вы папрыходзілі?



Са свечкаю засеўкі славяць,
І на вяселлі свечку ставяць,
І ад хваробы, і ад буры,
Пры родах і калі… хаўтуры.

Я свечак накуплю грамнічных
На ўсе здарэнні і падзеі.
Хоць і няма ў іх сіл магічных,
Але ёсць прымхі і надзеі.

* * *

Холад зімні цісне люта.
Але ў хаце на акенцы –
Яркі мой пястунчык-люцік,
Быццам бы жывы агеньчык.
Так удзячны ўсе яму,
Што ўпрыгожвае зіму.

А за мною крочыць Люты
Ў завіруху апрануты,
Свае думкі калыхае,
І ўсім бачна, што кахае
Некага ён патаемна.
Толькі ж хто яго ўзаемна?

Відавочна, шустры Люты
Люцік вытаргаваць хоча:
Мне то снегам, то валютай
Храбусціць, рыпіць, шапоча…



А я люцік не аддам,
Ён – хвала маім гадам!

Зноў за мною крочыць Люты
Раззлаваны, распрануты,
Кулакамі мне махае,
Сыпле снегам, уздыхае,
Хоць без пары, ды кахае...
Гэй, траскун! Гарачы розум
Астудзі крыху марозам!

* * *

Лягла
Імгла
Марознай вяласцю.
Было
Сяло,
Ды ў ёй схавалася.

Быллё,
Галлё –
У колкім інеі:
З марыл-
Бяліл
Вятры іх вынялі.

О, густ!
І куст
Нібы з каралямі.
Алень



Ці цень
Блiснуў караламі.

Ліса –
Краса,
І не далёкая.
Бяляк
Размяк,
Бо сэрца ёкае.

Імгліць,
Ігліць.
Ніхто не ўколецца.
Лягла
Імгла.
У сне ваколіца.

* * *

Пакрыў снег апалае лісце.
Спіць возера белай палянай.
А дзесь рыбакі ўжо сышліся,
Каб скласці свае бізнес-планы.

Узаўтра на бераг прыруляць
На хрыплай машыне з адышкай.
Ім возера здасца каструляй,
А вуда – чароўнаю лыжкай.

Памкнецца цікаўная рыба
Даведацца ля свідравіны,



Як пахне пшанічная скіба,
Як водар уражвае вінны.

А рыба – народзец упарты…
Зусім не палохаюць плотак
Глухі звон узнятае кварты
І соль анекдотаў і плётак…

Складуцца, схаваюцца вуды,
Пачуецца чых легкавушкі,
І знікнуць імгненна прыблуды,
Пакінуўшы косці ад юшкі.

## ПРАДВЕСНЕ

Снег белы ў макраце загруз –
Зіма замочвае
абрус,
А вунь, за хмаркаю якраз, –
Ласкавы, сонечны
абраз.
Я вочы апускаю ўніз:
За дрэвамі – якісь
абрыс,
Прагульваецца між бяроз,
Імхамі шэрымі
аброс.
Сукі прыцэльваюцца спрэс,
І кожны з іх, нібы
абрэз.



Са дна ракі зірнула храбра
І зноў замкнула створкі
абра*.
Здаецца, гаварыў Майн Рыд,
Што холад міражом
абрыд.
“Дарогу сонечным вятрам!” –
Ускрыкнуў і сусед
Абрам.
І я таксама быў бы рад
Вясновы распачаць
абрад,
Пагнаўшы лютага ў загрыў
З вадою талаю ў
абрыў.
Крычу вятрыску ўжо шматкроць,
“Вазьмі сакавіка ў
аброць
І, ведучы, не бі па боку,
А дай аўсянага
аброку**.
Ура! Я рады, бо быў праў:
Вятрыска лепшы шлях
абраў!

---

*Абра – двухстворчаты малюск.
**Аброк – корм для коней.



* * *

Жыццё яшчэ піша жывыя радкі,
А ўсе прачытаць, як відаць, не паспею.
За аўтарам-лёсам навыперадкі
Бягу, праглядаю сваю эпапею.

А поўня глядзіць на мяне, як радар, –
Запеленгавала слязінку на вейках.
За краем зямлі бліснуў сонца ліхтар –
Знік сённяшні дзень, што цягнік той па рэйках,

Забыўшы адно залатое руно –
У небе атару аблок-мерыносаў.
Гляджу, паглядаю за імі даўно…
Вышукваю шлях да нябёсаў.

* * *

“Сэнс жыцця – у працы, толькі ў працы!” –
Павучаў народ яшчэ Гарацый.

“Не, – сцвярджаў чыноўнік, – у нарадзе!”
“Сэнс жыцця, – кіпеў тыран, – ва ўладзе”, –

Гладзячы лязо сякеры.
“Сэнс жыцця, – шапнуў святар, – у веры!” –

Рызу ўсклаўшы, золатам убрану,
Перш чым Богу, б’е паклон тырану.



Тут піжон крутнуў сваю чаропку:
“Сэнс жыцця, вядома, і ў заробку,

І ў маім цудоўным адпачынку:
Завяду дурненькую дзяўчынку

На танцулькі ў тлуме рэстарана,
Дзе віно ракой ліецца з крана,

Дзе каньяк нярэдка ў чарку булькаў,
І за згоду дам з ікрою булку…”

“А хіба ў тым сэнс? Ды аніякі! –
Рагаталі з хлопца забіякі. –

Мы і так ядзім і п’ём на срэбры,
А расплачваюцца вашы рэбры”.

“Людзі, нельга волю даць пагрозам!
Сэнс жыцця – адвечны мір і розум,

І калі вяршэнствуе навука”, –
Кажа дзед, пагладжваючы ўнука.

“Сэнс жыцця, – сказала бацьку маці, –
Дзетак гадаваць у цёплай хаце”.

“Сэнс жыцця – заўсёды ў прыгажосьці”, –
Гаварыў Міцкевіч у Завоссі.

“Думаю, не ў творчасці мастацкай, –
Хват прамовіў, – а ў натуры хвацкай”, –



І ўспрыняць не хоча слоў паэта.
Што ж, усіх турбуе тэма гэта,

Ды дарма спрачаемся, крычым.
Дзе вось гэты сэнс жыцця і ў чым?

Сэнс жыцця, паразважайце, ці
Не ў самім падораным жыцці?

* * *

Я збудаваў хацінку з лёгкіх вершаў,
Таму харэем і хварэем з кіскай,
Непрадказальную сцяну падпершы
Даўно не саматворчай самапіскай,

Хаця жывы яшчэ чарнільны стрыжань,
Які кляпаўся на кавадле моўнай.
Мінуўшчына на фотках стала рыжай
І лёгкай зданню ў памяці няўлоўнай.

Пажоўк і човен, і лісты аера,
І нават рэчка, знеслая надзею,
Але не ты, любоў мая і вера…
Гляджу і з радасці аж маладзею!

І верш даўнейшы голасна чытаю,
Акампаніруе Шапэн і Глінка…
Любоў і веру светлую вітаю!
Дык не збягай, чароўная хвілінка!



Сваціся доўга сонечнай дажджынкай,
І незабудкаю ўзрастай з былога!
Імгненне, стой! Жыццёвыя дажынкі
Ўжо час канчаць пад хмаркай эпілога.

* * *

Пражытыя дзянькі, нібыта вершы –
Там і паэзія, і боль, і стома –
У зборнікі жыцця ўвайшлі адмершы...
А як адтуль дастаць? З якога тома?

Мінулы год, нібыта кніжка часу,
Панёсся ўвысь, да небнае паліцы,
І дзесьці ў зорах, прачарціўшы трасу,
Цішком у млечным воблаку пыліцца.

## ПРЫВІТАННЕ, САКАВІК!

Яшчэ падснежнік дзесьці ў схове,
Ды з ім наладжваю кантакт.
Вясна нясе зару любові,
Хоць і зімой не быў антракт.

Зайграла сэрца інтэрмецца,
І мне пяецца! Так пяецца!

Цяплом насычана паветра,
І не відно ўжо снежных дзюн.

Жыццё наўкол, што аперэта,
І не апошні я пяюн,

Бо грае сэрца інтэрмецца,
І мне пяецца, так пяецца!

Пачаўся снегу рух і лёду,
З паводкаю матыў плыве…
Для жыццярадасных мелодый
Адкрыў прычал у галаве,

Бо грае сэрца інтэрмецца,
І мне пяецца, так пяецца!

* * *

Патугі зімнія аслаблены,
Завеяў-павітух няма.
Яшчэ зусім не лета бабіна,
Ды і не дзедава зіма.

Сняжынкі толькі зрэдку сеюцца
З узмаху ветравай рукі.
На сонейку сцюдзёным грэюцца
Цяплом надзьмутыя гракі.

З-пад снегу ўсюды – плямы чорныя:
Дзярно – што шмоцце жабрака.
Вясна ляціць, крыло апорнае,
Відаць, пазычыла ў грака.



* * *

Зліваюцца хай сум, і радасць,
І боль з бяссонніцай начэй,
А дзень узаўтра мо пяра дасць,
Каб крылы апярыць хутчэй.

Вятрыска дзьме сваю мелодыю:
То тлум, то шум, то рэзкі свіст.
Я слыхам як-ніяк валодаю:
Кранае брэйк, расчуліў твіст.

Такая музыкальнасць веку,
Што захаплення не ўтаю,
Але паліфаніі здзеку
Ўжо не паддамся, устаю!

Шпарчэй дзянькі махаюць крыламі…
Шкада: не я іх праграміст,
Бо з брэйкам, твістам і з кадрылямі
Лячу ў сусвет, як з дрэва ліст.

О доля! Не спяшайся! Зжалься!
Спыні ля стромкае мяжы,
Яшчэ разок у рытме вальса
На роднай сцежцы закружы.



* * *

Дзякуй сонейку і зорам,
Што даверліва дарылі
І сумленне мне, і сорам,
І свае праменні-крылы.
Дзякуй, родная зямліца,
Дзякуй, камяні і травы,
Што мне ў хаце не сядзіцца,
І што шлях жыцця цікавы.

Як бы ні круціўся вецер, –
Лёс мой будзе мець працяг.
Месячык і той прыкмеціў:
Я нясу жыццёвы сцяг!

Дзякуй, важкае калоссе,
Дзякуй, яблыні і слівы,
Што мне радасна жылося
І што часам быў шчаслівы.
Дзякуй, ручаі і рэчкі,
І крыніцы, і азёры,
Што адолеў тлум і спрэчкі,
Што натхнёны і бадзёры.

Як бы ні круціўся вецер, –
Лёс мой будзе мець працяг.
Месячык і той прыкмеціў,
Што я ўвесь – жыццёвы сцяг.

Дзякую табе, край мілы,
Што настрой твой і лагода



Мне далі любові, сілы,
Што пражыў я поры года,
І што з іхняга квартэта
Я вясну зноў апяваю
І што радасці за гэта
Ад нікога не хаваю.

Як бы ні круціўся вецер, –
Лёс мой будзе мець працяг.
Месячык і той прыкмеціў:
Я нясу жыццёвы сцяг!

## ЭПІЛОГ

Чаго чакаць ад эпілога?
Напэўна, вынікаў былога,

Альбо разваг пра боль і скруху,
Альбо разгляда хібаў духу,

Што змог бы даць і эпікрыз.
А мо напомніць пра круіз

Героя ў моры бурнай долі
Да бухты шчасця і патолі?

Плыве, цурчыць настрой вясновы!
Ужо з вадзіцай след падковы!..

Гуляе конь сакавіковы,
Здзіўляе сілай цягніковай,
Па каляіне шматвяковай

Вязе і веру, і адвагу
І да жыцця ўзнаўляе смагу.

Чытач, давай ужо завершым
Паэму года гэтым вершам.



# ЗМЕСТ



## ПЕСНІ ВЯСНЫ





## ПЕСНІ ЛЕТА

## ПЕСНІ ВОСЕНІ





## ПЕСНІ ЗІМЫ

Літаратурна-мастацкае выданне

**Корнеў** Алесь Касьянавіч

ЯК ПЕСНЯ, ГОД МІНАЕ
Сентыментальная паэма

Рэдактар *Я. Гучок*
Камп'ютэрная вёрстка *Н. Фіцнер*
Карэктар *Н. Фіцнер*
Дызайн вокладкі *У. Гундар*
У афармленні кнігі выкарыстаны фотаздымкі
*А. Камаровай, М. Падгайскага, І. Лагвіновіча*

Кніга выдадзена на ўласныя сродкі аўтара

Падпісана да друку 12.07.2010. Фармат 84x100 $^{1}/_{32}$.
Папера афсетная. Рызаграфія. Ум. друк. арк. 13,3.
Ул.-выд. арк. 11. Тыраж 99. Заказ 3428.

Выдавец і паліграфічнае выкананне:
прыватнае вытворча-гандлёвае унітарнае прадпрыемства
«Издательство "Альтернатива"»
ЛИ № 02330/0494051 ад 03.02.2009.
ЛП № 02330/0150460 ад 25.02.2009.
Пр. Машэрава, 75/1, к. 312, 224013 г. Брэст.